Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 32 (4976) 13 жніўня 2010 г.

## У нумары:





# Вобразнасць цэлага свету



У вялікай зале сталічнага Музея сучаснага выяўленчага мастацтва адбылося адкрыццё выстаўкі графікі Паўла Татарнікава «Брама мінулага». Яна наладжана ў рамках грамадскага абмеркавання вылучэння серыі графічных твораў «Брама мінулага» ад Беларускага саюза мастакоў і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь 2010 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

Усе творы серыі, акрамя ўдзелу ў шматлікіх нацыянальных экспазіцыях станковага мастацтва, былі выкарыстаны ў якасці элементаў кніжнага афармлення мастацкай літаратуры. Многія выданні з гэтымі творамі былі адзначаны прэміямі Нацыянальнага конкурсу “Мастацтва кнігі”, дэманстраваліся на міжнародных кніжных кірмашах і мастацкіх конкурсах.

Паводле слоў мастацтвазнаўцы Алесі Белявец, Павел Татарнікаў вольна перамяшчаецца — ва унісон сваёй прафесіі: кнігі не ведаюць межаў, а моўныя бар’еры лёгка пераадольваюць візуальныя вобразы. Сёння ён можа дазволіць сабе выбіраць, дзе працаваць, на чым спыніць сваю творчую ўвагу. Высокі ўзровень валодання рамяством, несумненны талент, прызнанне, а таксама важная для мастака рэч — незашоранасць: ён умее да любой задачы падысці па-новаму, кожны раз натхняецца новай энергіяй. Яго кнігі раскрываюць гледачу свой завершаны і пераканальны свет, гэта цэласныя кампазіцыі — ад вокладкі і да буквіцы. Ілюстрацыі Татарнікава выдатна глядзяцца і ў экспазіцыях любой галерэі — яны сучасныя і выразныя, насычаныя нюансамі сэнсаў; панарама і дэталь, ёмістасць сімвала і эмацыянальнасць фактуры, лёгкасць руху рукі і напружанасць роздуму — усё гэта стварае стыль, почырк і манеру. Перыпетыі яго непаўторнага свету ярка і вобразна раскрываюць нам плынь гісторыі, увасобленай у кнізе.

25 графічных твораў серыі ўвасабляюць прынцыпы сістэмнага творчага асэнсавання гістарычных фактаў ды іх таленавітага мастацкага ўвасаблення праз сучасныя пластычныя сродкі, глыбока спалучаныя з найлепшымі класічнымі традыцыямі айчыннага і сусветнага мастацтва. Грунтоўнае выяўленне праз сродкі мастацтва характэрных рысаў лепшых прадстаўнікоў Беларусі, надзяленне вядомых гістарычных асоб высакароднымі якасцямі прадэманстравана ў графічных творах партрэтнага характару. Аўтар звярнуўся да вобразаў Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, Міколы Гусоўскага, Яна Хадкевіча, Яўхіма Храптовіча, Настассі — князёўны Слуцкай, Соф'і Галыпанскай, Льва Сапегі, Мікалая Радзівіла Сіроткі, Канстанціна Астрожскага, Яна Гаштольда.

Гістарычныя постаці ў творчым метадзе мастака не існуюць у адрыве ад адлюстравання шырокіх народных мас, помнікаў дойлідства і мастацтва, якія ўспрымаюцца як сімвалы нацыянальнай самабытнасці беларускага народа. Гэтак мастак адлюстроўвае беларускія нацыянальныя святыні — крыж Еўфрасінні Полацкай, Тураўскае Евангелле, абраз Маці Божай Жыровіцкай. У творах увасоблены славутыя шэдэўры нацыянальнай архітэктуры — Полацкая Сафія, Барысаглебская (Каложская) царква, Маламажэйкаўская і Сынковіцкая цэрквы-крэпасці, Камянецкая вежа, Мірскі замак і палац Радзівілаў у Нясвіжы, Мікалаеўская царква ў Магілёве і іншыя.

Працуючы над творамі, аўтар дакладна асэнсоўваў задачу арганічна ўпісаць у канкрэтна-гістарычны краявід творы партрэтнага жанру і дасягнуў у гэтым высокага мастацкага ўзроўню. Павел Татарнікаў тлумачыць: “Чаму я атрымліваю асалоду ад творчасці? Я не проста шукаю прыгожы сілуэт, гарманічныя колеры, а стаўлю перад сабой шырэйшыя задачы: вобразна паказаць цэлы свет”.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: Павел Пташнікаў работы з серыі “Брама мінулага” “Аршанская кальчуга”; “Софья Гальшанская”.

Фота Кастуся Дробава.





## Пунктірам

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка даручыў актывізаваць работу па прыняцці ў бліжэйшы час дзяржаўнай праграмы развіцця культуры Беларусі на 2011-2015 гады. Гэтая праграма створыць дадатковыя магчымасці для новага этапу развіцця культуры і мастацтва Беларусі ў бліжэйшай пяцігодзы.

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адобрыў ініцыятыву аб стварэнні пры ўрадзе нашай краіны Грамадскага савета па развіцці культуры і мастацтва. Чакаецца, што ў яго склад увойдуць як усім вядомыя дзеячы культуры і мастацтва Беларусі, так і прадстаўнікі таленавітай моладзі.

• Нацыянальная тэатральная прэмія будзе заснавана ў Беларусі. Прапанову аб яе стварэнні падтрымаў кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка. На думку міністра культуры Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі, установа такой прэміі створыць ддатковыя магчымасці для стымулявання развіцця тэатральнага мастацтва ў нашай краіне.

• Беларуская чыгунка распрацоўвае праект гісторыка-турыстычнага комплексу на ўчастку Гродна—Парэчча. Менавіта тут у 1851—1862 гадах пабудавалі першы чыгуначны ўчастак у нашай краіне. Адметнасцю музея пад адкрытым небам стане рэтра-цягнік. Падчас яго руху экскурсавод раскажа пра гісторыю Беларускай чыгункі і архітэктурныя славутасці Гродзеншчыны.

• У пачатку верасня ў незвычайны паход "2000 кіламетраў гісторыі" па месцах Вялікага княства Літоўскага адправяцца 10 літоўскіх коннікаў . Удзельнікі паходу наведаюць каля 20 найбольш значных аб'ектаў ВКЛ, збяруць матэрыял для дакументальнага фільма пра культурную спадчыну Вялікага княства Літоўскага.

• Беларускія тэатры — частыя госці міжнародных фестываляў. Артысты Рэспублінканскага тэатра беларускай драматургіі выступяць на аглядах "Тэатр. Чэхаў. Ялта" (Ялта, Украіна), "Галасы гісторыі" (Волагда, Расія), "Смаленскі каўчэг")(Смаленск, Расія), "Hiqh fest" (Ерэван, Арменія).

• Кінастужка "Ваўкі" Аляксандра Колбышава, знятая на Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" летась, заяўлена ў конкурснай праграме XIII Бярдзянскага міжнароднага фестывалю (Украіна). Беларуская карціна будзе аспрэчваць пальму першынства з 13 кінастужкамі з 11 краін.

• 17-18 верасня ў Лепельскім раённым краязнаўчым музеі адбудзецца чацвёртая навукова-практычная канферэнцыя «Лепельскія чытанні». На канферэнцыі будуць заслуханы даклады, прысвечаныя гісторыі, культуры, прыродзе і экалогіі Лепельшчыны, якія раней не друкаваліся.

• Каля 100 юных беларусаў з 16 па 22 верасня прымуць удзел у міжнародным фестывалі "Моладзь за Саюзную дзяржаву", які ўжо ў пяты раз пройдзе ў Растове-на-Доне. Плануецца, што на творчым форуме выступяць маладыя людзі з усіх рэгіёнаў Беларусі — харэаграфічныя калектывы, вакалісты, прадстаўнікі моладзевых субкультур.

Падрыхтавалі
Бажэна СТРОК і
Марына ВЕСЯЛУХА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

### Візітоўка Дня горада

"Чытацкі бульвар" — яшчэ летась гэтак назвалі свята кнігі, прысвечанае Дню горада, супрацоўнікі Брэсцкай гарадской бібліятэкі імя. А. С. Пушкіна. Сёлета яно набыло куды большы размах і засведчыла: мераприемства пераўвасабляецца ў выдатную традыцыю.

…Стометровая галерэя па-майстэрску падрыхтаваных стэндаў раптоўна перанесла ў дзіўны свет кніжнага царства. Выданні розных гадоў засведчылі самую шырокую тэматычную палітру: "Бібліятэка паміж мінулым і будучым", "Ад Бярэсця да Брэста", "Вякоў мінулых успамін", "Брэст на скрыжаванні эпох і дарог", "Наш добры дом, наш любы горад Брэст" (кнігі брэсцкіх пісьменнікаў з аўтографамі). Побач — стэнд "Суквецце нацыянальных літаратур" (Расія, Украіна, Польшча). Тут жа прадстаўлены вітрыны брэсцкіх выдавецтваў, аўтарская фотавыстава М. Чаберкуса "Горад, які мы любім".

Падоўгу затрымліваліся наведвальнікі ля стэнда "Я так жыву, так і пішу свабодна..." (пра А. С. Грыбаедава). І невыпадкова. Два гады жыцця будучы паэт правёў у Брэсце. Тут пачыналася яго літаратурнае ўзыходжанне да сусветнай славы. А зараз "Чытацкі бульвар" вітаў класіка рускай літаратуры, драматурга, паэта, дыпламата, кампазітара і піяніста Аляксандра Грыбаедава ў тэатралізаваным прадстаўленні.

Са словамі прывітання да ўдзельнікаў і гасцей кніжнага свята звярнуліся дырэктар Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы горада Святлана Сямашка і старшыня Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч. Выступілі пісьменнікі Брэстчыны Зінаіда Дудзюк, Любоў Красеўская, Алесь Паплаўскі, Лявон Валасюк, Галіна Гедзік, Іван Мельнічук, Расціслаў Бензярук ды іншыя. Уразілі і бардаўскія песні ў выкананні Вольгі Сідарук і Таццяны Рэпчавай.

Георгій ТАМАШЭВІЧ

### Паэзія маладых — навідавоку

Завершана двухгадовая праца па ўкладанні і падрыхтоўцы да выдання кнігі "Маладая паэзія Беларусі". Упершыню ў гісторыі нашай літаратуры падрыхтавана такая кніга. Складальнік і рэдактар — паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міхась Башлакоў.

Мастацкае афармленне кнігі выканана вядомым беларускім графікам, уладальнікам сярэбранага медаля Еўрапейскай акадэміі мастацтваў, лаўрэатам міжнародных конкурсаў Міхаілам Барздыкам.

Кнігу склалі лепшыя вершы 180 маладых літаратараў Беларусі, якія пішуць на беларускай (95 аўтараў) і рускай (85 аўтараў) мовах. Сярод іх ёсць ужо вопытныя аўтары, чые імёны вядомыя чытачу, але ў большасці сваёй і тыя, хто ўпершыню прыходзіць да чытача.

Многія маладыя літаратары — студэнты і школьнікі — удзельнікі літаратурных студый і аб'яднанняў. Так, у Гомелі ўжо некалькі гадоў дзейнічае Школа маладога літаратара, якую ўзначальвае Ніна Шклярава. Паэт Іван Бісеў акрамя таго, што чытае лекцыі і праводзіць семінарскія заняткі ў гэтай школе, актыўна дапамагае яшчэ і ў выданні кніг маладых. Сярод удзельнікаў гомельскай школы варта адзначыць перш за ўсё Вольгу Астапенку, Анастасію Кацюргіну, Марыю Маліноўскую, Іну Спасібіну.

Больш як 30 гадоў кіруе літаб'яднаннем "Крокі" ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Мікола Шабовіч. Гэта, відаць, самае моцнае літаб'яднанне ў рэспубліцы. Творы больш чым 50 маладых аўтараў, удзельнікаў літаб'яднання "Крокі", пададзены ў гэтай кнізе.

У кнізе пададзены таксама і творы ўдзельнікаў літаратурных студый "Маладзік", "Малінавыя галасы", "Агмень" і літаб'яднання "Красавік", якімі кіруе паэт Міхась Башлакоў.

Кніга цікавая яшчэ і тым, што побач з вершамі маладых пад рубрыкай "Семінар паэзіі. Урокі майстэрства" даюцца лепшыя творы 39 вядомых паэтаў Беларусі, чый літаратурны вопыт можа быць карысным для сталення і прафесійнага росту маладых літаратараў.

Аб'ём кнігі складае больш як 20 аркушаў. Выданне разлічана на ўсіх, хто любіць паэзію, цікавіцца яе сучасным станам і каму неабыякавыя лёс і будучыня нашай літаратуры. Выхад кнігі "Маладая паэзія Беларусі" плануецца ў гэтым годзе ў рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва".

Міхась СТУПАКОЎ

Звесткі пра дзейнасць Саюза пісьменнікаў Беларусі можна знайсці на інтэрнет-сайце СПБ: www.oo-spb.by

## Фестывалі

# Кліч Палесся



Верасень — месяц, багаты на святы. Акрамя ўсім вядомых Дня беларускага пісьменства, Дня ведаў, сёлета адбудзецца яшчэ народна-этнаграфічны фестываль "Кліч Палесся". Гэта першы адкрыты фестываль такога кшталту, які будзе праходзіць на Палессі, і цяпер ужо створаны арганізацыйны камітэт для яго падрыхтоўкі і правядзення. Фестываль разгорнецца 17-18 верасня на тэрыторыі Нацыянальнага парку "Прыпяцкі" ў вёсцы Ляскавічы Петрыкаўскага раёна.

Старшынёй аргкамітэта з'яўляецца віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь Іван Бамбіза, яго намеснікамі — міністр культуры Беларусі Павел Латушка і старшыня Гомельскага аблвыканкама Аляксандр Якабсон.

Нацыянальны парк "Прыпяцкі" размешчаны ў міжрэччы Прыпяці, Сцвігі і Убарці на тэрыторыях Жыткавіцкага, Петрыкаўскага і Лельчыцкага раёнаў Гомельскай вобласці.

Аблічча палешука ўсім вядомае. Ён спрадвеку неабходныя навыкі працоўнага жыцця, асвойваў цяслярства, вучыўся плесці з лыка і лазы, каваць у кузні, вырабляць аўчыну і скуркі звяроў. Летам з самай раніцы правяраў сеткі на рыбу, касіў сена, займаўся бортніцтвам, гнаў дзёгаць і смалу, сек лес. А яшчэ вязаў сеткі, вырабляў посуд. Жанчыны ткалі і вышывалі, увіхаліся каля печы, рыхтуючы народныя стравы. Дарэчы, усім вядомы лыкавы абутак, які ў паўночна-ўсходніх абласцях называўся "лапці", а ў паўднёва-заходняй часткі Палесся — "пасталы". Мела свае асаблівасці і палескае жаночае адзенне, некаторыя з элементаў якога зусім невядомы ў адзенні жанчын іншых абласцей Беларусі.

Усё гэта мусіць стаць асновай фестывалю, дзе плануецца ва ўсёй іх шматаблічнасці і харастве паказаць народныя рамёствы, мастацкую самадзейнасць рэгіёнаў і абласцей нашай краіны. Зразумела, шчыраваць будуць сапраўдныя майстры, якія скрозь гады змаглі захаваць унікальную аўтэнтычную культуру беларуса. Вырабам майстроў можна будзе не толькі падзівіцца, а і паспрабаваць нешта зрабіць самому, павучыўшыся ў майстар-класе. І, вядома, на ўсю моц будзе гучаць каларытная паляшуцкая мова.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: рака Прыпяць.

Фота

## Арт-пленэр

# Тры дні з Язэпам Драздовічам

Арт-пленэр "Прысвячэнне Язэпу Драздовічу" адбыўся ў межах міжнароднай выставы "ДАХ-11", што праходзіла ў Палацы мастацтва ў Мінску. Для большасці тых людзей, якія прынялі ўдзел у пленэры, імя Я. Драздовіча заставалася хутчэй сімвалам, вакол якога яны збіраліся. Але пра тое, што Язэп Нарцызавіч быў не толькі мастаком, але афарміцелем першых беларускіх газет ды часопісаў, гісторыкам, збіральнікам беларускага фальклору, наведвальнікі даведаліся ад куратара пленэру Юрася Малаша.

Язэп Драздовіч — аўтар унікальных малюнкаў па гісторыі роднага краю, сярод якіх "Полацкія князі", "Замкі Беларусі", "Піншчына", жывапісных карцін па гісторыі Полаччыны, касмічных краявідаў разумнага жыцця на Месяцы, Марсе, Сатурне, пісьменнік і... аматар астраноміі. Менавіта Драздовіч напісаў першую беларускую кнігу па астраноміі "Нябесныя бегі", даслаў у бібліятэку Акадэміі навук БССР першую касмалагічную тэорыю "Паходжанне планет сонечнай сістэмы з парназоркавых сістэм", — яшчэ на пачатку 1930-х...

Кожны дзень прыносіў новыя адкрыцці для ўдзельнікаў пленэру. Як фотамастакоў — Антаніну Рашчынскую, Таццяну Федарэнка, — так і аматараў мастацтва і творчых людзей — Ганну Шэвандзіну, Віталя Пахоменку, Тамару Далуд, Алега Тарасенку, Юлію Вайцяхоўскую, — і нават самога арганізатара "ДАХу" Зміцера Юркевіча здзіўлялі некаторыя старонкі жыцця "вечнага вандроўніка".

Першы дзень удзельнікі працавалі ў Мінску, другі — ў Заслаўі, а на трэці дзень адбылася выстава прац удзельнікаў, прагляд дакументальнага фільма "Летуценні Я. Драздовіча", пасля якога быў прачытаны даклад Ю. Малаша "Я. Драздовіч — волат беларускага мастацтва". Былі выказаны пажаданні стварыць музей імя Я. Драздовіча ў Мінску, каб кожны беларус ды госці нашай краіны адкрылі для сябе незвычайны беларускі космас і унікальнага творцу, які ўсё свае жыццё прысвяціў нястомнай працы дзеля Беларусі.

Юрась НЯСТОМНЫ

## За падзеяй

### Для чытачоў СНД

У серыі "Класіка літаратур СНД" маскоўская выдавецтва "Художественная литература" выйшаў у свет зборнік «Кладезь мудрости и благодати. Фольклор и литературные памятники Беларуси", прысвечаны беларускаму эпасу і старажытнай літаратуры Беларусі X—XVIII стагоддзяў.

У гэтай кнізе, выданне якой ажыццёўлена пры падтрымцы Міжнароднага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва (МФГС), у перакладзе на рускую мову і ў адаптаваным выглядзе прадстаўлены беларускія эпічныя творы — легенды, паданні, замовы і шэдэўры старажытнага беларускага пісьменства. У кнігу ўвайшлі найбольш значныя творы знакамітых майстроў слова — Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Сімеона Полацкага. У выданні — асноўныя жанры і віды старажытнай беларускай літаратуры, пачынаючы ад эпохі Готыкі — летапісы і хронікі, воінскія і містычныя аповесці, дыярыушы і мемуары, дыдактычныя словы і павучанні, пасольскія дзённікі і сатырычныя творы, катэхізісы і палемічныя трактаты, свецкая і духоўная паэзія.

Нягледзячы на сваю шматвяковую гісторыю і разнастайнасць беларускай літаратуры, яна, на вялікі жаль, застаецца амаль незнаёмай для замежнага чытача, у тым ліку і для рускамоўнага. Таму значэнне дадзенага выдання відавочнае. Яно складаецца з літаратурных твораў розных эпох, звязаных з рознымі рэгіёнамі Беларусі. Многія з надрукаваных твораў на рускай мове гучаць упершыню.

Кніга падрыхтавана спецыялістамі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, а таксама ВНК краіны. Уступнае слова "Наш абавязак — захаваць запаветы продкаў" належыць міністру культуры Рэспублікі Беларусь Паўлу Латушку, уводны артыкул "Духоўная і мастацкая спадчына нацыі" — яе складальніку доктару філалагічных навук Івану Саверчанку.

Марыя ЖЫТКОВА

## Літ-абсягі

# Пра летапісца эпохі




У 2004 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла першая кніга з серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі", прысвечаная Уладзіміру Мулявіну. З таго часу ў гэтай серыі былі выдадзены кнігі, прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу, Леаніду Шчамялёву, Міхаілу Фінбергу ды іншыя. І літаральна тыдзень таму ў мінскіх кнігарнях з'явілася новае выданне серыі "ЖЗЛ": "Іван Шамякін. Летапісец эпохі". Укладальнікам выдання з'яўляецца дачка пісьменніка, Алеся Іванаўна Шамякіна.

Нагодай для стварэння кнігі стаў 90-гадовы юбілей пісьменніка, які прыпадае на наступны год. Да гэтай даты прымеркаваны і пачатак працы над дваццаціхтомным зборам твораў Івана Шамякіна, прычым першыя тры кнігі выйдуць ужо на пачатку восені. Тады ж адбудзецца і прэзентацыя кнігі, прысвечанай Івану Пятровічу, з якой ужо сёння могуць пазнаёміцца чытачы "ЛіМа".

Па словах галоўнага рэдактара выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктара Анатольевіча Шніпа, успамінаў пра Івана Пятровіча Шамякіна магло б хапіць на пяць тамоў: такім цікавым і таварыскім быў вядомы пісьменнік. У кнігу ж з серыі "ЖЗЛ" былі ўключаныя не толькі ўспаміны пра жыццё Івана Шамякіна, але і інтэрв'ю з пісьменнікам, вершаваныя прысвячэнні, творы з неапублікаванай спадчыны. Кніга мае і тры ўклейкі з фотаздымкамі — каля двухсот кадраў, на якіх можна бачыць Івана Пятровіча з сям'ёй, з сябрамі, на адпачынку, на дачы.

Падбіраючы тэксты і фотаздымкі, выдавецтва імкнулася змясціць найперш тыя ўспаміны, дзе пісьменнік апісваецца як чалавек — з пэўнымі звычкамі, адмысловым характарам, у побыце, падчас вырашэння розных будзённых праблем. "Так, каб і праз пяцьдзесят гадоў рэжысёр мог паводле гэтай кнігі зняць фільм пра пісьменніка," — заўважыў Віктар Анатольевіч.

Успаміны пра Шамякіна пакінулі яго сямейнікі, знаёмыя з пісьменнікам літаратары і журналісты, сярод якіх Мікола Мятліцкі, Навум Гальпяровіч, Мікола Старчанка, Ніна Чайка. Шмат для каго, магчыма, будуць цікавымі раней не друкаваныя тэксты пісьменніка: "З дзённікаў апошніх гадоў" (дзённікавыя запісы з 25 ліпеня 2000 г. па 6 сакавіка 2001 г.), "Выпрабаванне пачуццяў" (ваенна-лірычная аповесць, напісаная ў 1945 г., але так і не змешчаная ў часопісе "Беларусь"), "Даваенны сшытак" (дзённік за сакавік — май 1939 г.). "Ой, Пятровіч! Пры немцах, калі не было чаго чытаць, мы вашы дзённікі чыталі. Цікавей за любы раман!" — прызнаваліся Івану Шамякіну сястра Марыі Філатаўны і некаторыя яе школьныя сяброўкі.

"Даваенны сшытак" апісвае пачатак кахання між Іванам Шамякіным і яго будучай жонкай, Марыяй Філатаўнай, таму тэкст сапраўды цікавы — найперш таму, што мае светлы рамантычны настрой. У інтэрв'ю з пісьменнікам — адказы Івана Пятровіча на пытанні пра яго лёс, творчыя пошукі, стаўленне да надзённых праблем. Трэба думаць, што кніга дасць магчымасць чытачам убачыць Івана Шамякіна ў новым ракурсе і паспрыяе павелічэнню ўвагі да творчасці гэтага аўтара.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

## Арт-лінія

# Сонечнае люстэрка батлейкі

Калі горад, здавалася, зніякавеў ад невыноснай гарачыні, Тэатр беларускай драматургіі не пабаяўся паклікаць публіку на прэм'еру спектакля "Адамавы жарты", насычанага добрым гумарам, аздобленага выдатнай харэаграфіяй. Не дзіўна, што гледачы напружана сачылі за развіццём, няхай і знаёмага многім, сюжэта.



Закаханых Саўку і Марысю безвыніковa цэлы год пасля вяселля намагаецца пасварыць Чорт, што пасяліўся ў куфэрку. Нячысцік нават звяртаецца па дапамогу да зайздроснай Бабы, і Саўка з Марысяй пачынаюць высвятляць адвечнае пытанне нашых сем'яў — хто ў хаце галоўны. Яркія вобразы, створаныя Кірылам Навіцкім, Анастасіяй Бабровай, Веранікай Буслаевай і Аляксандрам Марчанкам, абяцаюць спектаклю шчаслівае тэатральнае жыццё. І як арганічна ў кантэксце дзеяння гучаць спевы у выкананні Таццяны Мархель!

Калі на прайшоўшым не так даўно Міжнародным фестывалі лялечных тэатраў зіралася масавая тэндэнцыя адцягнення гледацкай увагі ад лялькі на асобу лялькавода, то ў "Адамавых жартах" уразіла тэндэнцыя супрацьлеглая. Людзі, нібыта лялькі, наўмысна схематычна рухаючыся па сцэне, прымушалі залу ўбачыць не канкрэтную гісторыю, а сур'ёзна паразважаць над акрэсленай праблемай (харэаграфія Юрыя Саламонава). І паступова падводзілі гледача да высновы — няма чаго ківаць на таго, хто сядзіць у куфэрку, гэта мы, нашчадкі Адама, самі аматары сапсаваць сабе жыццё. Самі ж, дарэчы, і віртуозна выбіраемся са створанай сітуацыі. Такія вось жарты…

Рэжысёру тэатра Святлане Навуменцы ўдалося ўзяць высокую планку мастацкай задачы, удала скарыстаўшы набыткі лялечнага тэатра ад самага яго пачатку — батлейкі. На пытанне, як ствараўся спектакль, Святлана Навуменка адказвае: "Натхніла выданне "Беларуская драматургія дакастрычніцкага перыяду" — столькі цудоўных п'ес, у якіх беларусы так шчыра смяюцца над сваімі недахопамі, сквапнасцю, зайздрасцю… Сцэнарый "Адамавых жартаў" напісаны паводле п'ес Францішка Аляхновіча і Леапольда Родзевіча. Мы паспрабавалі вярнуцца да вытокаў тэатра, да батлейкі, паспрабаваць увайсці ў гэты жанр, у гэту стылістыку, утрымацца ў ёй. Нялёгка было акцёрам, можа быць, цяжкавата і гледачам успрымаць, падстроіцца да дзеяння — мы адвыклі ад некалькі фармальнага, канструктарскага тэатра".

Можа, і сапраўды, убачыўшы сябе ў тэатральным люстэрку "Адамавых жартаў", мы паставімся адзін да аднаго з большай павагай і паразуменнем. І перад тым, як высвятляць адносіны паміж сабою, разважым — здольныя мы адказваць за свае ўчынкі ці ў пэўны момант падобны на лялек, якімі кіруе нехта са старога куфэрка…

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымку: фрагмент спектакля" Адамавы жарты".

Фота Віктара ЗАЙКОЎСКАГА

## Повязі

# Праект чатырох дзяржаў

У Доме кнігі "Светач" прайшла аўтограф-сесія аднаго з найбольш папулярных пісьменнікаў сучаснай Польшчы Януша Леона Вішнеўскага. Акрамя запланаванай сустрэчы з чытацкай аўдыторыяй, пісьменнік паведаміў, што асноўная прычына яго прыезду ў Мінск — гэта абмеркаванне міжнароднага кінематаграфічнага праекта, які плануюць стварыць па ініцыятыве бакоў беларускага, польскага, рускага і ўкраінскага. У гэтым праекце спадар Вішнеўскі прыме ўдзел як аўтар сцэнарыя. Фільм будзе расказваць пра гісторыю кахання паляка і рускай жанчыны. Першыя перамовы ўжо адбыліся.



Пра маштаб і папулярнасць гэтага аўтара можна гаварыць доўга, але ўжо той факт, што на сустрэчу ў Беларусі прыехалі нават чытачы з Томска, гаворыць сам за сябе. У яго кнігах час і прастора непарыўна з'яднаны, каханне і смерць нібы вечныя сяброўкі, а веданне жаночай псіхалогіі дасягае такой глыбіні, што міжволі здзіўляешся: няўжо гэта напісаў мужчына-вучоны? Яго кніга "Адзінота ў сеціве" выйшла ў 2001 годзе. У 2006-м па ёй зняў фільм польскі рэжысёр Вітольд Адамек, а ў лютым 2009-га на сцэне тэатра "Балтыйскі дом" (Санкт-Пецярбург) быў пастаўлены спектакль. Сустрэча ў "Светачы" насіла адкрыты фармат, таму пан Януш не толькі расказаў пра сябе, але і адказаў на пытанні журналістаў і прыхільнікаў сваёй творчасці. Аўтар "Адзіноты ў сеціве" наведаў Мінск упершыню.

Як зазначыў сам Вішнеўскі, яго вельмі ўзрадавала і здзівіла, што і ў Беларусі яго кнігі карыстаюцца такой папулярнасцю сярод чытачоў. Януш Вішнеўскі не лічыць сябе пісьменнікам, бо галоўным сваім заняткам у жыцці лічыць навуку. Займаецца фізікай і інфарматыкай у Германіі, дзе жыве ўжо 20 гадоў. "Цяпер, падчас напісання кніг, я перажываю новыя эмоцыі, такой магчымасці не існуе пры стварэнні камп'ютэрных праграм, — зазначыў Вішнеўскі, а затым дадаў: — На працягу яшчэ нейкага часу я буду і навукоўцам, і пісьменнікам, але аднойчы давядзецца рабіць выбар".

Калі яго першая кніга з'явілася на свет, ён нават не ўяўляў, які будзе яе далейшы лёс. Але адбылося так, што яна прынесла яму вядомасць. І з той пары Януш Вішнеўскі піша "казкі для дарослых", хаця ёсць сярод напісанага ім кніга "Марцэлінка" — навуковая казка для дзяцей, якая распавядае пра стварэнне свету. У 2009 годзе свет убачыла яго новая кніга "Бікіні" і адзінаццаць краін купілі яе, каб перакласці на родную мову. Але што б ні напісаў пан Вішнеўскі, перадусім яго ўспрымаюць як аўтара "Адзіноты ў сеціве", на што пісьменнік адказаў: "Магчыма, нават калі мяне не будзе на гэтай зямлі, "Адзінота ў сеціве" ўсё роўна застанецца".

Алена ДРАПКО

На здымку: Януш Леон Вішнеўскі.

Фота Кацярыны Сіман

## З-пад пяра

У Інстытуце тэалогіі імя святых Кірылы і Мяфодзія адкрылася выстаўка работ вядомага мастака Віктара Васюковіча. Назва ў прадстаўнічага знаёмства з новымі працамі майстра досыць лаканічная — "Свята". Ужо першы погляд на карціны, якія адкрываюць духоўную дабрыню, гармонію выявы і мастацкай ідэі, прыцягваюць да вынайдзеных мастаком колераў і адценняў. "Узнікненне", "Адкрыццё", "Дыханне", "Матрыца", "Блакітнае свята", "Акіян любві" — літаральна кожная з работ бярэ ў палон бясконцасцю і неабсяжнасцю прасторы, незвычайнымі складанымі рэчаіснасці і фантазіі. Выстаўка "Свята" чакае гледачоў да 26 жніўня. Жадаеце адкрыць нешта новае, узбагаціцца неспадзяваным мастацкім вопытам — не абмініце знаёмства з новымі работамі Віктара Васюковіча.

Дар'я ШОЦІК

У Іванаўскай раённай бібліятэцы імя Ф. Панфёрава адкрылася выстаўка, прысвечаная творчасці старэйшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўнага рэдактара іванаўскай раённай газеты "Чырвоная звязда"Анатоля Крэйдзіча і прымеркаваная да яго юбілею. Тут і кнігі, і часопісныя ды газетныя публікацыі (у тым ліку прысвечаныя гэтай асобе), па якіх можна прасачыць творчую дзейнасць Анатоля Мікалаевіча на працягу многіх гадоў. Немагчыма абмінуць увагай і дакументальна-мастацкую аповесць А. Крэйдзіча "Богаў сон" — пра вядомага беларускага мастака Янку Рамановіча, якая друкавалася ў часопісе "Маладосць".

Яна РАМАНЮК

Пяру Мікалая Леўчанкі — пісьменніку, галоўнаму рэдактару быхаўскай раённай газеты "Маяк Прыдняпроўя" — належаць паэтычны зборнік "Шчырасць", кнігі прозы "Пад знакам зялёнай ружы", "Зеленое золото", "Уроки мужества". І вось новая яго кніга — "Непраходзячы боль", якая выйшла ў Мінску, у выдавецтве Віктара Хурсіка. Мовaю добрага і памятлівага сэрца ў ёй расказваецца пра лёс дзяцей Быхаўшчыны, апаленых Вялікай Айчыннай вайной, пра малалетніх вязняў фашысцкіх канцлагераў, пра тых, хто быў вывезены ў Германію ў рабства. Кніга напісана на аснове журналісцкага праекта М. Леўчанкі "Малалетнія вязні". Дарэчы, аўтар узнагароджаны за гэты праект Гран-пры VI рэспубліканскага Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая літара". І яшчэ адна важная дэталь. Сродкі для выдання кнігі выдаткаваў Быхаўскі райвыканкам.

Іван ПЕХЦЕРАЎ

Добры падарунак землякам зрабіў маскоўскі літаратар Валерый Калінічэнка — нядаўна ён перадаў бібліятэкам Гомельшчыны 500 асобнікаў сваёй паэтычнай кнігі "Зорны дазор". Валерый Калінічэнка — ураджэнец Буда-Кашалёўскага раёна. Але яго жыццёвы лёс склаўся так, што сёння ён жыве ў Маскве. Там наш зямляк завяршыў і выдаў раман «Асуджаныя на шчасце», аповесць «Тайнае галасаванне», працаваць над якімі ён пачынаў яшчэ ў Беларусі. Неўзабаве яму было прысвоена званне «Заслужаны работнік культуры Расійскай Федэрацыі», што з'явілася прызнаннем прафесійнага майстэрства не толькі як рэдактара і журналіста, але і як выдаўца і літаратара.

Сяргей ДАНІЛАЎ


Помнік Аляксандру Пушкіну ў горадзе Калуга

# Азірнёмся, выкажамся!

У недалёкім мінулым, якое высвечваецца яркімі фарбамі ва ўспамінах пра часы росквіту нашага красамоўства, пісьменнікі досыць актыўна шчыравалі ў галіне публіцыстыкі. Гэта ўспрымалася натуральна: як хлеб на стале, як соль побач з хлебам... Існавала разуменне: пісьменнік і ёсць той чалавек, які стварае сістэму маральных каштоўнасцей, поглядаў на гісторыю, развіццё грамадства. Таму, як гаварыў Расул Гамзатаў, літаратура не можа быць, падобна царкве, аддзеленая ад дзяржавы. Тым больш, што мы маем цяпер рэальную магчымасць назіраць і ацэньваць выдатныя праекты ўзаемадзеяння грамадскіх структур з царквой.

Побач з творамі мастацкай літаратуры па-ранейшаму важныя, і нават, можа, больш чаканыя, шчырыя і адкрытыя развагі лепшых з творцаў пра тое, што адбываецца сёння з чалавекам, грамадствам, асобай. Такія публікацыі нікога і ніколі не пакідалі раўнадушнымі. Згадайма: доўгія гады рубрыка "Пісьменнік і жыццё" была, як кажуць, візітоўкай папулярнай на ўвесь Саюз "Литературной газеты".

Сёння мы прэзентуем новую рубрыку "Камертон". Назва рубрыкі — ад вядомага шмат каму прыстасавання, якое ўтварае гук пэўнай пастаяннай вышыні і выкарыстоўваецца пры настройцы музычных інструментаў. Ці не бачацца тут паралелі між словам пісьменніка і душой чытача?.. Прынамсі, існаваць такія паралелі павінны!.. Хто ж як не пісьменнік — эмацыянальна, шматколерна і пераканаўча — можа выказаць свае адносіны да ўсяго, што ўскалыхнула яго душу?

Друкуючы заклапочанае пісьменніцкае слова рускага празаіка Станіслава Куняева, мы спадзяёмся, што беларускія творцы таксама прапануюць у "ЛіМ" свае нарысы, роздумы пра наша сучаснае жыццё.

Ірына ТУЛУПАВА,
рэдактар аддзела публіцыстыкі
e-mail: tulupova_05@mail.ru

# "Племя младое, незнакомое..."

Увесну 2009 года са мной у роднай Калузе адбыўся нейкі дзіўны выпадак.

Спачатку я сустрэўся са старым сваім таварышам Сяргеем Капранавым.

— Прывітанне! — Прывітанне!

І пачалося: "Як жывёш? Што пішаш? Як здароўе?" — але ж у нас, у рускіх, словамі не абмяжуешся. "Ну, дзе вып'ем? Давай, як у маладосці, у парку на лавачцы!" Але Сяргей палічыў такую прапанову легкадумнай.

— Не, давай "Путинку" возьмем, а вып'ем вунь у тым бары, у мяне там бармен знаёмы, ён нам дазволіць са сваёй бутэлькай.

Бармен, аднак, ахоўваючы інтарэсы свайго прадпрыемства і дазваляючы нам распіць "Путинку", усё ж высунуў умову: "Хоць па сто грамаў вазьміце ў бары. Ну, і перакусіць, безумоўна"...

Карацей кажучы, да нашай "Путинки" дадаліся яшчэ па 100 казённых, але мы шчыра пагутарылі ў пустым бары, ва ўтульным кутку пры стале, і задаволеныя нечаканай сустрэчай, падчас якой узгадалі маладосць, старых таварышаў і чыталі вершы, як у лепшыя часы: Ясеніна, Блока, Рубцова...

...Дамоў я вяртаўся па сцяжыне ўздоўж парослага таполямі, вязамі і чаромхай Беразуеўскага яра і амаль ужо выйшаў да Каменнага моста, як нешта незвычайнае прымусіла мяне запаволіць крок, а пасля і спыніцца...

Ля высокай стэлы, увянчанай бюстам Пушкіна, сядзела шумная маладзёжная кампанія. Помнік паэту быў пастаўлены ў легендарным 1937 годзе, падчас стогадовых угодкаў з дня яго смерці. Помнік быў абыякі: стэла цэментавая, а сам бюст, падобна на тое, што гіпсавы, шэранькі... Аднак за 70 з гакам гадоў ён урос у гарадскі пейзаж і зрабіўся яго выбітнай мясцінай.

На лавачцы ля стэлы сядзелі тры хлопцы і тры дзяўчыны. Шумныя, нецвярозыя, расхлістаныя. Бутэлькі і бляшанкі з-пад піва, пустыя цыгарэтныя пачкі і акуркі — адходы іх балявання — ляжалі на нягеглай клумбе з кветкамі каля стэлы, утвараючы невялікі сметнік...

Я не змог прайсці міма: запаветнае месца было дарагім для мяне: усё жыццё, пачынаючы з даваенных часоў, з 1937 года, са свайго пяцігадовага ўзросту, я праходзіў міма гэтага майго Пушкіна, штораз задзіраючы галаву і ўзіраючыся ў выразныя паэтавы вочы, у яго каменныя кучары і бакенбарды на гіпсавых шчоках. А тут матпераматі смецнік...

— Хлопцы, дзяўчаты! А ці ведаеце вы, чый гэта помнік побач з вамі?

Самы адносна цвярозы хлопец не адразу, але ўсё ж такі зразумеў пытанне.

— Ну, і чый?

— Гэта ж Пушкін Аляксандр Сяргеевіч! Можа, хто з вас памятае: "Мороз и солнце, день чудесный!", "Я помню чудное мгновенье".

Мае суразмоўцы, раззлаваныя ўмяшаннем у іх жыццё, варожа агледзелі мяне. Я адарваў іх ад важнай справы: яны выварочвалі кішэні, збіраючы апошнія грошы на пару бляшанак піва.

Аднак самы цвярозы з іх устаў з лаўкі, павярнуўся тварам да Пушкіна, паўзіраўся ў яго і прамовіў:

— Дзядок! А твой жа Пушкін панк! У яго іракез!

Я зразумеў, што хлопец звярнуў увагу на каменную хвалю валасоў, што застыла на паэтавай галаве.

— Ну, і што? Ён пры жыцці быў кучаравым, у жылах яго мелася адна шаснаццатая частка афрыканскай крыві... — адказаў я.

— А! — узрадавана закрычаў мой суразмоўца. — Твой Пушкін не толькі панк, але яшчэ і нігер! — І дэманстратыўна кінуў акурак да п'едэстала.

Што было з ім рабіць? Не біцца ж у мае 76 гадоў! І пайсці, пакідаючы Пушкіна на здзек, было ганебна. Трэба было неяк знайсці агульную мову з гэтым страчаным пакаленнем. І тут мяне натхніла адна думка.

— Вы ведаеце, хлопцы, што такое армрэстлінг? — сказаў я, выкідваючы наперад руку і згінаючы яе, нібыта кладучы на стол уяўнага ворага. Мае суразмоўцы ажывіліся: яны ведалі, што такое армрэстлінг.

— Прапаную вам спаборніцтва. Хто з вас самы дужы? Відаць, ты? — звярнуўся я да хлопца, які абазваў Пушкіна панкам і нігерам, відаць, быў у іх аўтарытэтам.

— Высветлім, у каго рука дужэйшая. Калі ты мяне пакладзеш, я куплю табе піва. Калі я цябе — ты папросіш прабачэння ў Пушкіна!

Мой малады сапернік, не доўга думаючы, скінуў з сябе куртку, сцягнуў майку, на якой быў намаляваны нейкі кудлаты яго кумір; карацей кажучы, загаліўся да пояса, паспрабаваў пайграць мускуламі, але я бачыў, што біцэпсаў амаль няма, грудзі худыя, наколкі фальшывыя — татуаж. У нас пасля вайны наколкі былі натуральныя, павыколваныя наборам іголак спіртавой тушшу, — як кажуць на ўсё жыццё, з адвечнымі ісцінамі кшталту: "не забуду мать родную" ці "они устали", калі на нагах. А ў цяперашніх, цьфу! — звялося і гэта майстэрства, страціла сваю простанародную сутнасць... Але ўсё роўна, я ж старэйшы за яго гадоў на шэсцьдзесят, ці адужаю? Апусціліся мы кожны на калена па розныя бакі лавачкі, уперліся ў яе локцямі, далонь да далоні. А я ліхаманкава думаю: ну, стары дурань, давядзецца табе купляць піва! Азірнуўся я на Пушкіна, узмаліўся: ратуй, Аляксандр Сяргеевіч, — і рашуча спрацаваў кісцю ўлева. Галоўнае ў армрэстлінгу — кісць заламаць праціўніку, астатняе — лягчэй...

Не без цяжкасці, але ці то з Боскай, ці то з Пушкінскай дапамогай праз хвіліну-другую я прыцісну-такі руку маладога нахабніка да лавачкі. І кажу: "Прасі прабачэння ў Пушкіна!" Але тут двое яго сяброў, разумеючы, што халяўнае піва выслізгвае ад іх, закрычалі: "Дзядок! Давай і з намі армрэстлінг!"

Аднак абодва яны былі цо то зусім п'яныя, ці то слабейшыя за першага, але з імі я разабраўся значна хутчэй і падсумаваў: "Хлопцы, трэба слова трымаць, да Пушкіна падысці і папрасіць прабачэння".

Узяў я іх за рукі лагодна так, ласкава, зрабілі мы крок да стэлы, двое апошніх, якія прайгралі, проста схілілі галовы, а галоўны — ці то сумленне прачнулася, ці то ногі не трымалі — на калені апусціўся перад Пушкіным, а ўстаць не можа, давялося дапамагчы, падхапіць пад рукі і прыўзняць...

Вяртаю іх на лавачку, і шкада мне іх няшчасных. Ну, думаю, чаго радавацца, падсаладжу іх няўдачу грашыма, і кажу: — Вось, хлопцы, у гонар маёй перамогі вам на піва! — А разам з грашыма выцягнуў і пашпарт. І тут мяне нібыта нейкі нячысцік тузануў за язык: я звярнуўся да дзяўчат, якія сядзелі на лавачцы:

— Дзяўчаты, вось мой пашпарт, прачытайце, якога я года нараджэння!

Адна з іх узяла і чытае:

— Нарадзіўся 27 лістапада 1932 года!

Тут у іхніх кавалераў сківіцы паадвісалі: сцяміпі, што яны прайгралі армрэстлінг 76-гадоваму старому...

А дзяўчаты запляскалі ў ладкі і пачалі лашчыць мяне поглядамі, якіх я даўно на сабе не адчуваў. Зняважаны гэтымі праявамі ўвагі да мяне з боку сваіх сябровак, галоўны загаласіў:

— Ты, дзед, выйграў у нас несумленна, пакарыстаўся, што мы ўсе п'яныя! А Пушкін твой усё роўна панк і нігер!

Я ўжо аддаляўся ад п'янай кампаніі па дарозе дадому, але адразу ж парыраваў гэты выпад: "Ды калі б я быў цвярозы, хіба я б да вас падышоў? — і неабачліва дадаў, звяртаючыся да дзяўчат, якія прыхільна глядзелі мне ўслед: — А вы, дзяўчаты, кідайце іх, вы ж самі бачылі: нічога яны не вартыя, ні ў справе, ні ў ложку..." Апошнія словы былі лішнімі, таму што троіца кінулася за мной і мне давялося ўспомніць, што апрача армрэстлінга я калісьці ў маладосці займаўся лёгкай атлетыкай, гэта значыць добра бегаў...



Мае праследавацелі, паспрабаваўшы перайсці на бег, зразумелі, што ў іх з гэтага нічога не атрымаецца, успомнілі, што ў іх, дзякуючы дзіўнаму старому, ёсць сто рублёў, і адразу ж павярнулі да шапіка па жаданае піва, якое дасталася на халяву....

А я павярнуў з алеі да Каменнага моста і, азірнуўшыся, убачыў трох дзяўчат, якія махалі мне на развітанне сваімі вузкімі далонькамі.

...Беднае, абрабаванае, пазбаўленае будучыні пакаленне, мае няшчасныя маладыя землякі, знявечаныя подлым рынкавым часам!.. З чатырохметровай калоны на іх глядзеў выразнымі вачыма "панк і нігер", вялікі рускі паэт Аляксандр Пушкін. Глядзеў і шаптаў пульхнымі каменнымі вуснамі знакамітыя ўжо амаль што два стагоддзі словы, звернутыя да рускіх людзей: "Здравствуй, племя, младое, незнакомое!"

Станіслаў КУНЯЕЎ

("Общественная литературная газета", № 5, 2010г.). Пераклад для "ЛіМа" Ірыны Качатковай
Фота Кастуся Дробава

## Анкета пісьменніка

# Знайсці свайго героя

Творцы заўсёды былі актыўнымі, неабыякавымі, дасведчанымі і інфармаванымі людзьмі. Чатыры пытанні для літаратараў — гэта спроба распачаць вялікі палілог з майстрамі пяра.

1. Існуе меркаванне: калі раней літаратар быў настаўнікам, вяшчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка з'яўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?

2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі "вучыць жыць"?

3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?

4. Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?

Васіль ТКАЧОЎ, пісьменнік, драматург (Гомель):

1. Калі параўнаць з мінулымі часамі, пісьменніцкая актыўнасць знізілася, і прыкметна. У першую чаргу за кошт таго, што няма па сутнасці бюро прапаганды мастацкай літаратуры, хіба мо толькі на паперы яно існуе; прапалі літаратурныя перадачы з блакітных экранаў і з праграм радыё. Гэта — раз. Ну, а па-другое, сёння пісьменнік не мае магчымасці бываць у школах свайго ж раёна ці сваёй вобласці. Хаця ў душы і застаецца ён настаўнікам... Бо хто ж з нас не верыць, што яго вершы ці прозу чытаюць? Дык вось, каб і сапраўды нам, пісьменнікам, не быць прыватнымі асобамі, у гэтым павінны быць зацікаўлены таксама і адпаведныя дзяржаўныя структуры. Пісьменнік — не мядзведзь, ён не можа сем месяцаў сядзець у бярлозе. А, па-трэцяе, тыражы беларускіх выданняў — курам на смех, інакш не скажаш. Той жа альманах "Вожык" мае 1891 экзэмпляр. А колькі ў рэспубліцы бібліятэк? Што ж яны тады выпісваюць?! Губляем чытача, адным словам, не па гадах, а па днях. Жах!

2. Канечне, рэальнасць. Толькі адно незразумела, як могуць вучыць кнігі тых, хто іх не чытае? Нават у рукі не бярэ?

3. Не ведаю, як і хто, а я павінен рухацца, павінен сустракацца з чытачамі, удзельнічаць у самых розных мерапрыемствах, куды запрашаюць. А калі запрашаюць — і мне плюс: значыць, патрэбны людзям. Ды і дзе чэрпаць тэмы, калі не сярод людзей?

Тут такая сітуацыя год колькі таму атрымалася. Ляжу ў бальніцы, прыходзіць сваячка праведаць. І дзівіцца — вочы па яблыку: дык ты што, у агульнай палаце ляжыш? Не паверыла, відаць, што сам папрасіўся, каб не клалі ў "блатны" нумар. Бо ў агульнай палаце я столькі пачую ад суседзяў, такі атрымаю зарад, што мне хопіць на год пісаць.

4. Няпроста сказаць, якія рысы вызначыў бы... Па-першае, трэба знайсці свайго героя. Хто ён? Рабочы? Вясковец? Бібліятэкар? Ці гэта — банальна? Прасцей сказаць, а хто ён, наогул новы беларус сёння? Бо тое, пра што мы пісалі ўчорапазаўчора, сёння мала каго будзе цікавіць. Прыйшлі іншыя людзі, з іншым светапоглядам, з іншымі жыццёвымі крытэрыямі і прынцыпамі. І расказаць пра іх чытачам альбо слухачам не будзе лёгкай забавай. Асабліва, пагадзіцеся, творцам майго ўзросту...

Раней я не думаў, пра каго пісаць. Было шмат цікавых вакол цябе людзей. Мы аднолькава думалі. Сёння, пагадзіцеся, іншы час. Таму прыклад — камп'ютэр: многія пісьменнікі баяцца яго, як чорт ладана. "Ці агораю?" А наш жа сёння герой — менавіта чалавек гэтага кшталту.

Усё ж сам бы я з задавальненнем папрацаваў у жанры нарыса. Для мяне ў свой час настаўнікамі тут былі Ігнат Дубровскі, Міхась Герчык, Васіль Якавенка, Васіль Праскураў, Васіль Макаравіч, Іван Кірэйчык, Валянцін Мыслівец і іншыя пісьменнікі. Сёння, калі гэты жанр у заняпадзе, і назваць няма каго.

Давайце ўсё ж вернем нарыс на старонкі газет і часопісаў, на радыё. Агульнымі намаганнямі.

# Марына Калашнікава: “У Беларусі я не госць…”



Колькі цікавых сустрэч падарыў віцебскі фестываль! У паўсядзённым жыцці наўрад ці пашчасціць адразу сустрэцца з такой колькасцю знакамітых людзей — артыстаў, кампазітараў, мастакоў, журналістаў. У прэс-клубе міжнароднага свята мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску” пазнаёмілася з журналісткай Марынай Калашнікавай з Аўстрыі.

— Марына, вы вельмі добрае размаўляеце на рускай мове, ды і прозвішча ў вас не замежнае.

— Я звязана з Беларуссю не толькі нараджэннем, (нарадзілася ў Оршы Віцебскай вобласці), а і духоўна — гэта мая Радзіма, мая зямля. Мой тата быў вайскоўцам. Мы вельмі шмат ездзілі, у выніку спыніліся ў Мінску, дзе дагэтуль жывуць мае бацькі. А ў Аўстрыю я патрапіла дзякуючы мужу — фізіку Уладзіміру Леанідавічу Калашнікаву. Яго, доктара фізічных навук, прафесара, запрасілі ў Аўстрыю, дзе прапанавалі кафедру ў Венскім універсітэце. Мы туды і перахалі 10 гадоў таму ўсёй сям'ёй — сын тады вучыўся ў 5-м класе, а дачка ў 3-м.

— Вы абралі Аўстрыю месцам свайго сталага жыхарства?

— Спадзяюся, што не! У Аўстрыі добра, але душа наша ў Беларусі. Дзеці за гэты час ужо прывыклі да Аўстрыі, ім там камфортна. Сын Аляксей скончыў курсы Эканамічнага ўніверсітэта, а зараз захапіўся камп'ютэрнымі тэхналогіямі, займаецца камп'ютэрным дызайнам. Дачка вучыцца ва ўніверсітэце на факультэце “Міжкамунікатыўныя зносіны”. Яе будучая спецыяльнасць — перакладчык-сінхраніст. У яе пяць актыўных моў: англійская, нямецкая, італьянская, руская, беларуская. Дома мы глядзім расійскае і беларускае тэлебачанне. Дзеці глядзяць толькі рускія фільмы, хоць добра валодаюць нямецкай, англійскай. Мы чытаем рускія і беларускія кнігі. У Мінску бываем кожнае лета, і калі едзем сюды, гаворым: «Едзем дахаты». У нас у Мінску ёсць і кватэра. А калі вяртаемся ў Аўстрыю, вязём чамаданы, набітыя кнігамі. Мы з мужам вельмі любім чытаць. А муж, хоць і фізік, піша шмат літаратуразнаўчых артыкулаў і захапляецца філасофіяй.

— Марына, калі ласка, раскажыце пра газету, у якой вы працуеце. Пра што пішаце?

— У рускамоўнай газеце “Соотечественник”, дзе працую намеснікам галоўнага рэдактара, мы расказваем пра культурныя падзеі, пра літаратуру. Яна прызначана для рускамоўнай дыяспары. Выходзіць адзін раз у месяц на 24 палосах. Тыраж у яе невялікі — ад трох тысяч, бывае і пяць. Нас падтрымліваюць падпісчыкі і фонд «Рускі свет». Я пішу ў ёй з нумара ў нумар пра Беларусь. Там, за мяжой, руская мова аб'ядноўвае і рускіх, і беларусаў. Мы разам адзначаем святы. У нас ёсць літаратурны дадатак — часопіс «Венскі літаратар». Друкуем на яго старонках літаратурныя творы, абмяркоўваем іх.

— Якія ў вас уражанні ад “Славянскага базару” — пра што будзеце расказваць чытачам?

— Мне гэта падзея цікавая яшчэ і таму, што сама праводжу фестывалі. Праўда, літаратурныя. А ад фестывалю ў Віцебску я проста ў захапленні. Добрыя пачуцці ад сустрэч з віцябчанамі. Мне здаецца, яны вельмі добрыя людзі. Літаральна сёння я сядзела на прыпынку, да мяне падышоў малады чалавек і гаворыць: “Вы сумуеце, можа, вам нешта падказаць або дапамагчы даехаць. Давайце я вас на маршрутку пасаджу”. Насамрэч, вельмі выдатна, калі так уважліва да цябе ставяцца ў чужым горадзе. Вельмі шмат прыгожых людзей. Гаворaць, багацце краіны — нафта, карысныя выкапні... Не, на мой погляд, самае галоўнае багацце — гэта душа, людзі, талент людзей. А тут талент на таленце. Такая канцэнтрацыя!

Вось, здавалася б, не дужа прыемны момант: у цэнтры горада, дзе збіраецца шмат людзей, правяраюць на наяўнасць выбуховых рэчываў. Бываюць чэргі, але ніхто не раздражняецца, усё разумеюць, што ўсё для нашай жа бяспекі, ставяцца з разуменнем, усміхаюцца. Мне вельмі падабаецца, што тут людзі вельмі добразычлівыя. І яшчэ я здзівілася, што ў Віцебску, калі я прывіталася ў маленькай краме, — так прынята ў Аўстрыі — ветліва ўсміхнуліся і адказалі, а вось у Мінску, калі я прывіталася, прадавец паглядзела на мяне і спытала: «А што, мы з вамі знаёмыя?». Вось пра ўсе гэтыя ўражанні я і раскажу сваім чытачам — пра горад Віцебск, яго жыхароў, пра атмасферу свята і сам фестываль.

— Марына, раскажыце, калі ласка, падрабязней пра літаратурныя святы, якія вы праводзіце.

— Тры гады таму арганізавала Саюз рускамоўных пісьменнікаў Аўстрыі і з'яўляюся яго кіраўніком. Пакуль у саюз уваходзіць афіцыйна 12 чалавек. Але ў нашых мерапрыемствах удзельнічае значна больш. Мы пастаянна праводзім літаратурныя вечары, два разы ў год — літаратурныя конкурсы. У красавіку, напрыклад, правялі конкурс, прысвечаны 65-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Больш за 300 чалавек прынялі ў ім удзел. Лепшыя творы мы апублікуем у кнізе.

Мне, як кіраўніку саюза, прыходзіцца часта ездзіць на літаратурныя мерапрыемствы, якія праводзяцца ў іншых еўрапейскіх краінах. Сёлета за тры месяцы я ўжо пабывала ў Чэхіі, Бельгіі, Грэцыі, адразу пасля Віцебска еду ў Польшчу, у горад Гданьск, на штогадовыя, ужо 14-я, літаратурныя чытанні. Усе рускамоўныя пісьменнікі за мяжой зараз заклапочаны, у асноўным, станам рускай мовы, пытаннямі духоўнасці культуры. І гэта вельмі важна. Мне падаецца, што на Захадзе нават больш беражліва ставяцца да гэтых праблем, чым у нас у Беларусі і Расіі. Крыўдна, што ідзе спрошчванне мовы, з яе знікаюць нейкія фарбы, у літаратуру ўсё больш пранікае слэнг, што вядома ж, яе збядняе.

— Марына, а як вы прыйшлі ў літаратуру? Калі адчулі жаданне пісаць?

— З дзяцінства вельмі шмат чытаю. А з класа 9-га ўвесь час нешта пісала, і тата нават раіў паступаць на журфак. Але мяне цікавіла яшчэ і фізіка, таму паступіла на фізфак Белдзяржуніверсітэта. Потым закончыла яшчэ і юрыдычны. Але мяне цікавіла яшчэ і фізіка, таму я паступіла на фізфак Белдзяруніверсітэта. Потым закончыла яшчэ і юрыдычны. Калі прыехала ў Аўстрыю, па няводнай з гэтых спецыяльнасцей не магла ўладкавацца на працу, а паколькі я чалавек актыўны і сядзець без справы не магла, пачала пісаць апавяданні і выкладваць напісанае ў Інтэрнэт. Пайшлі водгукі... Пад творамі падпісвалася сваім дзявочым прозвішчам — Марозава. І мая першая кніга выйшла пад гэтым прозвішчам. Калі я падарыла бацькам кнігу, тата сказаў: «Я заўсёды гэта ведаў. Ты страціла шмат часу». Кніга «Я прыдумала цябе» выйшла ў Расіі па рэкамендацыі Саюза пісьменнікаў Расіі.

Потым была серыя казак пра «Сиреневое Чудушко». Нават сама не ведаю, што гэта такое, але гэтыя казкі дапамаглі перамагчы хваробу дзяўчынцы. Па Інтэрнеце знаёмы сказаў, што ў яго цяжка захварэла ўнучка, тады я і пачала пісаць казкі, у якіх хворая дзяўчынка здаравее. Шторанку пісала, як хворая дзяўчынка сустрэла “Чудушко” і як клапацілася пра яго. Тэксты адпраўляла па Інтэрнеце хворай дзяўчынцы, і яна, перасільваючы сябе, уставала шторанку і бегла да камп'ютэра, каб даведацца, як сябе адчувае дзяўчынка з казкі. Яна, як і дзяўчынка з маіх гісторый, павінна была нешта зрабіць для «Сиреневого Чудушки» — сшыць яму штонікі, пачытаць кніжку... Не ведаю, можа, супадзенне, але дзяўчынка акрыяла....

— У вашых кніг па-ранейшаму аўтар — Марозава?

— У мяне выйшлі тры кнігі пад прозвішчам Марозава, потым стала падпісвацца Калашнікавай. А ў студзені 2010 года была ў Маскве на Асамблею рускага свету і заехала ў Мінск, тут і даведалася, што мяне аднагалосна прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Рэкамендацыі далі старшыня СПБ Мікалай Чаргінец і пісьменнік Аляксандр Валковіч.

— Ці ведаюць творы беларускіх пісьменнікаў за мяжой?

— Пачну з таго, што мяне ў самым пачатку жыцця ў Аўстрыі раззлавала. Памятаю, пайшла на курсы нямецкай мовы і калі сказала, што з Беларусі, яны сталі глядзець на карту Афрыкі. Пытаюся: «Я хіба падобная на афрыканку?» Тады яны папрасілі перакласці назву краіны на нямецкую мову — гэта гучала як «Вайсрусланд — белая краіна», значыць, вырашылі яны, гэта Сібір. А калі я паказала на карце, дзе насамрэч знаходзіцца мая радзіма, яны прыйшлі ў захапленне — гэта ж Еўропа!

Мне вельмі важна, каб тут даведаліся як мага больш пра маю краіну, каб убачылі, як тут шмат таленавітых людзей. Увосень буду арганізоўваць літаратурны фестываль, на які абавязкова запрашу беларускіх пісьменнікаў, перакладчыкаў на нямецкую мову, каб аўстрыйскія чытачы маглі пазнаёміцца з нашай літаратурай.

Гутарыла Тацццяна КУВАРЫНА
Мінск—Віцебск—Мінск

На здымку: Марына Калашнікава.

# Маюць глебу спадзяванні

“Дарагія суседзі, браты-палякі!… Беларускі народ і народ польскі — спрадвечныя суседзі, народы аднаго славянскага племя…”
Якуб Колас

Вырашаецца ўзнятае Міністэрствам культуры Беларусі пытанне, ці патрэбна ўстанаўліваць помнік Якубу Коласу ў сталіцы Польшчы. Хаця, здавалася б, адказ ляжыць на паверхні, хоць Якуб Колас Варшаву ніколі не наведваў.

Галоўнае, ад чаго можна адштурхоўвацца пры абгрунтаванні, — гэта цесная знітаванасць беларускай і польскай культур, асабліва прыгожага пісьменства. Прычым яна сапраўды настолькі цесная, што ўвасобілася ў сімвалічнае супадзенне прозвішчаў двух вялікіх паэтаў народаў-суседзяў — Міцкевіч. Супадзенне тое, відаць, усё ж мае нейкі метафізічны, сакральны сэнс.

Польскі рамантык Адам Міцкевіч нарадзіўся на ліцвінскай Наваградчыне, непадалёк ад якой меней чым праз стагоддзе прыйшоў на свет Кастусь Міцкевіч. Абодва ўзгадаваліся на адной зямлі.

З надаўняга часу Мінск, у якім таксама наўрад ці бываў Адам Міцкевіч, мае шыкоўны яго помнік. (І не толькі Мінск, але і іншыя гарады Беларусі ўвекавечылі вялікага рамантыка помнічкамі, бюстамі, назвамі вуліц.) А вось павага да беларускага Міцкевіча яшчэ не ўвасобілася ў такі



знак на польскай зямлі. Між тым беларушчына ў нашых заходніх суседзяў апошнім часам пашырыла свае межы, выйшла за рамкі традыцыйна беларускай Беласточчыны: сёння ў Варшаўскім універсітэце функцыянуе цэлае аддзяленне, а непадалёк — таксама беларуская кнігарня. Таму ўслаўленне найвыбітнейшага паэта Беларусі ў польскай сталіцы стане хутчэй лагічным працягам абазначанай тэндэнцыі, сімвалам таго, што беларушчына на польскай ніве не проста прывілася, але і прыгожа закаласілася. Тым больш што творчасць Якуба Коласа выдатна прадстаўлена ў перакладах на польскую мову, перадусім адзначым самы славуты твор — паэму “Новая зямля”, цалкам перастворaную па-польску ў 2002 годзе Чэславам Сенюхам.

Сам жа Якуб Колас зрабіў важкі ўнёсак у развіццё польскай літаратуры і культуры. Беларускі паэт вельмі любіў творчасць свайго земляка і аднафамільца, таму не толькі рабіў пераклады яго твораў, але і не абыходзіў увагай юбілейныя даты, звязаныя з жыццём Адама Міцкевіча. “Радасна ўсведамляць, што любоў да творчасці народа і веданне яе прывілі Міцкевічу ў маленстве простыя людзі нашай добрай Навагрудчыны, што яго музу многія гады натхнялі беларускія азёры і лясы. Тут ён упершыню пачуў ад жанчыны, якая працавала ў доме бацькоў, песню і казку, палюбіў і запомніў іх, і праз вялікі час, гартаючы зборнікі фальклору, гаварыў, што яму гэта ўсё знаёма, што мог бы аднавіць усе мелодыі, і папраўляў тэксты песень так, як ведаў іх з маленства. Тут азнаў ён першае і, можа, адзінае каханне з усімі яго смуткамі і радасцямі. Тут ён на ўсю шырыню маладой душы палюбіў народ”, — пісаў Якуб Колас.

Дый самі заходнія суседзі карысталіся высокай пашанай у беларускага Песняра, які адзначаў гістарычную, культурную і ў цэлым светапоглядную агульнасць нашых народаў. Казаў Якуб Колас і пра жыватворнасць беларускай зямлі для культуры польскай, і пра яе супольную абарону “ад тэўтонскіх драпежнікаў”, і пра “гнёт царскага самаўладства”. “Няхай жыве дружба народаў!” — менавіта такім заклікам заканчвае беларускі класік артыкул, адрасаваны “братам-палякам”.

Сёння мы чакаем спаўнення спадзяванняў, што ў хуткім часе следам за ўстаноўленым помніка Янку Купалу ў Гданьску польскі і беларускі народы ўзбагацяцца на тоеснае ўшанаванне яшчэ аднаго народнага паэта Беларусі, гэтым разам у Варшаве.

Анатоль ТРАФІМЧЫК,
старшы навуковы супрацоўнік Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа

На здымку: М. Лужанін, М. Танк, Л. Левін, Я. Брыль, І. Шамякін і польскія пісьменнікі В. Кубацкі і Я. Браноўская на прыёме ў Якуба Коласа (сядзяць, справа ад Я. Коласа).

Фота з архіва Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

# СПАСЦІЖЭННЕ АЗБУКІ ЖЫЦЦЯ

Азбукі, як вядома, бываюць розныя. Самыя галоўная сярод іх, канечне ж, тая, па якой адбываецца навучанне ўменню чытаць. Іначай кажучы, звычайны буквар. Праўда, паэты ствараюць для дзяцей яшчэ і пазнавальныя, займальныя азбукі. Напісаныя ў форме вясёлых вершаў, дасціпных загадак, а то і складзеныя з арыгінальных скорагаворак і каламбураў, яны дазваляюць хлопчыкам і дзяўчынкам лепей засвоіць тую ці іншую літару алфавіта, адчуць, наколькі ў яе вялікія магчымасці, калі неабходна азначыць пэўныя паняцці, ці стварыць надзіва насычаны малюнак, узяты з самой рэчаіснасці. Прынамсі, у стварэнні займальных азбук немалыя набыткі ў Максіма Танка, Васіля Віткі, Рыгора Барадуліна, Артура Вольскага. Цяпер у гэтым накірунку плённа працуюць Міхась Пазнякоў, Мікола Чарняўскі, Уладзімір Мазго. Дый іншыя паэты таксама.




Празаікі, праўда, ад стварэння мастацкіх азбук знаходзіліся як бы ў баку. Толькі нездарма кажуць: святое месца пустым не бывае. Знайшоўся, нарэшце, пісьменнік, які даказаў, што і ў жанры прозы можна стварыць адметную азбуку. Безумоўна, маючы важную перадумову — добрую фантазію. Чаго-чаго, а яе Уладзіміру Ліпскаму не займаць. Як і талентам ён не тое, што не абдзелены, а працуе настолькі плённа, што застаецца толькі па-добраму пазайздросціць яму. Таму ў рэшце рэшт і нарадзілася ва Уладзіміра Сцяпанавіча "Азбука жыцця", якую выдавецтва "Адукацыя і выхаванне" нядаўна выпусціла асобнай кнігай.

Адразу засведчу: "Азбука жыцця" зусім непадобная на тыя займальныя азбукі, якія дагэтуль пісаліся нашымі паэтамі. Рэч у тым, што яна — і свайго роду азбука (прадстаўлены ў алфавітным парадку ўсе асноўныя літары і адпаведна тлумачацца паняцці, што пачынаюцца з той ці іншай літары), але, паколькі ахоп матэрыялу шырокі, то адначасова атрымалася і своеасаблівая невялікая, кампактная энцыклапедыя, на што, дарэчы, звяртае ўвагу і доктар філасофскіх навук, член Еўрапейскай асацыяцыі "Адораныя дзеці", ён жа член Саюза пісьменнікаў Беларусі Юрый Гусеў.

Звяртаючыся да юнага чытача, ён піша: «Ты держишь в руках удивительную во всех отношениях книгу известного писателя Владимира Степановича Липского, автора многих книг для детей и юношества. Эта книга среди них занимает особое место, ее можно без преувеличения назвать малой детской энциклопедией, которая откроет перед тобой чудесный мир новых знаний […] Эта книга обогатит твой словарный запас, будет способствовать развитию твоего мышления, сообразительности, лучшему усвоению нового учебного материала, ты сможешь стать активным участником популярной игры «Что? Где? Когда?»

Безумоўна, з падобным сцвярджэннем слыннага навукоўца нельга не пагадзіцца. Але, думаецца, да месца невялікае, аднак, як на маю думку, істотнае дапаўненне. Важна тое, што У.Ліпскі, пішучы сваю "Азбуку жыцця", пастаянна памятаў пра тых, хто найперш стане ягоным чытачом. Несумненна, гэтая "энцыклапедыя" зацікавіць і старшакласнікаў, яе з карысцю для сябе выкарыстаюць у сваёй рабоце настаўнікі, а таксама выхавацелі. Дый бацькі, якія клапоцяцца аб пашырэнні кругагляду сваіх дзяцей, дбаюць аб іх усебаковым развіцці, пастараюцца гэтую кнігу набыць.

Тым не менш самым удзячным чытачом "Азбукі жыцця", несумненна, стануць малодшыя школьнікі. Таму, улічваючы іхні ўзрост, аўтар адпаведным чынам і падае фактычны матэрыял: даходліва, у чымсьці займальна, але разам з тым так, каб не губляўся ягоны пазнавальны патэнцыял. Пры гэтым У. Ліпскі, тлумачыць значэнне пэўных пацяццяў, з якімі часта сутыкаюцца дзеці, абавязкова прыводзіць такія прыклады з жыцця паўсядзённага ўвогуле, але часам і са свайго асабістага, што надаюць ягонаму аповеду не проста жывасць, але і ўводзяць ва ўжытак і дадатковую інфармацыю.

Узяць, скажам, тлумачэнне значэння такога паняцця, як "дэпутат". Гаворка пачынаецца з таго, што аўтар кнігі знаёміць з Анатолем Нятылькіным (на жаль, ужо нябожчыкам), які двойчы выбіраўся дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым У.Ліпскі прызнаецца, што ў свой час пра Анатоля Іванавіча ён напісаў кнігу "Сын дня". Дый як было і не напісаць яе, калі Нятылькін — з людзей, у якіх не толькі ёсць чаму павучыцца, а і трэба вучыцца. Страціўшы зрок, узяўшы ў рукі баявы ўзрывальнік, а падобнага «багацця», на беларускай зямлі пасля вайны засталося вельмі шмат, ён не зламаўся, выстаяў. У апошнія гады свайго жыцця ўзначальваў Рэспубліканскае таварыства інвалідаў па зроку.

Ужо гэтага прыкладу дастаткова, каб упэўніцца ў парламент Рэспублікі Беларусь выпадковыя людзі не выбіраюцца. Следам за артыкулам дзецям прапануецца дамашняе заданне, пытанні якога дазваляюць удакладніць некаторыя моманты, звязаныя з дзейнасцю вышэйшага заканадаўчага органа краіны. А яшчэ ў якасці дадатку прапануецца разгадаць рэбус, дзякуючы якому можна даведацца, што раней Парламент Беларусі называўся Вярхоўны Савет.

Дарэчы, заданні, а таксама рэбусы змешчаны пасля тлумачэння сэнсу многіх паняццяў, прыведзеных у "Азбуцы жыцця". Адметнасць гэтых заданняў і ў тым, што ў асобных выпадках чытачам прапануецца разабрацца ў тым, што мае на ўвазе тая ці іншая вядомая беларуская прыказка, альбо прымаўка. Гэта, безумоўна, яшчэ ў большай ступені актывізуе лагічнае мысленне, развіваецца ў хлопчыка і дзяўчынак уменне суадносіць розныя з'явы, каб зрабіць адзіна правільную выснову.

Што тычыцца саміх паняццяў, якія трапілі ў поле зроку аўтара, то У. Ліпскі падабраў іх такім чынам, каб не абысці ўвагай найперш тыя з іх, якія, як кажуць, на слыху. Пры гэтым знайшлося месца і такім, да якіх не адназначнае стаўленне. Хоць гледзячы з якога боку да іх падыходзіць. Напрыклад, сяму-таму, ужо пры ўпамінанні слова "нацыяналізм" становіцца не па сабе, а ведаць, што яно азначае на самай справе, ніколі не лішне. Тым больш дзецям будзе карысна глыбей зразумець сутнасць такіх паняццяў, як "бюджэт", "дыпламатыя", "канстытуцыя", "рэферэндум", "цывілізацыя", "эканоміка".... Не абыдзены ягонай увагай і, калі можна так сказаць, традыцыйныя: "Айчына", "абавязкі", "гісторыя", "краязнаўства", "мова","сям'я","спадчына","школа" і іншыя.

Увогуле, чытаючы кнігу неаднаразова пераконваешся ва ўменні У. Ліпскага пісаць так, што нават пра, здавалася б, добра вядомае ён можа сказаць не проста па-свойму, а арыгінальна, а таму і запамінальна. Найлепшы таму прыклад — вытлумачэнне паняцця "Беларусь". Здавалася б, няма аніякай неабходнасці на ім засяроджваць асаблівую ўвагу. З другога боку — паспрабуй асэнсаваць яго літаральна на двух кніжных старонках.

Аднак для аўтара кнігі "Азбука жыцця" няма немагчымага. Больш за тое, прамовіўшы ўсхваляванае слова пра нашу краіну, ён яшчэ прапаноўвае чытачу і арыгінальную казку "Браты". Як і мае быць у гэтым даўнім жанры, у творы фігуруе лічба "тры". Але гэта гаворка ідзе зусім не пра традыцыйных братоў — старэйшага, сярэдняга і малодшага. Узрост іх проста не згадваецца, бо для маці ўсе яны аднолькава любыя. Тым не менш адрозніваюцца адзін ад аднаго.

На вопратцы першага сына ззяў "вясёлы ўзор-арнамент бел-чырвонага колеру". Другому сыну маці спляла вянок-эмблему "са спелых каласоў, збажыны, кветак канюшыны, ільну, якімі багата наша ўрадлівая зямля. І перавязала іх чырвона-зялёнай стужкай...". Трэцяму сыну маці падарыла ноты і словы песні, якую лічыла для сябе самай дарагой, а ў ёй ёсць і такі радок: "Мы, беларусы — мірныя людзі".

Без асаблівай цяжкасці хлопчыкі і дзяўчынкі адкажуць, як завуць гэтых братоў. Не сакрэтам для іх стане і назоў іхняй маці. Канечне ж, гэта Беларусь, а таксама нашы дзяржаўныя сімвалы Герб, Сцяг і Гімн Рэспублікі Беларусь.

Пра "Азбуку жыцця" можна казаць яшчэ шмат ухвальнага і ўсе гэтыя словы ніколькі не будуць лішнімі, бо, хочацца гэта падкрэсліць яшчэ раз, падобныя выданні сёння, калі многія школьнікі не ўяўляюць сабе жыцця без камп'ютэра, вельмі неабходы. Дзякуючы сваёй актуальнасці, яны ўспрымаюцца свайго роду падручнікам на штодзень, а падручнік тым і адметны, што ён для тых, хто хоча болей і многае ведаць, тым і прыцягальны, што ў ім без асаблівых цяжкасцей можаш знайсці патрэбную для сябе інфармацыю.

А яшчэ ў канцы кнігі змешчаны артыкул вядомага беларускага даследчыка дзіцячай літаратуры Маргарыты Яфімавай "Верны сябра дзяцей", у якім падрабязна прасочваецца жыццёвы і творчы шлях У.Ліпскага. Гэта, безумоўна, паспрыяе таму, што зацікаўлены чытач захоча пазнаёміцца з некаторымі з тых кніг пісьменніка, пра якія ідзе гаворка.

Алесь МАРЦІНОВІЧ



# САГРАВАЦЬ ЗАІНЕЛЫЯ ДУШЫ

Каб душа чалавечая не замерзла ад сцюдзёна-ледзянога дыхання нашай планеты, Бог падарыў людзям МАСТАЦТВА. Але колькі агню патрэбна мастаку-творцу, каб сагрэць заінелыя душы?.. І колькі іх, мастакоў-творцаў, згарала, прагнучы растапіць крыгі ў чалавечых душах?.. Творчасць Міколы Шабовіча, аўтара паэтычных кніг "Дом", "Падары мне сваю адзіноту", "Яшчэ пакуль не лістапад…", "Мая надзея", наскрозь пранізана звышадчувальнай чысцінёй, у якой патанаюць і родныя мясціны, і людзі з неадчужанымі вачыма, і светаадчуванне паэта, і Жанчына — "вясна дзён", "мар паланянка", "высокага неба абранніца"…

Выпешчаныя надарванай душой радкі, народжаныя, бы доўгачаканыя дзеці, ствараюць свята сапраўднай паэзіі, пакліканай ацаляць і саграваць. У вершах, прысвечаных бацькоўскай зямлі, паўстае рэальны, не рамантызаваны свет. Боль паэта народжаны ўчарашнім і сённяшнім днём, знямелымі вуснамі роднага краю, адзінотаю дастасаваных да хрысціянскай сімволікі трыццаці трох двароў роднай вёскі Бадзені, сярод якіх туліцца на непрыветным свеце пакінуты дзед Пракоп, дзе затоена чакае мама…

…У нашай вёсцы —
трыццаць тры двары.
І, нібы назаўсёды выпраўляючы,
Глядзіць мне ўслед
задумлівы стары,
З вачэй далонню слёзы выціраючы.

Аднак непрытоены, аголены боль не захінае дзівосныя, чароўныя малюнкі жыцця. Журба паэтычнага радка Міколы Шабовіча светлая, гаючая: яна дакранаецца да сумлення, ачышчаючы яго, як пераплаўленае золата, і боль набывае нязведаныя ўласцівасці асвячэння, збавення.

…Ты — збавенне, мой востраў,
Куточак зялёны,
Я прыходжу сюды,
Каб спазнаць таямніцы жыцця.
<…>
…Боль мой востры-
Мой востраў…

Сапраўднае, ачышчанае, без кроплі фальшу шчасце паэта заяўляе пра сябе толькі адолеўшы выпрабавальны шлях асвячэння болем. Няхай жыве такі боль, ад якога світае ў сэрцах.

…Наводшыбе мяне сустрэне хата,
Сустрэне мама.
І сярод радні
Мне стане міла,
хоць ніякавата
Ад цішыні, балючай цішыні.

Філасофскія радкі Міколы Шабовіча сведчаць пра нястомны пошук адказаў на пытанні, ад пачатку дзён раствораныя ў глыбінях Сусвету. Пачуць гэтыя пытанні, якія прагнуць калі не адказу, то хаця б прызнання іх права на голас, можа толькі аголенае сэрца.

Не спіцца. Хочацца мне мець
Адказ на ўсё, што ёсць, што будзе,
Каб назаўсёды зразумець,
Што значу я, што значаць людзі.

Лірычны герой Міколы Шабовіча бачыць у кожным дні апошні. Аднак такое светаадчуванне не зведала подыху трагізму — наадварот, яно ўзводзіць у ступень каштоўнасць кожнай асобнай хвіліны і — адпаведна — адказнасць перад такой каштоўнасцю.

У небе зорак — не злічыць,
Люстэркам — поўня.
А ці запоўніў дзень я чым?
І ці запомніў?

Паэтычныя набыткі Міколы Шабовіча, што супрацьстаяць "хлуснясневу", сагрэты чуйнасцю да слова, адказнасцю за "вершаваных дзяцей": як павернецца лёс, калі прыйдзе няўхільная пара адпускаць іх у вялікі, не заўсёды лагодны свет?

Мае ласкава-сумныя радкі,
Народжаныя сумнымі начамі,
Запісаныя спешна ад рукі,
Сустрэнуцца не хутка з чытачамі.
<…>
…Няхай раса астудзіць ім бакі,
А потым сонца высушыць ласкава.
Народжаным, дай Бог ім жыць вякі!
А колькі пражывуць яны, цікава,
Мае ласкава-сумныя радкі,
Напісаныя сумнымі начамі?

У кожным чалавеку адчайна і бясспрэчна затоена прага знайсці адзіна-прызначаную яму душу. Біблія, скарбніца мудрасці, любові, суцяшэння, невыпадкова пачынаецца гісторыяй пра Адама і Еву, адораных першым пачуццём на зямлі — каханнем. У самай сярэдзіне Свяшчэннага Пісання — Песні Песень Саламона, што апяваюць свята мілосці, судакранання зродненых душ мужчыны і жанчыны. Апошнія ж старонкі Бібліі — прароцтва пра вырашальную, апошнюю вясельную ўрачыстасць Зямлі. Творчасць Міколы Шабовіча — гэта перш за ўсё сугучная з біблейскай музыка кахання, служэнне чыстаму каханню. Часам мелодыя паэта ўзмацняецца, каб потым суцішыцца, правяраючы чытача на чуйнасць… З верша ў верш пераходзяць умілаваныя жаноцкія абрысы. "Шчымліва нараджаецца жанчына" паэтычных радкоў, якой наканавана расквечваць свет сваёй пяшчотай, чысцінёй, прыгажосцю.

ЖАНЧЫНА як лірычны герой набывае значэнне філасофскай катэгорыі — асабістай знаходкі Міколы Шабовіча. Інтымная лірыка паэта унікальная сваёй двухаблічнасцю: яна ўбірае ў сябе "вершы пра дваіх" (мужчыну і жанчыну) і "вершы пра АДНУ, АДЗІНУЮ, АДЗІНКАВУЮ, АДЗІНОКУЮ" (жанчыну), якая заўжды была "не святошай, але святою". Такі падзел абумоўлены тым, што жанчына для паэта — на недасяжным алтары святасці, дзе месца адведзена толькі ёй.

Аднак у гэтай шчымлівай субардынацыі — не мужчынская нерашучасць альбо слабасць, а сакральная павага да добрай, свабоднай волі жанчыны. Толькі гэтай павагай і вымяраецца мужчынская годнасць.

…Не знаю, што са мной,
Маўчу, бы немаўля.
Мо для цябе адной
І круціцца зямля.
У вочы я гляджу,
Яны не маюць дна…

Каханне ў вершах Міколы Шабовіча настойліва супрацьстаіць аднадзённасці, пошуку хвіліннай асалоды, забыцця.

Зямныя шляхі закаханых лірычных герояў паэта рэдка нітуюцца, пераплятаюцца. Найчасцей непазбежнасцю паўстае расстанне, якое прарочыць нязрушную повязь сэрцаў, пакуль ёсць жыццё на зямлі.

Закаханыя Міколы Шабовіча маюць найвялікшы дарунак — цёплыя воды памяці, у якіх яны ацаляюцца ў расстанні, каб зноў жыць паасобку з адным пачуццём на дваіх. Гэтыя воды памяці назапашваюць гаючыя крышталікі-ўспаміны.

…Мне гэты сон да скону берагчы,
Хоць застанецца тайнаю навекі:
На шчасце ці на гора ўпала вейка?
Мне гэты сон да скону берагчы.
Ты спіш нячутна на маім плячы.

Паэзія Міколы Шабовіча — як шматпланавая, так і скандэнсаваная ў першым пачуцці на зямлі — ачышчаная глыбока-сакральным болем, адказнасцю, чуйнасцю, насамрэч пакліканая саграваць нашыя душы. Думаецца, гэтыя ўлюбёныя "паэтычныя дзеці" заснавальніка новай для беларускай паэзіі філасофскай катэгорыі, імя якой — Жанчына, прайшлі і праз ачышчэнне часам, што выступае самым справядлівым крытыкам і аналітыкам. Яшчэ чакаюць належнай ацэнкі метафары-рэбусы, залатазвонныя эпітэты, чуйныя наватворы, жыццяпісны гукапіс, песенная словатворчасць, шматуладныя вершаваныя памеры Міколы Шабовіча, які застанецца паэтам, што апяваў і апявае першае дадзенае Богам пачуццё, якое дазваляе камусьці падарыць сваю спрадвечную адзіноту, пагадзіўшыся,

што "двое" —
Гэта не значыць
"Адзін" і "адна",
Бо "двое" —
Калі па адным
Немагчыма.

Тацццяна ВЫСКВАРКА

Калаж Віктара Калініна

# Светлая трагедыйнасць паэзіі Васіля Гадулькі

Творчасць мастака з'яўляецца вобразным увасабленнем яго светапогляду. Форма, праз якую перадаецца светапогляд творцы, адлюстроўвае яго псіхалагічны стан, або, дакладней кажучы, якасць яго светаадчування. Светаадчуванне Васіля Гадулькі, калі гаварыць пра яго без нюансаў, было трагічным. Калісьці Іосіф Бродскі раіў свайму сыну не захапляцца паэтызацыяй трагічнага боку рэчаіснасці, бо гэта першае і самае простае, што прыходзіць у галаву, калі пачынаеш пісаць вершы. Але адна справа — парада Нобелеўскага лаўрэата, і зусім іншая — уласнае стаўленне да жыцця.



Людзей з трагічным светапоглядам даволі многа. Амаль ніхто з іх не становіцца паэтам, тым больш буйным, бо гэта разбуральна для жыццятворнай сутнасці паэзіі. Часам здараюцца выключэнні (якія пацвярджаюць правіла), і ў літаратуру трапляе цэлая плынь мастакоў слова, якія культывуюць у сваёй творчасці трагедыйнасць. Напрыклад, кагорта "выклятых паэтаў" Францыі. Аднак, аналізуючы іх вершы, нескладана заўважыць элементы гульні і эпатажу, пры дапамозе якіх трагізм у нейкай ступені набывае фіктыўны выгляд і пераадольваецца.

У беларускай літаратуры Гадулька з яго амаль нязменнай і чыстай нотай роспачы існуе паасобку. Ён адзінокі тут, якім быў і пры жыцці.

Паэзія — стыхія пачуццяў, у якой сэнсу ніколі не адводзіцца галоўная роля. Аднак сказанае не азначае, быццам паэзія наогул пазбаўлена змястоўнасці. Не, гаворка ідзе толькі пра меру наяўнасці сэнсу ў лірычным масіве, меру, якая ў кожнага творцы свая, індывідуальная. Гэтая заканамернасць вымушае нас звярнуць увагу на тое значэнне, якое надае сэнсаваму складніку паэзіі менавіта В. Гадулька. Так, у вершы "Годзе мудраваць: дачка хлусні..." паэта абурае "канчатковай ісціны бясспрэчнасць", таму ён скептычна ставіцца да розуму і магчымасцей пазнання:

Розум! Ён жа першы
б'е ў званы:
адкрыццё зрабіў.
А гэта значыць —
цудаў стала менш. Але ж яны
побач з ім! Ды розум іх
не бачыць.

Паводле В. Гадулькі, чалавек не ведае праўды, ён гнасеалагічна бяссільны, ён перш-наперш істота для перажывання пакуты. У цэлым такую пазіцыю можна ахарактарызаваць як экзістэнцыялісцкую, але гэтая выснова ўсё ж даволі павярхоўная, бо яна дазваляе выявіць спецыфіку гадулькаўскай творчасці толькі ў самых агульных рысах.

В. Гадулька лічыць выратавальным ірацыянальны спосаб існавання і адстойвае яго гегемонію: "Няведанне ратуе нас — // дае нам жыць і спадзявацца...". Такім чынам сродкамі культуры — арсеналам паэзіі і разважаннямі на філасофскія тэмы — аснова культуры адсоўваецца на перыферыю чалавечага быцця. А што ўзамен? На гэтае пытанне дае адказ верш "Чорная госця". У ім аўтар, выкарыстаўшы фабульную канву балады амерыканскага паэта Эдгара По "Крумкач", прыходзіць да ўласнай высновы:

...няма куды дзявацца
ад жудаснага адкрыцця,
калі знянацку — таямнічы
ў тваіх вачах — падман жыцця
ў пачварным паўстае абліччы.

Пазнанне звязана з адкрыццём не толькі змрочных, але і светлых бакоў быцця. Аднак Гадульку мала цікавяць апошнія (у яго нават пейзаж — пераважна начны і асенні); ён пясняр роспачы і носьбіт апакаліптычнага светаўспрымання.

В. Гадулька бліскуча валодае майстэрствам увасаблення трагічнага зместу, і ў гэтым яму дапамагае крыштальная шчырасць інтанацыі. Для яго "Памяць сэрца — крыніца пакут невычэрпных, // успамінаў аб страчаным шчасці нясцерпных". І нават калі паэт пачынае распавядаць пра штосьці светлае, кожны, хто знаёмы з яго творчасцю, ужо чакае пераходу да адценняў цемры і амаль ніколі не памыляецца. Верш "Люба мне, калі ў прыціхлым садзе...", у якім чуецца адгалосак ясенінскага смутку, — паказальны прыклад лірычных разважанняў В. Гадулькі. Пачатак — урачыста-элегічны.

Люба мне, калі ў
прыціхлым садзе
ў кронах дрэў
не згас яшчэ агонь.
Ліст пажоўклы прыляціць
і сядзе
матыльком на золкую далонь.

Аднак у другой страфе адбываецца інтанацыйны пералом і змена настрою. Аўтар узнімаецца да паэтычнага абагульнення, у якім прасочваецца прыхільнасць да апакаліптычнага светаўспрымання:

Ветрык з ім свае
спыняе гульні...
Ці не для таго, каб нагадаць:
усяго жывога лёс агульны —
пакрысе мярцвець і ападаць?

Нельга сказаць, што Гадулька радыкальна не заўважае светлых фарбаў жыцця, але з яго пункта гледжання "час цвіцення — лічаныя дні", і ніяк інакш.

Творчае крэда Васіля Гадулькі, канечне ж, паходзіць ад яго светапогляду. Нават прыгожы верш з аднайменнага твора "...ўспыхнуў і згарэў // феерверкам асляпляльных промняў // і нікому сэрца не сагрэў, // і ніхто нічога не запомніў". Тут відавочна расчараванне рамантыка ў неабходнасці паэзіі. Прыгажосць, якая, паводле Шылера, павінна была ратаваць свет, у Гадулькі марна знікае ў агні.

Вядома, што рамантык — гэта зачараваны цынік, а цынік — расчараваны рамантык. Аднак Гадулька пры ўсіх яго расчараваннях ніколі не спакушаецца ступіць на тэрыторыю цынізму. І гэта ратуе душу паэта ад самавынішчэння і дорыць яго лірыцы непадробленую празрыстасць. Але да яе Гадулька рухаецца складанымі шляхамі.

У вершы "Да крытыкаў" прызыў да аб'ектыўнасці ("Не дагаджайце. Патрабуйце, // каб песня песняю была...") саступае затоенай скарзе на нялёгкую долю паэта, якая гучыць нібы выклік: "А лепей самі паспрабуйце // вырошчваць кветкі — без святла". Варта ўвагі тое, што ў гэтых словах перададзены не толькі вядомая і чаканая аўтарская ўстаноўка на творчае пакутніцва, але і пратэст супраць цемры. Нават жывучы ў змроку, паэт не згодзен ні на які іншы занятак, апроч культывавання прыгажосці. Так, трагічная муза В. Гадулькі імкнецца да святла і адмаўляецца апяваць морак.

Насамрэч гадулькаўская трагедыйнасць, нягледзячы на яе распаўсюджанасць, не з'яўляецца інфернальнай. Яе зброя — ваяўнічасць і інвектыўнасць — прымяняецца не вельмі часта, хаця і трапна. Гадулька ўражвае і сваёй магутнай роспаччу, і сваімі выпадамі супраць вяршыцеляў зла. Ім ён адмаўляе калі не ў праве "людзьмі звацца", то ва ўласнай паэтычнай прыхільнасці (верш "Неспакой"):

Мне б свой край апяваць.
Ад Заходняй Дзвіны
і да Брэстчыны
мне б прайсці і з надзеяй
заглянуць у кожны куток,
а я бачу вялізны натоўп
прагавітых, нахабных,
разбэшчаных
і ласкавага слова для
іх не знайду
і не ўцісну ў радок.

Аднак часам гадулькаўская інвектыўнасць амаль губляе мяжу паміж дабром і злом, і тады паэт рызыкуе скаціцца ў небяспечную бездань. У вершы "Самагубцы" ён, на першы погляд, дыскрэдытуе прагу да жыцця і ўсхваляе смерць як збавіцельку ад пакут:

У проціборстве сіл дабра і зла
тупы інстынкт
цярплівасці жывёльнай
не спрацаваў —
душа перамагла,
і суджана ёй стаць,
як птушцы, вольнай.

Сімптаматычна, што ў прыведзеных радках перамога душы не становіцца перамогай дабра. Але аўтарскі намер не быў зласлівым, і Гадулька пацвярждае гэта фінальнымі радкамі, у якіх дасягаецца галоўная мэта верша, аснова яго мастацкай сілы, — рамантызацыя пакутнікаў лёсу:

Уцеклых не ў
выратавальны сон,
а ў Вечнасць, у якой
свае законы,
іх возьме Ноч пад
зорны парасон
і зберажэ ад глуму іх імёны.

Матыў спачування ахвярам людзей і лёсу — скрозны ў творчасці В. Гадулькі, ён цесна пераплецены з уласцівым мастаку пачуццём справядлівасці ("…не для ўсіх прыносіць радасць сонца, // калі яно ўзыходзіць не для ўсіх" ("Ранак у лесе")), а таксама з той наіўнасцю светапогляду, якая характарызуе людзей чулых і незласлівых. Паэт спачувае жывым істотам ("Чорны кот", "Смерць") і нават "...звычайнай пешцы, // што заўжды трапляе ў лік ахвяр, // той, якую шахматысту ў спешцы // не шкада падвесці пад удар" ("Шахматы і жыццё"). Але ўсё гэта, безумоўна, — праекцыя адносін да людзей, бо праз сэрца паэта праходзіць сукупны чалавечы боль.

У цяжкія хвіліны жыцця лірычны герой Гадулькі горка наракае на сваю долю, аднак пры гэтым нікому не пасылае папроку ("Зноў душу апякае ўспамінам..."):

...маю тут свой куток
і ў кутку тым
мушу, сын шматпакутнай
зямлі,
зноў і зноў заставацца —
прыкуты
лёсам продкаў да чорнай раллі.

Вельмі важныя для разумення трагедыйнасці гадулькаўскага светаадчування матывы падманлівасці кахання, ключавыя ў інтымнай лірыцы паэта ("Рака", "Не выдумляй, што для цябе я не памру...", "Ноч пакінула цёмны закутак...", "Вэртумн і Памона", "Гамер і Гелена"). Ён лічыць: "Каханне — гэта светлы сон душы" ("Санет ІІ") — і пераносіць сваю мару аб гэтым пачуцці ў трансцэндэнтную сферу: "Сустрэнемся мы ў іншым тым жыцці, // дзе нас з табой нішто ўжо не разлучыць" ("Развітанне"). І ўсё ж паэтава душа жыве надзеяй на каханне ("На хвалях пяшчоты...", "Усміхніся"), а яго прага пульсуе ў хвалююча-эратычным вершы "Спёка". Нездарма нават вянок санетаў "Зорка радасці", у якім расказаная гісторыя нешчаслівага кахання, мае аптымістычна-ўзнёслую назву і завяршаецца ў адпаведнасці з ёю: "І не страшны мне цемра і гора — // сэрца знойдзе і ў цемры святло".

Магістральную сувязь з жыццём самотны лірычны герой Гадулькі падтрымлівае праз любоў да Радзімы. Ён не афішуе свае патрыятычныя пачуцці, а проста жыве на роднай зямлі і дыхае родным паветрам. Але пра многае сведчаць арганічная злітнасць яго душы з беларускай прыродай і клапатлівая дэталёвасць, з якой у Гадулькавых вершах апісаны берасцейскі пейзаж. Пра запаветнае — пра сваю непарыўную сувязь з Радзімай — паэт гаворыць у звыклай для сябе алегарычнай манеры: "...хай кропелькай сонца згублюся ў траве — // мне ў памяці жыць, покуль дрэва жыве" ("Роднае дрэва"). І хаця ён расчараваны ў магчымасці асабістага шчасця, аднак верыць у прыстойную будучыню свайго народа: "Пачакай: яшчэ сонца выгляне. // Сонца выгляне — будзем жыць" ("Па-над хатамі, па-над гумнамі...").

Безумоўна, у лірыцы Васіля Гадулькі ёсць і недахопы. У яго крыху просталінейна і прастадушна ўвасобленыя грамадзянскія матывы ("Голас", "Па-над хатамі, па-над гумнамі…", "Неспакой"), не заўсёды ўдалым аказваецца пераасэнсаванне "вечных тэм" і вядомых сюжэтаў ("Вертэр, Ева і Дон Жуан", "Ранкам клён зялёны на маім падворку…"). Не на вышыні свайго таленту паэт і ў творы буйнога жанру — "Паэме без назвы". Аднак усе пералічаныя хібы не фатальныя. Яны — знакі неўсталяванасці паэтычнага майстэрства, а не творчай немачы. Няма сэнсу засяроджвацца і на недасканаласці стылю некаторых вершаў Гадулькі: гэта не столькі індывідуальны, колькі аб'ектыўны недахоп, бо ў прыватнасці такім чынам на літаратуры адбіваецца незавершанасць станаўлення мовы і нацыі.

Што ж тычыцца песімізму, эмацыйнай квінтэсенцыі Гадулькавай паэзіі, то гэта таксама з'ява пераважна агульнага плана, дакладней, характарыстыка самаадчування беларуса. Дарэчы, цёзка берасцейскага паэта Быкаў — чалавек і пісьменнік сонечнай душы, якога, тым не менш, цяжка назваць аптымістам. Але галоўнае, што аб'ядноўвае такіх розных творцаў — празаіка Васіля Быкава і паэта Васіля Гадульку — гэта тое, што, кожны па-свойму, яны прыкмецілі ў беларускім менталітэце яго станоўчую рысу: глыбока затоеную ("партызанскую") цягу да святла ва ўмовах навакольнага змроку, нястрымнае імкненне "вырошчваць кветкі — без святла". Своеасабліва гэты момант адлюстраваны ў вершы "Увосень", адным з лепшых узораў Гадулькавай лірыкі. Абраны аўтарам энергічна-працяжны пяцістопны анапест дакладна адпавядае высокаму ладу паэзіі. Гарманічны па змесце і форме, верш "Увосень" вылучаецца сваёй пранікнёнай канцоўкай:

Крывяню сабе вусны
калінавай ягадай спелаю.
П'ю ляснога паветра
духмяны смалісты настой.
І ўплятае мне восень
яшчэ адну нітачку белую —
урачыстага смутку —
у мой жураўліны настрой.

Аляксандр ГАРБАЧОЎ

Калонка
Міхася ЮЖЫКА

# Чалавечы фактар



Беларускія пісьменнікі часта — як дзеці малыя. Дадуць ім цукерку ў выглядзе станоўчай рэцэнзіі на іх кнігу ці твор — і пяюць яны салаўямі, дзякуючы крытыку за "справядлівасць", залічваюць яго ў свае вечныя сябры, упадаюць у нірвану эйфарыі і замілавання сваёй значнасцю. А дадуць ім крыху перцу нюхнуць у выглядзе адмоўнай рэцэнзіі на іх тварэнне — дык ашчэрваюцца не па-дзіцячы, і бэсцяць, і праклінаюць рэзкага крытыка. Усё гэта вельмі празрыста і забаўна староннямy назіральніку.

Неяк Сяргей Грышкевіч асмеліўся пакрытыкаваць аповесць паспяховага (мяркуючы па колькасці публікацый) празаіка N. ды — што зусім ужо кепска — узяў ды надрукаваў гэты артыкул у "ЛіМе"! Чым прывёў шаноўнага празаіка ў стан афектацыі. З таго часу Грышкевіч — самы нялюбы літаратар для спадара N. з усіх беларускіх. Пра яго ён не ўпускае ніводнага шанцу выказацца ў Інтэрнеце, зразумела, у адмоўным ключы. Нараканў N. і мне на гэтага "страшнага" чалавека і на яго жахлівы артыкул. Я той артыкул прачытаў, і мне ён прынамсі не здаўся разносным, а даволі карэктным і ў нечым справядлівым. Пра што я і давёў празаіку. Але, вядома ж, не пераканаў. Бо каму, як не нам самім, ведаць, чаго мы насамрэч вартыя? І паспрабуй нехта ўсумніцца ў нашай літаратурнай бязгрэшнасці!

Потым сталі з'яўляцца іншыя водгукі на творчасць гэтага пісьменніка, дзе разам са станоўчымі момантамі прысутнічала і крытыка творчай манеры пісьменніка. N. палічыў гэта ледзьве не наўмысным цкаваннем, замяшаным на зайздрасці да яго поспеху і — падкопамі, каб кніга яго аповесцей не пабачыла свет. Усе літаральна паўсталі супраць пісьменніка!

Ведаючы, што ў "ЛіМе" чакаецца шырокі крытычны разгляд яго твора (рубрыка "Абмеркаванне"), я, для таго, каб праверыць сваю аб'ектыўнасць, напісаў і змясціў на сваім ЖЖ разгорнутую рэцэнзію на гэтую аповесць. Праз тыдзень выйшла "Абмеркаванне", і я з усцехаю зазначыў, што абсалютная большасць маіх крытычных заўваг да N. супала з заўвагамі чатырох розных крытыкаў. А галоўнае — крытыкі пагадзіліся і з ранейшымі заўвагамі "страшнага" Грышкевіча! Пра што я і паведаміў спадару N., калі падчас чарговай нашай з ім спрэчкі адстойваў сваю крытычную аб'ектыўнасць. За адсутнасцю аргументаў у сваю абарону пісьменнік тады прамаўчаў. Але маўчанне, спадары, далёка не знак згоды, калі справа тычыцца беларускіх пісьменнікаў! Таму што большасць літаратараў чамусьці апрыёры лічыць сябе ідэалам і ставіць сябе ў самы цэнтр светабудовы. І тым не менш для іх важна не ісціна, а яе сурагат у выглядзе ацэнак іх творчасці соцыумам праз артыкулы крытыкаў. Соцыум для іх не раўнуючы Гасподзь Бог. Што з'яўляецца недаравальнай памылкаю, якая надалей вядзе да невыносных творчых пакутаў і псіхалагічных комплексаў.

Пры канцы адно пытанне да ўсіх. Скажыце, навошта літаратару, упэўненаму ў сваёй значнасці (не маю на ўвазе канкрэтна N.), так нервавацца ад ацэнак крытыкаў — звычайных зямных і грэшных людзей, якія ні ў якім разе не валодаюць абсалютнай ісцінай? Ці варта так глядзець у рот крытыкам, калі ты творыш і жывеш на зямлі зусім не для іх, не для таго, каб яны цябе пахвалілі ці зганілі? А калі няма ўнутранага пачуцця мастацкай ісціны — то ці варта займацца літаратурай? Як можа пісьменнік тварыць, калі ён пастаянна азіраецца і прыслухоўваецца да таго, што пра яго хто сказаў? Ды мала хто там што напісаў!

Таму і застануцца ў літаратуры — у сэрцах чытачоў, а не ў літаратуразнаўчых рэестрах — толькі адзінкі імёнаў, якія тварылі дзеля мастацтва, якія служылі Слову, а не спадарам крытыкам, якія не ганяліся за станоўчымі рэцэнзіямі ды прэміямі, за ўсімі гэтымі атрыбутамі зямнога, часовага, што толькі ўздымае па сацыяльных прыступках, але — не па рэальных прыступках Мастацтва. Багдановіч, Караткевіч, Разанаў, Гадулька і яшчэ зусім няшмат... Так думаецца.



## Ірына ВОЙТКА

***

Шукаю слова,
цяжка так знайсці.
Куды яшчэ мне
па яго пайсці?..
Яно маё, яно тут
побач ёсць.
Яго лаўлю
і думкай, і паглядам.
Яно як той
доўгачаканы госць,
якому, нібы сыну свайму,
рада.

***

Прад вечнасцю і сутнасцю быцця
спыні свой бег, імклівае імгненне.
Дай твой знайсці пачатак і працяг,
дай мне тваё адолець прыцягненне.

І покуль не заспела мітусня,
сагрэй душу мне святам нараджэння.
Дай зразумець, дзе праўда, дзе хлусня
і дзе маё пад небам прызначэнне.

Тваю з жыццём гармонію зліцця
хачу адчуць праз сэрца узрушэнне.
Прад вечнасцю і сутнасцю быцця
спыні свой бег, імклівае імгненне.

***

І кожны — мураш,
бо на месцы сваім будуе.
І кожны — пчала,
бо збірае нектар для іншых.
І толькі паэт —
і мураш, і пчала адначасна,
бо на месцы сваім будуе
і збірае нектар для іншых.

***

інаку Мікалаю
(адказ на прывітанне)

— Чым мацуешся, рыфмарка? —
Так спытаў мяне рыфмар.
— Я вясной жыву ўладаркай,
да яе прыпала чар.
Ну, а ты, сівы мой дружа,
бачу, ў старасці не тужыш
і мацуешся у слове,
што з святых пайшло крыніц.
Я па-добраму зайздрошчу
манастырскай тваёй келлі,
бо святла там значна болей,
чым ва ўсіх маіх святліц.

***

Т.І.Белуш

Я цябе пусціла у душу,
дзе між слоў хавае крылы вецер.
На крыжы, дзе каюся й грашу
у зялёным захмялелым леце.
Дзе чакаю звонкую вясну,
узняла каб зноў мяне з калень,
дзе няма ні болю і ні сну
і гарыць адвечны мой агмень.
Дзе Пегас нагою росы б'е,
дзе ў дарозе выспявае лета,
дзе ваду з крыніцы месяц п'е
і ляціць зялёная планета.
Я цябе пусціла у душу,
каб і ты сказала сваё слова:
я чаму і каюся, й грашу,
і гатова ўсё зрабіць нанова?..

### У бараве

Якая цішыня,
якая прыгажосць…
У гэтай цішыні
я сёння слынны госць.
Між ліпамі хаджу,
ля плоту рву рабіну.
Я гэту прыгажосць
з сумотаю пакіну.
За полем дрэмле лес,
даруе лісце долу.
Я буду помніць край
гасцінны і вясёлы.
Зямля маіх бацькоў,
пад сонца яркай кветкай,
о, колькі ж у цябе
яшчэ куточкаў гэткіх!?.

***

О, гэты белы снег —
дзятвы вясёлай песня,
празрысты лёгкі баль
пушыстых чараўніц.
То плаўна пойдзе ўніз,
то косіць, а то крэсліць ,
або крыху пакружыць
і ляжа долу ніц.
О, гэты белы снег —
дзявочы вэлюм мілы,
з табою мне кружыць
да сіняе зары.
Тваю мне песню пець,
ляцець на тваіх крылах,
табою узрушацца,
з табою гаварыць.
Ляці, ляці, мой снег,
узрадуй маё поле.
Кладзіся долу плаўна,
і крэслі, і круці…
А я адчай забуду,
а я не дамся болю,
душою пасвятлею…
Ляці, мой снег, ляці!

***

А на плошчы Сапегі — дождж.
А на плошчы Сапегі — слота.
Ад Ружанскай да цэнтра мяне
атуляе адна адзінота.
Не згубіць мне на вулках яе,
не пакінуць у цеснай краме.
Адзіноце мяне нестае,
за маімі стаіць плячамі.

***

з нагоды адыходу

Дзе далёкі ў полі вецер —
там мая душа гуляе.
Дзе у цёмным небе зоры —
сэрца там маё сумуе.
Можа, Бог мяне прыкмеціць —
я зраблюся птушкай белай,
я сасной высокай стану.
Можа, Бог мяне пачуе.
А ад болю і да болю
б'е халодная крыніца
маёй роспачы і жалю,
майго суму над зямлёю.
Трэба мне нагбом напіцца,
трэба мне з яе памыцца,
каб ніколі не забыцца,
што з'ядняла нас з табою.
Дзе далёкі ў полі вецер —
там мая душа гуляе.
Дзе у цёмным небе зоры —
сэрца там маё сумуе.

***

Аклікаецца поле і лес адзінотаю.
Загучыць праз гады паланэз
дзіўнай нотаю.
Клікне горычу адбалелае.
А нязбыўнае стогне нясмелае.
Дыяментамі неба дзіўнага —
аклікаецца незабыўнае.

***

Еду ў Мінск
не па набыткі,
не ў рэдакцыі, выдавецтвы,
не да ўрачоў.
Больш за дваццаць гадоў
шукаю цябе
на вуліцах,
у метро,
у машынах.
Маладога.
…Бо іншага не пазнаю.

### Восеньскі верш

Апошнія кветкі. Зямля і надзея.
Зямля і надзея. Паэма і лёс.
Святло у цямрэчы. І цені на плечы.
І сонца, як дзіва, аслепіць да слёз.
Іду да світання, дзе неба і доля.
Мой крыжам, бы знічам,
пазначаны шлях.
Дарога не зманіць,
дарога спатоліць,
і стане, як дзіва,
святло у вачах.

***

Я хацела шукаць словы —
а яны ўпалі ў мокрую траву
жоўтым лісцем
і зіхцелі лупатымі
кветкамі восені.
Я хацела знайсці іх у полі,
а яны ў рукі зляцелі сініцай
і глядзелі ў твар нябёсамі.
Бо словы тыя табе, Госпадзе.

***

Вечнасць жыве на свечы –
існа ёсць такая.
Вечнасць, бы вольны вецер,
лёгкім крылом махае.
Вечнасць у хаце, і ў маці,
і у расе, і ў касе.
Вечнае – у дзіцяці,
Вечнае – у красе.
Вечнасць бязмежжам ходзіць
спрадвеку ад краю ў край.
Вечнасць цябе знаходзіць,
ты на яе зважай.

***

Пачула зноў:
"Паэт памёр".
Калі ж пачую:
"Нарадзіўся!"?



Фота Віктара Кавалёва



## Марыя ПАЎЛОЎСКАЯ

### Дэбют

Студэнтка філалагічнага факультэта БДУ. Сябра літаратурна-музычнай гасцёўні "Натхненне" студгарадка БДУ. Друкавалася ў часопісе "Маладосць". У штотыднёвіку "ЛіМ" – упершыню.

### Прыгожая

ператваруся ў галактыку
каб стаць
цішынёю
з нічога
каб знікнуць
каб за мной назіралі
з зямлі
і казалі
"прыгожая"

### Сланечнікі

я памятаю
як сланечнікі
мне ў дарунак слалі багі
іх тапталі босыя ногі
тады ўпіваліся стрэмкі
балюча

я памятаю
як гумовыя боты
мне на ногі нацягвала мама
і я бегла ў поле
каб таптацца
па сланечніках

я памятаю
як мяне хавалі
ад пераследаў зладзеяў
мае усё такія ж жоўтыя
усёдаравальныя
сланечнікі

### Без усяго

і прайшло Ўчора
і настала Сёння
але нічога не змянілася
акрамя
некалькіх
літараў
і яшчэ пульс
стаў чамусьці нямым
а канцэпцыя "звыш"
стала "пад"
і прайшло Сёння
і настала Заўтра
але нічога зноў
не змянілася

### Паэт

Вочы – суклон.
Сэрца – ўзыход,
так і жыву паміж дзвюма сонцамі.
Якое даражэй?
А вы спытайце ў маці пра ўлюбёнага сына…
А. Сыс

Я пракляты. Я пракляты душою
засмучанай.
Быццам келіх, поўна яна…
Не віном,
А вадою атручанай…
І ваду раз'ядае зямля
з рук матулі.
А рукі шаўковыя
Абдзіралі траву і быллё
ля душы маёй жорсткай і змучанай,
налівалі у келіх віно.
Мае вершы, як дзеці,
спявалі мне.
Я й цяпер чую іх галасы.
І касою, касою кляпанаю
пазразаю свае каласы.
Я пракляты?
Я пракляты душою акрыленай.
Храмам немачы поўна яна.
А ваду, што атручана – вып'ю!
Як кагору з гарла…

№ 32 13 жніўня 2010 г. ЛіМ

# На радзівілаўскіх падмостках

Улетку строгая акадэмічная музыка нярэдка пакідае замкнёную прастору залаў і выходзіць на адкрытае паветра. Не толькі гала-канцэрты — нават оперныя ды балетныя спектаклі ладзяцца ў натурных дэкарацыях: на ўтульных сярэднявечных плошчах старажытных гарадкоў, пад шатамі курортных паркаў, на фоне маляўнічых антычных руін... Гэтую даўнюю прыгожую традыцыю падтрымліваюць на міжнародных музычных фестывалях у Германіі, Іспаніі, Аўстрыі, Італіі ды іншых краінах. Мы таксама ўспамінаем апошнім часам пра еўрапейскія карані сваёй музычнай культуры. Прынамсі, арганічна ўвайшлі ў канцэртнае жыццё, прыцягнуўшы ўвагу шматлікай публікі, "пленэрныя" праекты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Так што цяпер лепшыя старонкі класікі ў выкананні сімфанічнага аркестра, салістаў і хору ажываюць на вольным паветры ля сцен Сафійскага сабора ў Полацку, побач з Мірскім замкам, на пляцоўцы ля фантана, што насупраць галоўнага ўваходу ў тэатр. А не так даўно ў Нясвіжы дэбютаваў новы праект — "Вечары беларускай оперы і балета ў замку Радзівілаў".





Праграму першай супольнай творчай акцыі НАВТ оперы і балета Беларусі ды Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" распачаў паказ оперы Я. Голанда "Чужое багацце нікому не служыць" (нагадаю, што група стваральнікаў і ўдзельнікаў гэтага арыгінальнага, каларытнага, беларускага па духу двухактовага спектакля, пра які мы ўжо неаднойчы пісалі, адзначана спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Беларусі за 2009 год). Знамянальны факт: другое нараджэнне гэтага камедыйнага музычнага твора адбылося роўна праз 225 гадоў з часу яго нясвіжскай прэм'еры і, можна сказаць, на сімвалічным падмурку таго прыдворнага тэатра, для якога калісьці і быў напісаны. Працэс рэканструкцыі радзівілаўскага замка не перашкодзіў абсталяваць у яго ўнутраным дворыку падмосткі для летняй сцэны і глядацкія месцы на 500-700 чалавек. Опера прайшла ва ўрачыстай абстаноўцы прэм'ернага аншлагу; авацыяй вітала публіка выканаўцаў галоўных партый Ганну Гур'еву (Кася), Міхаіла Пузанава (Янак), Сяргея Лазарэвіча (Чужапанак), дырыжора аркестра Вячаслава Воліча.

Назаўтра ў Нясвіжскай ратушы гучалі "Мелодыі кахання" — дзённы суботні канцэрт з удзелам струннага квінтэта "Серэнада" і вядучых оперных салістаў Таццяны Траццяк ды Станіслава Трыфанава. А ў замкавым дворыку, на радзівілаўскіх падмостках, разгарнулася шыкоўная вечаровая імпрэза. Спачатку — прэм'ера балета "Шапэніяна" (салісты Ірына ды Алег Яромкіны, Людміла Кудраўцава, Надзея Філіпава, Наталля Рабцава, Людміла Хітрова, дырыжор Алег Лясун). Затым — гала-канцэрт "Шэдэўры сусветнай оперы ў замку Радзівілаў". Еўрапейская і нацыянальная беларуская класіка прагучала ў выкананні майстроў і маладых зорак нашай опернай сцэны: Наталлі Акінінай, Андрэя Валенція, Аксаны Волкавай, Кацярыны Галаўлёвай, Юрыя Гарадзецкага, Настассі Масквіной, Ільі Сільчукова, Станіслава Трыфанава, Сяргея Франкоўскага, Ніны Шарубінай, Алены Шведавай. За пультам сімфанічнага аркестра тэатра выступіў маэстра Вячаслаў Воліч.

Візіт артыстаў вялікага акадэмічнага калектыву "да Радзівілаў" прайшоў надзвычай паспяхова. Задаволеныя арганізатары і кіраўнікі новага праекта, чые меркаванні занатавалі і прапанавалі для друку супрацоўнікі інфармацыйнай службы тэатра.

Віктар СКОРАБАГАТАЎ, заслужаны артыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:

— Свята, якое ў далейшым стане беларускім фестывалем опернага і балетнага мастацтва, ладзіцца менавіта ў Нясвіжы таму, што беларуская оперная культура нарадзілася тут — у сценах Нясвіжскага замка. У XVIII стагоддзі пры Міхале Казіміры Радзівіле (Рыбаньку), які быў вытанчаны прыхільнік розных мастацтваў, у замку існавалі шыкоўная калекцыя жывапісу, бібліятэка, архіў і драматычны тэатр. Пры тэатры паступова склалася балетная трупа, з'явіўся аркестр. Першы оперны тэатр Міхал Казімір заснаваў у 1730 годзе для любай жонкі — Францішкі Уршулі. Яна, вельмі адукаваная кабета, сама напісала першыя оперныя лібрэта для свайго тэатра. З таго часу існуе беларускі оперны жанр, тут нарадзілася беларуская сімфанічная ды балетная культура. Опера "Чужое багацце нікому не служыць" створаная

ў гэтых сценах 225 гадоў таму Янам Давідам Голандам — прыдворным капельмайстрам Караля Радзівіла, сына Рыбанькі ды Уршулі.

Біяграфія Фрыдэрыка Шапэна, 200-годдзе якога адзначаецца сёлета і балет на музыку якога ўпрыгожыў праграму "Вечароў...", таксама неяк звязана з Нясвіжам. Да эміграцыі ў Парыж Шапэн сябраваў з дванаццатым ардынатам Нясвіжа Антоніем Генрыкам Радзівілам. У Парыжы кампазітара падтрымліваў, уводзіў у кола інтэлектуалаў і арыстакратыі родны брат Антонія — Валенцій Радзівіл.

Валерый ГЕДРОЙЦ, намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі:

— Падчас гастрольных або фестывальных вандровак мы заўважылі, што многія еўрапейскія фэсты адбываюцца ў старадаўніх замках, часта пад адкрытым небам; на такія святы збіраецца шмат людзей, гэта вельмі цікава і прыгожа. Сёлета мы зладкавалі "Вечары беларускай оперы і балета ў замку Радзівілаў", з наступнага года плануем нацыянальны беларускі фестываль, дзе мяркуецца штогод прадстаўляць лепшыя творы, якія з'явіліся ў Беларусі ў розны час. Выконваць іх будуць беларускія артысты, што працуюць тут, на радзіме, і знакамітыя спевакі-беларусы, чые таленты ззяюць сёння на сцэнах тэатраў усяго свету — з некаторымі з іх мы папярэдне ўжо кантактавалі, яны любяць Нясвіж і гатовыя тут выступіць. У праграме наступнага года мы мяркуем прадставіць вядомую оперу "Дзікае паляванне караля Стаха" Уладзіміра Солтана, гала-канцэрты і балетны спектакль "Трыстан ды Ізольда", прэм'ера якога плануецца ў новым сезоне.

Валерый СТАЛЯРЧУК, дырэктар Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж":

— Несвіжане і супрацоўнікі музея захоплена ўспрынялі ідэю фестывалю. Нясвіж, яго старажытная архітэктура, гістарычныя помнікі, прырода з'яўляюцца той прыцягальнай сілай для людзей мастацтва, што натхняе на феерычныя творчыя праекты. "Вечары беларускай оперы і балета ў замку Радзівілаў"— адзін з такіх праектаў. Тут, у замку, адраджаюцца не толькі матэрыяльныя, але і духоўныя, культурныя каштоўнасці. Нясвіжскі замак-музей праектуецца як шматфункцыянальны культурны цэнтр. Апроч музейнай экспазіцыі, у памяшканні, дзе знаходзіўся радзівілаўскі тэатр, будзе тэатральная зала на 100 месцаў. У замку аднаўляецца капліца — яна трох'ярусная, на адным з ярусаў плануецца размясціць арган, і там таксама можна будзе ладзіць канцэрты, як і ў ратушы, дзе, дарэчы, з часам з'явіцца батлейка.



Вячаслаў ВОЛІЧ, дырыжор:

— Мы ўжо досыць даўно ладзім такія дэмакратычныя паказы канцэртаў і оперных фрагментаў у Мірскім замку, а таксама ў Полацку. Але ў Нясвіжы абсалютна унікальныя ўмовы. Знамянальна, што новае кіраўніцтва тэатра падтрымала ідэю "Вечароў..." і дало магчымасць для правядзення такога свята. Планы ў нас вельмі вялікія, бо захапляе ідэя летняга опернага сезона ў Нясвіжы. З мая па верасень тут могуць адбывацца спектаклі ды канцэрты. Адна з задач такіх праектаў — звярнуцца да нашых вытокаў, каранёў, аддаць даніну павагі ды выказаць удзячнасць тым, хто стварыў беларускае музычнае мастацтва.

Лана ІВАНОВА

На здымках: салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Ганна Гур'ева і Міхаіл Пузанаў у ролях Касі ды Янака — галоўных герояў спектакля "Чужое багацце нікому не служыць"; падчас гала-канцэрта; "зала" ва ўнутраным дворыку замка.

Фота Віктара Кавалёва і з інтэрнэт-сайта тэатра










# Захопленыя музыкай

Штогод на факультэце музычнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў бывае гарачая часіна справаздачных канцэртаў. Кожная кафедра рыхтуе разнастайныя праграмы, якія гучаць у розных канцэртных залах сталіцы, бо сваёй залы універсітэт, на жаль, пакуль не мае (але яна будуецца). Такія справаздачы падсумоўваюць вынікі навучальнага года, паказваюць дасягненні творчых калектываў, выкладчыкаў і студэнтаў факультэта. Для кафедры народна-інструментальнай творчасці сёлетні справаздачны канцэрт быў асаблівы, бо азнаменаваў 35-годдзе яе дзейнасці.



Адна са старэйшых кафедраў БДУКіМ, яна рыхтуе сёння спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі ў сферы беларускай народнай інструментальнай музычнай культуры: кіраўнікоў аркестраў (ансамбляў), выкладчыкаў спецыяльных дысцыплін (баян, акардэон, домра, балалайка, цымбалы, гітара, скрыпка). А пачыналася ўсё з 1975 года, калі быў створаны Мінскі інстытут культуры. У той час гэта была кафедра аркестравага дырыжыравання, якую ўзначаліў заслужаны дзеяч культуры Украіны Аляксандр Нікалаеў. За гады станаўлення і фарміравання кафедры адбыўся шэраг перамен, звязаных з падрыхтоўкай спецыялістаў у адпаведнасці з патрабаваннямі часу, удасканаленнем навучальнага працэсу, актывізацыяй навукова-даследчай і творчай дзейнасці.

У 1993 годзе ў выніку маштабай структурнай рэарганізацыі і перайменавання інстытута (сёння — Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў), змяніла назву і наша кафедра, стаўшы кафедрай народна-інструментальнай творчасці. У розны час яе ўзначальвалі такія аўтарытэтныя музыканты, як А. Аўсіевіч, Г. Мішуроў, а таксама М. Кузьмініч, Н. Яканюк. Цяпер кафедрай загадвае Вольга Мазанік — кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт. За апошнія гады тут значна палепшылася матэрыяльная база, набыты новыя інструменты, неабходная спецыяльная і апаратура. Пашырылася сфера супрацоўніцтва кафедраў нашай ВНУ з сумежнымі навучальнымі ўстановамі: Беларускай дзяржаўнай акадэміяй музыкі, БДПУ імя М. Танка ды інш. Наладжаныя творчыя сувязі з грамадскімі арганізацыямі краіны: саюзам кампазітараў, саюзам музычных дзеячаў, Асацыяцыяй беларускіх дамрыстаў і мандаліністаў, Асацыяцыяй беларускіх цымбалістаў.

Сярод выпускнікоў кафедры нямала вядомых музыкантаў, педагогаў, мастацтвазнаўцаў: А. Крамко, В. Юшкевіч, М. Кузьмініч, Н. Міцуль, І. Малахава, А. Занько, шэраг лаўрэатаў конкурсаў рознага ўзроўню. Асобна можна распавядаць пра навуковыя здабыткі калектыву кафедры, падрыхтоўку і абарону дысертацый, выданне манаграфій, рэпертуарных зборнікаў, хрэстаматый.

Словам, — гэта сапраўдная творчая майстэрня па падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў у сферы народна-інструментальнага мастацтва. Тут вучацца стыпендыянты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, пераможцы рэспубліканскіх, міжнародных конкурсаў і фестываляў. Самабытныя студэнцкія мастацкія калектывы ўдзельнічаюць у рэспубліканскіх і агульнауніверсітэцкіх мерапрыемствах, выступаюць перад аўдыторыяй мінскіх прадпрыемстваў, арганізацый і навучальных устаноў культуры, даюць канцэрты па Беларусі, у замежжы.

Сёлетнім канцэртам лепшых мастацкіх калектываў, які адбыўся ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі, кафедра адзначыла сваё 35-годдзе. Самым значным складнікам праграмы былі, зразумела, два аркестры. Аркестр рускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам С. Авадка распачаў канцэрт выкананнем фрагмента з сюіты з оперы "Млада" М. Рымскага-Корсакава, вальса з оперы "Дзікае паляванне караля Стаха" У. Солтана і "Лезгінкі" А. Бабаева, паказаўшы высокую "планку" ўсёй імпрэзы. Аркестр беларускіх народных інструментаў (мастацкі кіраўнік В. Валатковіч), лаўрэат Гранд-прэміі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, годна завяршыў музычны вечар паланезам С. Манюшкі, самбай "Ціка-ціка" А. Абрэу і п'есай "Багатырская брама" М. Мусаргскага. Абодва аркестры гралі свае праграмы на памяць, што надавала іх выступленням асаблівы шык.



Удзельнічалі ў канцэрце і маладыя перспектыўныя калектывы, такія, напрыклад, як інструментальны ансамбль "Караван" пад кіраўніцтвам В. Мазанік, інструментальны квартэт пад кіраўніцтвам А. Шульгоўскай. Парадаваў вынік міжкафедральнага супрацоўніцтва творчых калектываў у межах факультэта: знаны вакальны фальклорны ансамбль "Грамніцы" (мастацкі кіраўнік У. Зяневіч) ды інструментальны ансамбль "Адлюстраванне" пад кіраўніцтвам Н. Смольскай выступілі разам, выканаўшы беларускую народную песню "Як пайду я ў белую канюшню".

Шматлікія ансамблі, створаныя пад кіраўніцтвам маладой выкладчыцы В. Старыкавай за час працы у БДУКіМ, адрозніваюцца арыгінальнасцю рэпертуару і прафесіяналізмам. Гэтым разам выступіў падрыхтаваны ёю выкладчыцка-студэнцкі калектыў, які стаў лаўрэатам міжнароднага конкурсу ў Італіі і лаўрэатам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Выдатным выкананнем папуры "Італія" В. Сёміна і "Лібер-танга" А. П'яцолы музыканты пацвердзілі свой высокі статус.

Дарэчы, для творчай ВНУ заканамерна, калі на сцэну разам выходзяць выкладчыкі і студэнты. І дэманструюць выдатныя сумесны мастацкі вынік. Прыкладам — дуэт у складзе заслужанага артыстыста Беларусі, баяніста У. Ткача і студэнта 5 курса, акардэаніста В. Цевасяна (бліскуча ажыццёўлены праект на аснове камп'ютэрнай аранжыроўкі "Лезгінкі" З. Паліяшвілі). Ці заліхвацкае выступленне "ветэрана" кафедры — вядомага фальклорнага гурта "Баламуты" пад кіраўніцтвам колішняга выпускніка універсітэта К. Трамбіцкага, які сам выконваў сола на дудцы.

Такі адказны канцэрт проста не мог адбыцца без славутага ансамбля "Туцці" пад кіраўніцтвам Л. Сухаваравай. Толькі ўявіце сабе: пяць маладых, прыгожых дзяўчат з акардэонамі, у вечаровых блакітных сукенках іграюць (стоячы!) цудоўную музыку, і ў ансамблі з імі два хлопцы: ударнік ды басіст!

Уражвала ў канцэрце не толькі музыка, але і тое, як смела выходзяць на сцэну студэнты, як яны артыстычна трымаюцца, выконваючы разнастайныя і складаныя творы... Між іншым, у філарманічнай зале прысутнічалі запрошаныя на гэтае свята выпускнікі кафедры розных гадоў. Яны з'ехаліся з усіх куткоў нашай краіны, а некаторыя прыбылі нават з Украіны і Расіі. Так што падзея атрымалася знамянальная не толькі для яе непасрэдных удзельнікаў, але і для многіх, многіх рупліўцаў на ніве народнага інструментальнага мастацтва.

Ларыса ТАІРАВА,
дацэнт кафедры народна-інструментальнай творчасці БДУКіМ, кандыдат мастацтвазнаўства

На здымках: эпізоды канцэртнай праграмы.
Фота Паўла Сапоцькі

# Адчуваць свет, а не фарбы



"Паэзія ў штодзённасці" — такую назву мае персанальная рэтраспектыўная выстаўка жывапісу знакамітага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Барыса Казакова (1937—2008), што адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі нашай краіны. Барыс Іванавіч нарадзіўся ў Расіі. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні тэатральнай дэкарацыі. Пасля заканчэння атрымаў накіраванне ў мінскі Тэатр юнага гледача. Працаваў з выбітным рэжысёрам У. Маланкіным. У 1964—1968 гадах аформіў чатырнаццаць спектакляў у Тэатры юнага гледача і чатыры ў тэатрах Магілёва і Гомеля.



На адкрыцці сваімі ўспамінамі і адзнакай творчасці Барыса Казакова дзяліліся з прысутнымі яго калегі і сябры: Георгій Скрыпнічэнка, народны мастак Беларусі Уладзімір Тоўсцік, Аляксандр Зіменка, Уладзімір Кожух, Барыс Аракчэеў, Уладзімір Ткачоў...

Выступоўцы адзначалі, што Барыс Іванавіч — асоба неардынарная, цікавы суразмоўца — зрабіў вельмі шмат для беларускага мастацтва. Хоць ён вучыўся на аддзяленні тэатральнай дэкарацыі, але галоўнае — вынік, яго палотны. Ён падыходзіў да карціны, як да спектакля, дзеі. Нестандартна мысліў і выбіраў акцэнты, бачыў прыгажосць у багацці прыроды, простым мурашніку ў лесе, ва ўсім, што яго атуляла. Барыс Казакоў меў своеасаблівую тэхніку: вельмі патрабавальную, да міліметра пранікаў у тое, што рабіў, любаваўся фактурай, гамай, рытмам, строем. Ён выдатна ведаў кампазіцыю, валодаў адметным пісьмом, глыбокім веданнем натуры, адчуваннем танальнасці і колеравай гамы.



У экспазіцыі прадстаўленыя яго адметныя, нібы фатаграфічныя, работы адлюстроўваюць глыбокі роздум: "Барвовае золата восені. Першы снег", "Белая Русь. Прысвячаю сыну майму Івану", "Дарункі зямныя", "Сакавік. Месяцовая ноч", "Даліна вятроў. Іван", "Карміцелька", "Віно і рыбы", "Восень у садах вёскі, якая знікла", "Прысвячэнне маці", "Жнівень. Вяртанне дадому", "Партрэт рэжысёра У. Маланкіна", "Аўтапартрэт"...

Калі беларускі жывапіс параўнаць з птушкай, то на левым крыле будзе Цвірка, Шчамялёў, калі ўзяць правае — Тоўсцік, Селяшчук, Альшэўскі, а само цела — гэта Барыс Казакоў. Бо ён цэнтрыст, і нягледзячы на каласальную ўнутраную энергетыку, быў скрупулёзным: не мог дазволіць сабе дрэнны падрамнік, палатно... Барыс Іванавіч часта казаў: "Палатно трэба так загрунтаваць, каб потым з ім не змагацца". Для яго тэхналогія жывапісу была святой. Ён шмат разважаў пра сваё будучае месца ў мастацтве, параўноўваў сябе з іншымі мастакамі. А ў сваіх разважаннях пра прафесію Барыс Казакоў сцвярджаў наступнае: "Для мяне жывапіс — гэта як пры дапамозе колеру зрабіць так, каб яго не было бачна, каб адчувалася сама матэрыя свету, а не фарбы"; "Трэба быць вельмі легкадумным, каб у жывапісе бачыць толькі колер"; "Добрая карціна — як горад, які нельга пабудаваць разам, але чым далей і ўважлівей яна ствараецца, тым яна змястоўней"...

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: работы Барыса Казакова — "Даліна вятроў. Іван", "Барвовае золата восені. Першы снег", "Карміцелька".

Фота аўтара

# “Каралева жывога слова і пакутлівай праўды”



## Творчасць Элізы Ажэшкі

Стагоддзе таму, 18 мая 1910 года, памерла слынная польская пісьменніца Эліза Ажэшка (Orzeszkowa). Яна нарадзілася 6 чэрвеня 1841 года на беларускай зямлі, у былым маёнтку Мількаўшчына, што знаходзіўся непадалёк ад Гродна, у сям’і “вальнадумца і вальтэр’янца” Бенядзікта Паўлоўскага. У Гродне (куды яна перабралася на сталае жыхарства ў 1869 годзе) і яго ваколіцах прайшла большая частка жыцця Ажэшкі. Заканамерна, што ў яе творах шматстайна прысутнічае Беларусь.

“Зоркай першай велічыні” на гарызонце польскай літаратуры памежжа XIX—XX стагоддзяў назваў Элізу Ажэшку ўкраінскі пісьменнік Іван Франко. Яна пакінула пасля сябе 60 тамоў мастацкай прозы, крытыкі і публіцыстыкі. Усе найважнейшыя праблемы грамадскага жыцця — цяжкае становішча сялянства, эканамічная і маральная дэградацыя шляхты, жаночае пытанне, нацыянальна-вызваленчая барацьба — знайшлі ўвасабленне ў яе кнігах. Істотны ўплыў на светапогляд пісьменніцы аказала паўстанне 1863—1864 гадоў, да якога яна мела непасрэднае дачыненне як сувязная партызанскага атрада Рамуальда Траўгута, што дзейнічаў на Палессі. Пасля трагічнага зыходу паўстання Ажэшка, рызыкуючы жыццём, пераправіла Траўгута да мяжы Каралеўства Польскага.

Польская пісьменніца Марыя Дамброўская ў артыкуле “Эліза Ажэшка”, напісаным з нагоды адкрыцця ў 1929 года ў Гродне помніка Ажэшцы, аднесла апошнюю да шукальнікаў “новага, не звязанага з уласніцкімі інстынктамі светаўспрымання”, да “духоўных праваднікоў польскага грамадства”, якімі яны “заставаліся… да адраджэння незалежнай Польшчы”. Многіх, у тым ліку Ажэшку, духоўныя пошукі прывялі да гэтак званага “варшаўскага пазітывізму”, асноўнымі дагматамі праграмы якога былі “работа каля асноў” і “арганічная праца на карысць нацыі”; меліся на ўвазе еднасць розных сацыяльных слаёў дзеля ўзвышэння Польшчы, навукова-асветніцкая дзейнасць сярод працоўных і нават, у выпадку неабходнасці, адрачэнне ад асабістага шчасця. Нядзіўна, што Ажэшка катэгарычна не прыняла ад’езду з Польшчы Юзэфа Конрада Кажэнёўскага — будучага англійскага неарамантыка Джозэфа Конрада, бо лічыла, што ён павінен быў ахвяраваць уласнымі памкненнямі і падзяліць трагічны лёс свайго народа.

Жыццё наднёманскага краю стала важным фактарам фарміравання Э.Ажэшкі як мастака. У яе творы арганічна ўвайшлі беларускія народныя песні, паданні, абрады (беларускаму фальклору яна прысвяціла адмысловы цыкл нарысаў “Людзі і кветкі на берагах Нёмана”, 1888—1893). Веданне этнаграфічных асаблівасцей і нацыянальнага характару, мовы і побыту беларусаў дазволіла пісьменніцы стварыць іх яркія, запамінальныя вобразы, праўдзіва паказаць умовы жыцця беларускага народа. Невыпадкова І.Франко пісаў пра неабходнасць перакладу на ўкраінскую мову “асабліва такіх дасканалых… твораў, як… аповесці з жыцця беларускага народа” Э.Ажэшкі.

Літаратурную дзейнасць Э. Ажэшка пачала з апавядання “У галодныя гады” (1866), аднак хутка стала працаваць у жанры рамана. У артыкуле “Некалькі заўваг аб рамане” (1866) яна гаворыць пра такую яго асноўную і абавязковую якасць, як тэндэнцыйнасць: галоўнае ў рамане — публіцыстычная ідэя, якая павінна сцвярджацца не столькі праз мастацкую структуру, сюжэт і характары, колькі праз спецыяльныя аўтарскія адступленні, праз выказванні герояў-“рэзанёраў”. Некаторым даследчыкам гэта давала падставы аднасіць шэраг яе ранніх твораў не да мастацкай прозы, а да мастацкай публіцыстыкі, якая, тым не менш, не пакідала чытача абыякавым. Э. Ажэшка была перакананая: “Як люстэрка, што цьмяна ці крыва адлюстроўвае прадметы, мусіць быць разбіта, так і раман, у якім грамадства не пазнае сябе, спасцігне хуткае забыццё”.

З цягам часу, аднак, дыдактычнасць і схематызм знікалі, узмацнялася псіхалагічная выразнасць персанажаў, хаця і надалей нават самыя значныя творы Ажэшкі не будуць вольнымі ад ідэй пазітывізму. Менавіта раманы, у якіх ужо адчувальны адыход аўтара ад канцэпцыі тэндэнцыйнасці, прынеслі ёй шырокую вядомасць: “Марта” (1873), “Пампалінскія” (1876), “Меір Езафовіч” (1878).

Ва ўсёй шматграннасці рэалізм Э.Ажэшкі раскрыўся ў яе “беларускіх” апавяданнях і аповесцях, якім уласцівыя значнасць тэм і глыбокі псіхалагізм.

Адно з самых значных апавяданняў Э.Ажэшкі — “Зімовым вечарам” (1887). Яго сюжэт дастаткова складаны, і іншаму пісьменніку для ўвасаблення спатрэбіліся б, можа, сотні старонак і раманны маштаб. Якраз у той час, як горад і яго ваколіцы ўзрушаны павеламленнем уладаў пра ўцёкі з катаргі небяспечнага злачынцы Бонка, рабаўніка і забойцы, у хаце Сымона Мікулы з’яўляецца незнаёмы падарожны. Калісьці ў сям’і Сымона здарылася вялікая бяда: адбыўшы тэрмін зняволення, вярнуўся дамоў сын Ясь, аднак знявечаны турмой характар і няпростыя адносіны з бацькам змусілі яго пакінуць хату, і з таго часу ніхто пра яго больш не чуў. І вось зімовыя вячоркі сабралі ў хаце Сымона моладзь. Хлопцы, узбуджаныя чуткамі пра бандыта, успрымаюць яго развагі як выклік і на чале з Аляксеем, сынам Сымона, кідаюцца вязаць вечаровага госця, не падазраючы, што перад імі — родны брат Аляксея, той самы злашчасны Ясь-Бонк. І толькі Сымон, чыё бацькоўскае сэрца не перастала балець за сына, здагадаўся, хто гэты чалавек, і загадаў адпусціць яго.

Галоўныя персанажы апавядання — родныя па крыві, але шмат у чым яны розныя. І справа не толькі ў тым, што іх разводзяць абставіны: у той час як беглы катаржнік Ясь-Бонк належыць да “адрынутых”, астатнія члены сям’і застаюцца добрапрыстойнымі і ў вачах грамадства, і ў сваіх уласных. Апавядальнік невыпадкова падкрэслівае, што Аляксей паводзіць сябе “як заўсёды ганарліва” і самаўпэўнена, што Сымонава нявестка Хрысціна ходзіць, “горда ўзняўшы галаву”, што сам Сымон — чалавек паважаны і ўладны.

Што да Яся Мікулы, дык ён з таго асаблівага тыпу людзей, “якія не ў стане змагацца са сваімі схільнасцямі, кідаюцца ў пошуках шляху паміж гэтымі двума светамі, несучы пагібель сабе і іншым”.

Постаць Яся неадназначная; па ўсім бачна, на ім ёсць кроў і ахвяры, але злодзеем ён не нарадзіўся і не выхоўваўся. Вельмі істотна звярнуць увагу на момант, з якога пачалося падзенне. “Можа, ён першы раз і за справядлівасць пакутаваў, — даводзіць Сымон, яшчэ не ведаючы, што перад ім яго сын. — …бывала, і кажа: “Тата, я заб’ю таго, хто несправядліва прыйдзе забіраць нашу зямлю!..” Зямля па справядлівасці наша была, але… суд мы прайгралі… Прыехаў нейкі высокі ўраднік і двух ніжэйшых з сабою прывёз, і давай яны па полі хадзіць… А нашы хлопцы як выскачаць з косамі, з граблямі ды каламі!.. а мой Ясік спераду…Значыцца, бунт… Ну, пасадзілі іх у турму, судзілі іх. Іншых выпусцілі або сяктак пакаралі, а яго на тры гады турмы асудзілі. Зачыншчык, кажуць” (цытуецца ў перакладзе Янкі Брыля). Як бачым, да супрацьстаяння з уладамі Яся прыводзіць нежаданне змірыцца з незаконнасцю іх дзеянняў, абвостранае пачуццё справядлівасці.

Напружанай атмасферы, трагедыйнасці твора адпавядае яго дасканалая паэтыка. Кампазіцыя апавядання ў значнай ступені трымаецца на рэтраспекцыі, на кантрасце паміж “раней” і “цяпер”. Рэальнасць чаргуецца з успамінамі Яся пра мінулае, пра дзяцінства, з устаўнымі гісторыямі, казкамі, песнямі, загадкамі, заклінаннямі; аўтар уводзіць іх у адпаведнасці з удала выбранай сітуацыяй — вячоркамі. Казка пра тое, як два разумныя браты трэцяга, дурня, “узялі і забілі, нож у сэрца ўсадзілі”, выконвае некалькі функцый. Па-першае, разам з іншымі фальклорнымі элементамі стварае народна-паэтычную атмасферу, беларускі нацыянальны каларыт. Па-другое, праз зблізжэнне рэальнай калізіі (два браты на вачах бацькі няволяць трэцяга) а казачны сюжэт выходзіць за межы прыватна-выключнага здарэння і ўзнімаецца да ўзроўню сацыяльна-філасофскага абагульнення. Трагічны казачны сюжэт паўтараецца ў не менш трагічнай рэчаіснасці.

Наданню твору абагульненага сэнсу спрыяе і наяўнасць у ім разнастайных біблейскіх матываў: паводле хрысціянскіх запаведзей ў намагаецца жыць Сымон; у атачэнні дванаццаці чалавек родных аказваецца Ясь у бацькавай хаце — відавочная арыентацыя на дванаццаць апосталаў; як варыяцыя вядомай новазапаветнай сітуацыі ўспрымаецца вячэра Яся-Бонка ў бацькавай хаце; біблейскі сюжэт з вяртаннем блуднага сына нагадваюць паводзіны Яся ў фінале апавядання, калі ён “рынуўся на зямлю і прыпаў вуснамі да вялікай, босай, запыленай Мікулавай нагі”; з Хрыстом асацыіруецца вобраз Яся ў кульмінацыйнай сцэне (“Здавалася, што пакуты ўсяго свету ўвасобіліся ў ім, гэтым убогім гаротніку”)...

Праз біблейскія алюзіі, праз словы самога Яся (“Кожнага чалавека можа бяда напаткаць, і ніводная маці не ведае, каго яна на руках калыша…”) твору надаецца характар прыпавесці, анталагічна-экзістэнцыяльная якасць.

Паказальна, што і ў арыгінале апавяданне месціць у сабе мноства беларускіх слоў і



выслоўяў, па-беларуску пададзены загадкі і большасць песень. Даследчыкі нязменна падкрэсліваюць артыстызм апісанняў Э.Ажэшкі, найперш пейзажных, пазначаных арганічнай еднасцю духоўнага і прыроднага, дакладных і пластычных настолькі, што амаль фізічна адчуваеш цемру і націск завірухі, бязмежную самоту і адчай чалавека, асуджанага на блуканні, чуеш стогны яго і ветру.

Адзін з лепшых твораў Э.Ажэшкі — аповесць “Нізіны” (1884), у якой пададзена шырокая карціна жыцця парэформеннай беларускай вёскі. У цэнтры — лёс батрачкі Хрысціны; цяжкай працай назапасіла яна крыху грошай для сыноў і сабе на пахаванне, але ўсе яны сплылі ў рукі прайдзісвета Капроўскага, які абяцаў выратаваць яе сына ад несправядлівай рэкрутчыны. Усё ідзе прахам: чорныя вагоны зносяць аднаго сына на край свету, другі шукае суцяшэння ў карчме.

У бязлітасным асуджэнні асяродку, што спараджае коснасць і прымхі, — пафас яшчэ адной “беларускай” аповесці “Дзюрдзі” (1885). Зыходным пунктам сюжэта стала сцэна суда над чатырма сялянамі, якія забілі жонку вясковага каваля, маладую прыгажуню Пятрусю. Для пісьменніцы важна было звярнуць увагу чытача на той факт, што жахлівае злачынства здзейснілі не нейкія бадзягі або закаранелыя бандыты, а “працаўнікі з чалом, акропленым потам”. “Нізіны” і “Дзюрдзі” — адны з нямногіх твораў Ажэшкі, пазбаўленых сентыментаў і ідылічнасці ва ўспрыманні сялянскага жыцця. Аповесць “Дзюрдзі” цікавая і тым, што ў ёй апісваецца вядомы толькі ў беларускім фальклоры абрад заклінання, паводле якога чараўніца павінна з’явіцца на вогнішча з асінавых дроў.

На беларускім матэрыяле створана і аповесць Э.Ажэшкі “Хам” (1888). Маральна-этычная скіраванасць твора палемічна ўвасоблена ўжо ў назве: польскія шляхціцы пагардліва называлі сялян хамамі, але ў гэтых “хамаў” нярэдка было больш, чым у паноў, унутранай культуры, прагі ведаў, маральнай чысціні. Такія якасці ў поўнай меры ўласцівыя Паўлу Кабыцкаму, рыбаку з прынёманскай вёсачкі. Не толькі глыбокім пачуццём, але і “святым чалавечым абавязкам выратавання бліжняга” кіруецца ён, беручы за жонку Франку — істоту, поўную супярэчнасцяў, сапсаваную “трагічнымі падзеямі і балотнымі выпарэннямі жыцця”, але і па-свойму сумленную. “Непараўнальнай польскай Манон Ляско” назвала Франку М.Дамброўская.

Асаблівае месца ў творчасці Ажэшкі займае раман “Над Нёманам” (1887). Паводле эпічнай шматпланавасці яго справядліва параўноўваюць з паэмай А.Міцкевіча “Пан Тадэвуш”. Месца дзеяння, як і ў аповесцях, — беларуская зямля, аднак стрыжань сюжэта складаюць адносіны паміж “вярхамі” і “нізамі” ўласна шляхты. “Нізы” — нашчадкі дробных шляхціцаў, якія некалі перасяліліся ў гэтыя мясціны з Польшчы. Уклад іх жыцця ўжо мала чым адрозны ад сялянскага, ды і “вярхі” — насельнікі панскіх маёнткаў — бачаць у іх “мужыкоў”, і шлюб Юстыны Ажэльскай з Янам Багатыровічам, яе адыход у яго “мужыцкую хату” выклікае ў паноў жах.

Э. Ажэшка дэталёва ўзнаўляе панараму жыцця польскай шляхты, паказвае працэс яе сацыяльна-эканамічнай дыферэнцыяцыі. Прадстаўнікі ўсіх маёмасных слаёў знайшлі сваё месца ў рамане: тут і багаты памешчык Дажэцкі, і Ружыц, які праматаў мільённае багацце, і Карчынскі, з сярэдняй шляхты, залежны ад тых, хто стаіць на саслоўнай лесвіцы на некалькі прыступак вышэй. У сваю чаргу ад яго залежаць і знаходзяцца з ім у пастаянных звадках за лес і зямлю шляхціцы-земляробы. Адбываецца ўнутрысаслоўны падзел і маральнага кшталту. Сын Карчынскага Вітальд верыць у роўнасць і братэрства, у дэмакратычныя ідэі, заклікае дваран паяднацца з “малымі і безабароннымі”, ісці да іх у “цесныя, цёмныя норы”. Вітальда, яго стрыечнага брата Зыгмунта, Ружыца, прыналежных, па сутнасці, да аднаго грамадскага кола, падзяляе сцяна абсалютнага неразумення. Ва ўяўленні, напрыклад, Зыгмунта народ — гэта шэры натоўп, і бацька Зыгмунта, адзін з забітых паўстанцкіх эмісараў, у вачах сына ўсяго толькі “ў вышэйшай ступені шкодны вар’ят”. Наогул, адносіны герояў рамана да паўстання 1863—1864 гадоў — своеасаблівы крытэрый іх маральнасці. Успамінам персанажаў пра паўстанне прысвечаны самыя рамантычныя і прачулыя старонкі твора.

Творы Э.Ажэшкі заўсёды сустракалі жывую цікавасць беларускага чытача. На беларускую мову іх перакладалі Я.Бяганская, Я.Брыль, А.Бутэвіч, Г.Тычка. Беларускія тэатры і студыі ў розны час ставілі спектаклі па творах Ажэшкі. Так, для Першай беларускай трупы І.Буйніцкага пісьменніца перапрацавала апавяданне “Зімовым вечарам” (сам Буйніцкі быў заняты ў ролі Аляксея). Спектаклем па гэтым творы пачаў сваю дзейнасць у 1920 годзе Беларускі дзяржаўны тэатр, а ў 1921 годзе ў ім жа была пастаўлена інсцэніроўка аповесці “Хам”. На кінастудыі “Беларусьфільм” ажыццёўлена і яе экранізацыя. Янка Купала да ліку пісьменнікаў, якія яго “больш за ўсё цікавілі”, адносіў і Э.Ажэшку. Сяброўства звязвала пісьменніцу з Ф.Багушэвічам, чые творы яна высока ацэньвала; у лісце да паэта Яна Карловіча Ажэшка, у прыватнасці, пісала: “Быў у мяне нядаўна пан Багушэвіч і чытаў мне сваю, толькі што напісаную па-беларуску казку, доўгую, поўную фантазіі, цудоўную. Прыгожы гэта талент”. Сам жа Багушэвіч называў Элізу Ажэшку “каралевай жывога слова і пакутлівай праўды”.

Ева ЛЯВОНАВА

На здымках: Эліза Ажэшка; капліца — магільны склеп роду Ажэшкаў — у вёсцы Заказель Драгічынскага раёна.

# "Як жыць — дык жыць для Беларусі..."

Яе лёс быў пакручастым і цяжкім, постаць — нязвыклая для літаратурнага працэсу другой паловы стагоддзя. Часавая дыстанцыя дае магчымасць убачыць яе асобу на адлегласці і ацаніць зробленае для Беларусі.

Біяграфія творцы іншы раз дапамагае, а часам і перашкаджае ацаніць яго належным чынам. Дапамога, бадай, праяўляецца ў насычанасці жыццёвых падзей, якія паўстаюць выспамі ў бязмежным акіяне лёсу. Калі ўлічыць, што біяграфіі шэрага паэтаў багатыя на ўнутранае жыццё, але бедныя на яе знешнія праявы (нараджэнне — вучоба — праца ў часопісе ці газеце — публікацыі зборнікаў вершаў), неабазнанаму чытачу часам цяжка ідэнтыфікаваць паэта, выдзяліць яго з арміі творчых работнікаў.

Лёс Ларысы Геніюш быў надзвычай багаты падзеямі. Нараджэнне на Гродзеншчыне, польская школа, замуства, жыццё ў Празе, спроба выкарыстаць паэтэсу ў палітычнай барацьбе. А далей — атрыманне чэхаславацкага грамадзянства, яго пазбаўленне, дэпартацыя ў СССР, прысуд на 25 гадоў, лагер, вызваленне, жыццё ў Зэльве пад наглядам, выхад некалькіх кніг. Падзей хопіць не на адно жыццё.

Цяжкасці заключаюцца ў тым, што любая праява грамадска-палітычнага і культурнага жыцця СССР з'яўлялася палітыкай. Таму кожны яго актыўны ўдзельнік адначасова трапляў у катэгорыю палітыкаў з усімі наступствамі. Нават цяпер складваецца ўражанне, што ацэнка творчасці паэтэсы Ларысы Геніюш наўпрост залежыць ад палітычных перакананяў аўтара матэрыялу. Падтрымлівае ён ідэалы Беларускай народнай рэспублікі, з абурэннем успрымае спробы дзяржавы ў савецкія часы кантраляваць літаратурны працэс — Геніюш становіцца талентам і ледзь не геніем. Крытычна ўспрымае дзейнасць любых прадстаўнікоў беларускай эміграцыі — паэтэса становіцца ўсяго толькі штандартам пэўных сіл, якія выкарыстоўваюць Геніюш як сімвал. То бок пераважная большасць ацэньвае погляды Ларысы Геніюш як грамадскага дзеяча, а не як паэтэсу. Але нам цікавая яна менавіта як творца.

На першы погляд, Геніюш напісала не так ужо шмат. У 2000 годзе том яе творчых набыткаў выйшаў у "Беларускім кнігазборы", найбольш поўная на сённяшні момант спадчына сабрана ў двухтомніку (гаворка пра яго чакае ніжэй). Ды толькі гэта і ёсць адзнака сапраўднасці: у адзінак (як Рыгора Барадуліна) колькасць не ўплывае на якасць. Калісьці Юрый Нагібін заўважыў, што "паэт, няздольны напісаць па-цютчаўскі сціслы верш, перастае быць богам, ён можа застацца толькі прафесіяналам высокай маркі".

А Геніюш была болей, чым прафесіянал. Талент ёй быў дадзены Богам, і кожны верш нараджаўся, як кропля смалы на ствале дрэва. 3-пад яе пяра выходзіла і лірыка ("Спатканне", "Ноч", "Вясна", "Дзявочае сэрца"), вершы для дзяцей, якія склалі зборнікі "Казкі для Міхаські" і "Добрай раніцы, Алесь". Але галоўным лейтматывам яе творчасці заўсёды заставалася Беларусь, чый лёс, здаецца, значыў для Геніюш нават болей, чым каханне:

Не скажу, што ты рана загінуў,
не пажалюся людзям, ні Богу!
Для каханае нашай Радзімы
Й найдарожшых ахвяр не замнога.

Радзіма выступала для паэтэсы алтаром ("***Маці мая славянская"). Служэнне незалежнай Беларусі было яе верай. Таму не дзіўна, што людзей, якія так не лічылі, Геніюш увогуле не прызнавала. А яны не прызнавалі яе.

Непрымянне паэтэсай савецкага ладу жыцця выявілася і ў пазіцыі, на якой яна стаяла ад вызвалення з лагера ў 1956-м і да самай смерці ў 1983-м. Ларыса Антонаўна адмовілася прымаць савецкае грамадзянства, так і не ўступіла ў Саюз пісьменнікаў. І гэта ў тых умовах, калі іншыя пісьменнікі, што прайшлі праз лагерныя пакуты (У. Дубоўка, С. Грахоўскі) імкнуліся вярнуцца ў літаратурнае жыццё, выдаваць зборнікі вершаў, перакладаў, жыць і дыхаць як звычайныя людзі. Хтосьці бачыць ва ўчынках Геніюш праяву грамадзянскай мужнасці, хтосьці — вернасць ідэалам маладосці. І сапраўды, Геніюш, бадай, не магла паводзіць сябе інакш:

Змагацца — дык шчыра, на поўны ўздым.
Памерці — дык горда, за волю і славу.
Калі пакахаць, то пачуццем такім,
Каб шэрую землю расплавіць на лаву!

Але будзем шчырымі, у сваёй бескампраміснасці Геніюш часам не зважала на тых, хто вагаецца. Нават старонкі "Споведзі" Ларыса заканчвае досыць катэгарычным мерkaваннем, адрасаваным свайму мужу: "Ён піша аб Варкуце, аб сустрэчы, аб шчасці тут, на Поўначы… Якое, чалавек, шчасце, калі ўсё тут на падмане, на трупах і патрэбная барацьба!". Нават на сямейных фотаздымках, зробленых у Зэльве пасля вяртання з лагера,



відаць, хто ў сям'і з'яўляўся галоўным; муж Ларысы Антонаўны, Янка Геніюш глядзіць у аб'ектыў стомленымі вачыма, а яна з усмешкай, душэўнай трываласцю і ўпартасцю ўглядаецца ў вочы нашчадкаў. Сам-насам з сабой, перад Богам, да якога паэтэса часта звярталася ў сваіх творах, асабліва ў "Споведзі", яна магла дзяліцца сумненнямі, перад людзьмі — заставацца прыкладам непахіснасці духу.

І ўсё ж, чаму менавіта Ларыса Геніюш засталася сярод буйнейшых асоб нацыянальнай літаратуры? Што спрыяла яе ўзыходжанню на Парнас? Адказаць на гэта пытанне паспрабую словамі Максіма Танка, выказанымі з нагоды зусім іншых творцаў: "Казімір Сваяк, Вінцук Адважны, іншыя — гэта была група ксяндзоў-беларусаў, якія займаліся то публіцыстыкай, то святым пісаннем, то пісаннем вершаў. Але ўзровень гэтай літаратуры нават заходнебеларускай крытыцы не дазваляў рабіць з іх вялікіх літаратурных дзеячаў. Яны былі добрымі прапаведнікамі нацыянальнай ідэі, але іх творы не дараслі да самой гэтай ідэі, былі ніжэйшыя за яе".

Вось яна, падказка! Творчасць Ларысы Геніюш жывілася, грунтавалася на нацыянальнай ідэі. А ў савецкія часы яна была яе галоўным носьбітам. Так лічыць значная частка сённяшняга грамадства. Але ў сваіх лепшых вершах паэтэса перарасла прасталінейны падыход да самой нацыянальнай ідэі. Заклікі да барацьбы і змагання часта ператвараюць паэтаў у публіцыстаў, што па сутнасці падрэзае ім крылы і назаўсёды пакідае ў сваім часе. Геніюш жа ўзнялася ад публіцыстычных заклікаў да глыбокіх параўнанняў, абагульненняў, сімвалічных вобразаў. Памятаеце "Зуброў"?

"Непрыгожыя, барадатыя,
З нетраў пушчы ідуць зубры,
На плячох — вехі-грывы кудлатыя
І цяжкія нясуць гарбы (…)
Ўсе прыходзілі, ўсе іх нішчылі, —
Ад чужынца дабра не пачуць,
А яны грамадою нялічанай
Страпянуцца і зноў жывуць. (…)"

Сваёй творчасцю Ларыса Геніюш узняла беларускую ідэю да ўзроўню высокай паэзіі.

Вершы паэтэсы пачалі вяртацца да чытачоў пасля яе смерці, пачынаючы з канца 1980-х гадоў: паступова, у літаратурнай палеміцы, з тлумачэннем мастацкай вартасці яе спадчыны. З'явіліся публікацыі ў перыёдыцы, у 1990 годзе "Маладосць" надрукавала яе "Споведзь". У школьную праграму былі ўключаны асобныя яе творы. Напрыклад, знакамітае чатырохрадкоўе паэтэсы, у якім яна, па сутнасці, выяўляла сваё творчае крэда:

Адзінай мэты не зракуся,
і сэрца мне не задрыжыць:
як жыць — дык жыць для Беларусі.
А без яе — зусім не жыць.

У наш час змянілася ацэнка грамадствам шэрага падзей мінулага. Цяпер, калі з боку гістарычнай навукі прызнана роля БНР у станаўленні нацыянальнай дзяржаўнасці, а таксама даказана, што паэтэса ніякім чынам не супрацоўнічала з нямецка-фашысцкім рэжымам — і нават выключалася на допыты ў гестапа за тое, што не згадвала ў паэтычных творах асобу Гітлера, — можна больш разважліва аналізаваць менавіта мастацкую вартасць творчасці Ларысы Геніюш.

Несумненна, у гэтым будзе спрыяць яе двухтомнік, выдадзены ў мінскім выдавецтве "Лімарыус". Першы том склалі вершы і паэмы. Прычым, 74 з іх знойдзены ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук і друкуюцца ўпершыню. У другі том увайшлі проза і творы эпісталярнага жанру.

У свой час даследчык Мікола Мікуліч выдаў кнігу "Максім Танк на скразняках стагоддзя". Агульнавядома, што Ларыса Геніюш, паслядоўная прыхільніца нацыянальнай ідэі і незалежнай Беларусі, і Максім Танк, які шчыра верыў у камуністычныя ідэалы сябравалі і перапісваліся. Таму і ў дачыненні да Ларысы Геніюш можна сказаць, што яна стаяла не проста на скразняках: яна была ў эпіцэнтры бур, што праносіліся над беларускай зямлёй у XX стагоддзі. Тым не менш, выстаяла, засталася ў вершах і прозе. Пісьменніца не магла жыць без Беларусі. Зараз жа несумненна адно: Беларусь таксама не можа жыць без Ларысы Геніюш.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# "Я дасягну сваіх мар"



"Буду журналістам, а, можа, пісьменнікам, — даволі сурз'ёна гаварыў Сцяпан. — Вось пабачыце — кніжку надрукую…" У той пасляваенны час няпроста жылося ўсім. Але Сцяпанава мара (хаця над ім на кожным кроку пасмейваліся) перш-наперш акрыляла яго самога і натхняла. І трэба было мець сілу волі, каб, нягледзячы на цяжкасці, упэўнена ісці да сваёй мэты, да здзяйснення мары.

Аб гэтым мне сам расказваў Крываль яшчэ ў 1967 годзе. Тады я пачаў працаваць у Жабінкаўскай раённай газеце "Сельскае жыццё", а Сцяпан Антонавіч вёў раённае радыё і ўзначальваў літаратурнае аб'яднанне пры райгазеце. Тады ён ужо быў вядомы ў літаратурных колах.

Хто ён і адкуль Сцяпан Крываль? Нарадзіўся першага ліпеня 1935 года ў невялікай палескай вёсцы Гутка, што знаходзіцца ў Рэчкаўскім сельсавеце на поўдні Івацэвіцкага раёна.

Бацька Антон Рыгоравіч і маці Кацярына Дзмітрыеўна родам з Гуткі. Тут жылі іх бацькі, дзяды і прадзеды.

У сям'і Крываляў было чацвёра дзяцей. Сцяпан — быў трэцім. Брат Уладзімір, сястра Надзя і іх бацька ў час вайны былі сувязнымі партызанскага атрада імя Баруцкага. Валодзя загінуў у красавіку 1945 года ў Берліне.

Бацьку Сцяпана арыштавалі летам 1945 года толькі за тое, што ў ягоным вялікім доме, у другой яго палавіне, немцы размясцілі паліцэйскі ўчастак. Дазволу на "пасяленне" тады нікто не пытаў. Не дапамаглі ні сведкі, ні дакументы. Забралі энкавэдэшнікі Сцяпанавага бацьку, асудзілі за так званае "пособничество" немцам. І дзесяць гадоў — ад званка да званка — ірваў ён жылы на таёжным лесапавале.

Гадаваць і вучыць трое дзяцей адной маці прыходзілася нялёгка. Сцяпан закончыў Крайскую сямігодку, два гады працаваў у мясцовым калгасе, затым служыў у арміі. Вярнуўшыся дахаты, былы сяржант уладкаваўся ваенруком у Крайскую сярэднюю школу. Працуючы, тут жа вучыўся, і праз тры гады атрымаў атэстат сталасці.

У 1960 годзе Крываль ажаніўся, пераехаў у Маларыту, пачаў працаваць у раённай газеце. У той год стаў студэнтам-завочнікам аддзялення журналістыкі Белдзяржуніверсітэта ў Мінску. Менавіта 1960-я сталі для яго сапраўдным стартам у літаратуру. Вершы, байкі, гумарэскі і апавяданні маладога літаратара друкуюць абласныя і рэспубліканскія выданні. Тут, у Маларыце, Крываль пасябраваў з будучымі вядомымі пісьменнікамі, выхадцамі, як і ён, з Івацэвіцкага райна, Міколам Купрэевым і Яраславам Пархутам, а таксама з Аляксеем Філатавым.

Дарэчы, Аляксей Філатаў, пазней ва ўспамінах пра Сцяпана Крываля, падкрэсліваў надзвычай калючы ягоны нораў, хуткі на трапны жарт, які рэзаў праўду-матку, не зважаючы, хто перад ім.

Адзін са зборнікаў апавяданняў "Аднойчы летам", дасланы ў выдавецтва, даволі хутка, і на здзіўленне самога аўтара, пабачыў свет у ліпені 1990 года. Ва ўсіх творах адчувалася добрае веданне пісьменнікам народнага побыту, яго ўменне расказаць пра пачутае ці ўбачанае проста і займальна. У кніжцы пераважалі творы пра вясковае жыццё, пра каханне, а таксама пра лёс тых, каму давялося прайсці праз судовыя выпрабаванні ваенных гадоў. Хачу падкрэсліць, што, якую б тэму ні браў Крываль, на першым плане ў яго маральна-псіхалагічны стан чалавека, яго ўнутранае жыццё з усімі супярэчнасцямі і падзеямі, падчас жахлівымі і непрадказальнымі.

Невыпадкова апавяданні Крываля неаднаразова гучалі па беларускім радыё, а адно з іх "Медаль за адвагу" інсцэніравалі на тэлебачанні.

У тыя гады са сваімі рэцэнзіямі на першы зборнік апавяданняў Крываля выступілі І. Калянковіч, А. Майсейчык, М. Тычына і іншыя крытыкі і літаратары. А Павел Місько ў выдавецкай рэцэнзіі напісаў пра Крываля так: "Здольны, таленавіты нават па вялікаму рахунку… Аб чым красамоўна сведчыць высокамастацкая, таленавітая кніга прозы".

"Тэматыка маіх твораў, — казаў Сцяпан Крываль, — лёс майго народа на самых суровых скрыжаваннях гісторыі. Адным з іх была Вялікая Айчынная вайна. Я добра памятаю, як мая вёску Гутка палілі нямецкія карнікі, як у гэтую Гутку прыходзілі з вайны бязрукія і бязногія мае вяскоўцы. А многія сем'і так і засталіся чакаць сваіх блізкіх, якія ўжо ніколі не вернуцца. Загінуў на вайне мой брат, два родныя дзядзькі, а трэці дзядзька — поўны кавалер ордэна Славы".

Таму і не дзіўна, што многія творы пісьменніка так ці інакш звязаны з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны, з яе былымі салдатамі, з іх лёсам у пасляваенныя гады.

Гэта характэрна і для рукапісаў падрыхтаваных ім у свой час апавяданняў "Чмяліная вясна" і "Пасля буралому", якія вось-вось павінны былі накіраваць у друкарню.

Аднак трэба прызнаць, што не заўсёды проста ішла праца над падрыхтоўкай новых кніжак да друку. Часам гэтая работа прыпынялася, і Крываль, забраўшыся ў аблюбаванае месца на рацэ Рыта, або ў малады сасоннік, дзе лягчэй дыхалася, і цэлыя дні бавіў там. Зразумела, пісаў. Новыя тэмы і вобразы не давалі спакою, нібы самі прасіліся на чысты аркуш паперы.

Сёння ўсе творы Сцяпана Крываля, што рыхтаваліся да друку, і новыя, знаходзяцца ў архіве. Гэты архіў бацькі захоўвае яго дачка Іна Сцяпанаўна, якая жыве ў Маларыце.

Хутчэйшаму з'яўленню новых кніжак Сцяпана Крываля перашкодзіў дрэнны стан здароўя. Але ж насуперак цяжкасцям, працягваў пісаць. У сярэдзіне жніўня 1996 года, знаходзячыся ў аддзяленні кардыялогіі ў Брэсце. Сэрца на гэты раз падвяло…

Святаслаў КАЖАДУБ

Супрацоўнікі рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" шчыра смуткуюць і выказваюць сардэчныя спачуванні пісьменніцы Галіне Багданавай і паэтэсе Святлане Явар з прычыны смерці іх маці Тамары Андрэеўны, удавы вядомага пісьменніка і грамадскага дзеяча Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Барыса Сачанкі.

РВУ «Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырае спачуванне намесніку начальніка фінансава-эканамічнага ўпраўлення Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь КУЗЬМІЧ Наталлі Рыгораўне з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.

# Леаніду Галубовічу — 60!

12 жніўня вядомаму беларускаму паэту, эсэісту, літаратурнаму крытыку Леаніду Міхайлавічу Галубовічу споўнілася 60 гадоў. Шчырае і важкае ягонае слова заўсёды заўважнае, заўсёды прачытанае і ацэненае сучаснікам. У сваю чаргу, і сам Леанід Міхайлавіч знаходзіцца ў курсе ўсіх падзей літаратурнага жыцця, уважаючы за лепшае заставацца крыху ўбаку — аналізуючы і перакладаючы іх на мову "вялікага часу" для чытачоў тыднёвіка "ЛіМ". З апошнім у юбіляра ўжо некалькі дзесяцігоддзяў плённае супрацоўніцтва, а апошнія гады ён кіраваў аддзелам крытыкі. Усе зацікаўленыя ведаюць: для "ЛіМа" Леанід Галубовіч зрабіў, робіць і, Бог дасць, будзе рабіць вельмі многа. Па сутнасці, з ім звязаны цэлы этап развіцця нашай літаратурнай крытыкі. Суровы і бязлітасны арбітр і, адначасна, уважлівы і добры апякун усяго вартага, ён сам паставіў планку якасці крытычнага артыкула настолькі высока, што ўсе без выключэння аўтары газеты не могуць не арыентавацца на гэты ўзровень.

З юбілеем творцу віншуюць сябры і калегі — І. Шаўлякова, В. Шніп, В. Гапееў, да якіх, вядома ж, далучаюцца і ўсе лімаўцы. Мы зычым Леаніду Міхайлавічу добрага здароўя і, зразумела, творчасці — порах знакаміты ЛеГал трымае сухім і, думаецца, яшчэ не раз мітуслівы чытач спыніцца, як агаломшаны, далучыўшыся да глыбіні жыццёвага досведу Леаніда Міхайлавіча, адкрые нешта новае — для самога сябе. У тым, відаць, найвялікшая ўзнагарода крытыку — не ўрадавая, але народная.

Рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва"



Леанід Галубовіч (крайні справа) сярод маладых творцаў свайго пакалення (1986).

# ПАЭТ-КРЫТЫК І АКІЯН

Гаварыць і нават пісаць пра Леаніда Галубовіча ў духу "я Леніна бачыў!" нават з нагоды ягонага 100-годдзя будзе немагчыма. Што ж казаць пра шасцідзесяты дзень народзінаў чалавека, якога нягледзячы на прынцыповую (па маіх адчуваннях) несумяшчальнасць яго жыццятворчага стылю з любымі праявамі пафаснасці зручней за ўсё атэстоўваць гэтак: "чалавек-аркестра".

Хаця апошнім часам Леанід Галубовіч найбольш дзейсна самавыяўляецца ў беларускай літаратурнай прасторы як крытык ды рэдактар (таксама від творчай дзейнасці), насуперак сабе самому ён застаецца паэтам, прычым паэтам актуальным.

Калі браць пад увагу тэндэнцыі развіцця сучаснага эпасу, схільнага да "фрагментарызацыі" рэчаіснасці, вобраз якой аднаўляецца пісьменнікамі найбольш ахвотна ў малых ды мініяцюрных жанравых формах, спадара Галубовіча можна было б смела называць і празаікам. Аднак перасцерагаючыся ўсё таго ж няўтульнага для яго пафасу, пазначу ягоныя стасункі з гэтым сегментам літбыцця сціпла — вядучы "зацемшчык" беларускай літаратуры мяжы стагоддзяў... і тысячагоддзяў.

На фоне зніжэння актыўнасці прафесійнай беларускай крытыкі і адначасовага звужэння кола яе рэальных "адэптаў" (сітуацыя, на вялікі жаль, ускладняецца перыядычнымі некантруктыўнымі звадкамі ўнутры і без таго нешматлюднай крытычнай супольнасці), праца Леаніда Галубовіча бачыцца мне адным са сведчанняў жывучасці нашай крытыкі наогул. Не першы раз з захапленнем (якое, зрэшты, мяжуе з трапяткім неўразуменнем, нават з містычнай вусцішшу) даводзіцца згадваць літаратурна-крытычную актыўнасць спадара Галубовіча: акрамя бягучага анансавання і рэцэнзавання навінак мастацкай літаратуры, ён не стамляецца выштукоўваць аўтарскія праекты (згадаю толькі лімаўскія рубрыкі "Кулуары", "Легалізацыя", "Гусіным пяром" ды інш.); яму ж належыць роля "першаштуршка" і адначасова "каталізатара" шэрага літаратурных дыскусій і абмеркаванняў, з дапамогай якіх лімаўскі аддзел крытыкі намагаецца раскатурхаць самотна-медытатыўнае найноўшае прыгожае пісьменства. Калі б сённяшнія беларускія крытыкі цудам змаглі б, перааадолеўшы спаконвечную стому ды расчараванасць, адважна ахвяраваць прыватнымі амбіцыямі на карысць прафесійнай еднасці ды стварыць, скажам, "Асацыяцыю крытыкаў" (пра што згадвалася яшчэ колькі год таму, здаецца, падчас нашай "трыялетнай" размовы з Ганнай Кісліцынай і Людмілай Рублеўскай), Леанід Галубовіч стаўся б адным з першых яе сяброў — нават прымусова, без "легалізацыі" ў згаданай якасці, паводле простай логікі літаратурнага працэсу. Таму што я не ведаю сёння ніводнага іншага крытыка, які сплачваў бы свой культурны доўг з такой упартасцю, асобаснай зацікаўленасцю (=эмацыйнай ангажаванасці), перааадольваючы часам роспач уласную і раз'ятранасць вонкавую, — і не сарваўся б на енк-праклёны з нагоды сваёй гаротнай долі і няўдзячнасці сучаснікаў.

Леанід Галубовіч насамрэч загадкавым для мяне чынам сумяшчае ў сваёй штодзённай (літаратурнай ды рэдактарскай) рабоце прафесійныя стрыманасць, разважлівасць, цвярозы розум з чалавечымі датклівасцю, палкасцю, чуллівасцю. Галубовіча-рэдактара загартаваў, відаць, шматгадовы вырак літаратурнага і каляліатаратурнага існавання; Галубовіча-чалавека ратуюць, бадай, ягоныя досціп, здольнасць быць іранічным (у тым ліку і ў адносінах да сябе самога) — і няздольнасць самасцвярджацца ў жыцці-прафесіі за кошт іншых.

Вядома, да Галубовіча-рэдактара ўдзячныя, няўдзячныя і залішне ўдзячныя аўтары могуць назбіраць прэтэнзій не на адно дасье, хаця, на мой погляд, ён яшчэ з часоў колішняй "Крыніцы" аддае перавагу і імкнецца рэалізаваць (па меры сціплых магчымасцей) дасканалую стратэгію: крытычныя матэрыялы, якія паступаюць у рэдакцыю, альбо варта друкаваць з мінімальнай стылёва-карэктарскай праўкай, альбо не варта прымаць да друку. Бо крытыка, паводле Леаніда Галубовіча, — чацвёрты літаратурны род; такая мастацкая дзейнасць, істотнае ўмяшанне ў якое ёсць гвалт над творцам (то бок крытыкам).

Натуральна, Галубовіч-чалавек мае (павінен мець!) свае слабасці, а можа, нават (страшна падумаць!) — заганы. Аднак яны аніяк не ўплываюць ні на добразычліва-іранічныя — натуральныя — стасункі ў лімаўскім аддзеле крытыкі, ні на ўвагу і павагу, з якімі гэты пан рэдактар ставіцца да калег-літаратараў, незалежна ад іх узросту, статусу і літаратурнай адоранасці. Зрэшты, пры ўмове, што той ці іншы калега выяўляе хаця б элементарную прыстойнасць у зносінах і можа ўтаймаваць у стасунках з простымі чалавекамі нечалавечую сваю геніяльнасць.

Дзякуй Богу, за ўвесь час, што я ведаю Леаніда Міхайлавіча Галубовіча, у яго ніколі не здаралася рэцыдываў той псеўдагеніяльнасці, якою ў наш час так бліскуча маскіруецца беспардоннасць. Я лічу яго майстрам — як літаратара, як чалавека — у тым далёка не пафасным, але, можна нават сказаць, прагматычным сэнсе, што акрэсліла неяк Ліна Кастэнка: "Дужа дзіўны пейзаж: ходзяць таленты касякамі. // Сваё сёмае неба прыгінае сабе мітусня. // Пры майстрах нейк лягчэй. Як Атланты, над намі // яны неба трымаюць. Таму яна й ёсць, вышыня" (пераклад Ніны Мацяш).

Апошнім часам я ўсё часцей паныла думаю: а што, калі Леанід Міхайлавіч спраўдзіць свае рашучыя намеры — і з'едзе ў сваё Вароніна Клецкага раёна Мінскай вобласці... жыццём нармальным (безлітаратурным) жыць. А мы ж яшчэ архіў з ягоных дасціпна-гарэзлівых запісак-пасланняў, што падколваюцца да аўтарскіх рукапісаў, якія ён перадае нам на рэдагаванне, не сабралі!.. А мы ж яшчэ АК (тут: "Асацыяцыяй крытыкаў") публіку родную так і не... агаломшылі. Ды пасля згадаю, што да творчай пенсіі Леніду Галубовічу яшчэ далёка — прыкладна як ад Вароніна да акіяна, — і крыху супакоюся: пакуль яшчэ той акіян да Вароніна дабярэцца!..

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# І МЫ БЫЛІ НЯДАЎНА МАЛАДЫМІ...

Снежань 1981 года. Дом творчасці "Каралішчавічы". За вокнамі цёмна, марозна, завейна. У светлай ад паэзіі зале гучыць: "Шукаю чытача, // Хаўрусніка душы, // Які б з майго пляча // Цяжар пералажыў І на сваё плячо... // Лягчэй дайшлі б да мэты. // Так мала чытачоў, // І тыя ўсе — паэты. // І ўсё ж жыве, аднак, // Надзея, і здаецца, На слова хоць адна // Душа ды адзавецца..." — гэта Леанід Галубовіч чытае свае вершы. І яго слухаем мы, маладыя — А. Сыс, А. Мінкін, У. Арлоў, В. Сахарчук, А. Шушко, С. Вераціла, А. Наварыч, У. Мазго, У. Ягоўдзік, Л. Паўлікава, А. Канапелька, А. Жыгуноў, У. Саламаха, М. Мятліцкі, В. Спрынчан... У Лёні ад хвалявання дрыжаць рукі і, здаецца, што ён не трымае аркушы з вершамі, а сам трымаецца за іх.

Перапыніўшыся на нейкую хвілінку і, выцершы даланёй пот з ілба, Леанід Галубовіч чытае далей: "Прычакаўшы глыбокага снегу, // Аб'язджаюць каня мужыкі: Маладому, шалёнаму бегу // Дзве аглоблі сцінаюць бакі. // Ні на міг не правісне ляйчына. // Не папусціць свабоды рука, // І — тады, дзе глыбее лагчына, // Да апошняга правіць рыўка. // Вось ён — потны, загнаны, знямоглы // — Ад тугі і адчаю захроп. // Заўтра стане пакорна ў аглоблі // І без пугі не пойдзе ў галоп".

Дачытаўшы нізку вершаў, Лёня глядзіць на нас, сваіх слухачоў, так, нібыта ён пастаўлены да сценкі і яго зараз мы павінны расстраляць. "Усё? Калі ўсё, то сядай", — кажа кіраўнік семінара паэзіі Рыгор Барадулін. Лёня, уздыхнуўшы з палёгкай, сядае, нібыта пачуў, што загад "расстраляць!" заменены на пажыццёвую высылку ў краіну Паэзія, з якой яшчэ ніхто жывым не вярнуўся дамоў. Праз хвіліну пачынаецца абмеркаванне вершаў. Усе хваляць Галубовіча і ўсім хочацца даведацца адкуль ён такі ўзяўся. І Лёня расказвае, што ён нарадзіўся ў вёсцы Вароніна Клецкага раёна. Пасля заканчэння Грыцэвіцкай сярэдняй школы і Слуцкага ПТВ працаваў электрыкам на прадпрыемствах Жабінкі, Слуцка і Клецка, а цяпер — у родным калгасе. Пісаць пачынаў на рускай мове і свае першыя творы паслаў у "Сельскую газету", з якой атрымаў ліст ад Яўгеніі Янішчыц, якая параіла маладому паэту пісаць на роднай мове. І Лёня пачаў пісаць па-беларуску. Падводзячы вынікі абмеркавання паэзіі Галубовіча, Рыгор Барадулін сказаў, што ён асабіста чакае рукапіс кніжкі паэта, каб яе без чаргі выдаць у "Мастацкай літаратуры" ў калектыўным зборніку ў наступным годзе. Пасля гэтых барадулінскіх слоў усе астатнія дні і ночы семінара маладых літаратараў у Каралішчавічах усе толькі і гаварылі пра вершы Леаніда Галубовіча. Развітваючыся з Каралішчавічамі, мы, семінарысты, абмяняліся адрасамі, каб перапісвацца. Абмяняўся і я з Галубовічам.

Першы ліст ад Лёні прыйшоў 22 снежня 1981 года. Ён пісаў: "Сябра мой, Віцюня — прывітанне! Здаецца яшчэ колькі дзён таму мы маглі пра многае гаварыць, аб многім спрачацца... А сёння ўсё гэта — памяць. Я як нанова нарадзіўся. Такі быў дзіўны, цікавы народ! Не падумай толькі, што пішу табе па неабходнасці ўведаць наконт выдання калектыўнага зборніка, хоць і гэта прычына для нашай размовы немалаважная. У мяне з сённяшняга дня пачаліся вясковыя працоўныя будні. А душа яшчэ там — у Каралішчавічах! Усё ніяк не хапае смеласці схіліцца над белым аркушам паперы. Не магу пісаць нешта горш таго, што адзначана Рыгорам Іванавічам як станоўчае. (...) Як ты там жывеш? Чым? Пішы, я буду шчыра рад тваім лістам. А цяпер пра справы выдавецкія. Ці быў ты ў Рыгора Іванавіча? Аб чым гаварылі і аб чым дамовіліся? Пішы праўду, я не пакрыўдую. Гэта намнога лепш, чым ліць ялей на неразумную галаву. Віншую цябе з Новым Годам! Жыві, працуй, пацей, заставайся чалавекам! Твой сябра Лёня, в. Вароніна".

Потым неўзабаве 26 снежня прыйшоў другі ліст: "Віця, прывітанне! Сягоння атрымаў твой ліст, — дзякуй. Дзякуй за ўсё тое, што ты зрабіў і, магчыма, яшчэ зробіш для мяне. Спадзяюся, што і я не застануся тваім "вечным крэдыторам"; жыццё, дай-то бог, выдасца ў нас доўгім, і мы яшчэ не раз сустрэнемся на гладкіх і коўзкіх сваіх дарогах. Сённяшні мой боль аб сваім рукапісе. Як ты пішаш, крыху адышоўшы ад семінара, прыйшло нейкае паразуменне, вострае адчуванне адказнасці за друкаванае слова. Сёння ж атрымаў чарговы нумар "ЛіМа". Даведаўся, што Рыгор Іванавіч "прападаў" у Літве на вечарах паэзіі з А. Балтакісам. Прыедзе — часу ў абрэз, калі яму будзе разбірацца з маім рукапісам? І ўсё-ткі я яму веру, і дай-то яму бог... Віця, ты з ім лічы што на "ты", дапамажы калі што-небудзь спатрэбіцца пры рабоце над маім рукапісам. Я табе давяраю ва ўсім. Дарэчы, ці чытаў ты лімаўскія згадкі Толі Сідарэвіча пра наш семінар у Каралішчавічах. Нас з табой у першай жа "абойме" амаль разам расстралялі. Аднак жыць пасля гэтага можна. Ці не так? Праўда, мне не спадабалася, што нас за "бездыпломнасць" папракаюць. Дык калі мы ўжо за тымі дыпломамі пойдзем, га? Сёння шчадрэц. Заўтра стары Новы год. У вёсцы, зразумела, — свята. І ўсё ж — сумнавата. Надвор'е, праўда, спрыяльнае стаіць і на душы святлей, чым у дні завірух. Атрымаў лісты ад Алеся Жыгунова і Васі Сахарчука. Цікавыя хлопцы! Праўда, асаблівых навін і яны не пішуць. Усе жаляцца, што не пішацца пакуль яшчэ. Нічога, выбаліць — напішацца; "не трэба гнаць шпарчэй замыленага каня, чым ён бяжыць сам". Вось, здаецца, і ўсё. Пішы над чым працуеш, што новага напісаў? Убачыш Колю Мятліцкага — шчырае яму і яго сямейству прывітанне. Крыху пазней напішу падрабязней. Новых табе надзей і здзяйсненняў. Твой Лёня. P.S. Не верылася мне, што ён усё-ткі адобрыць мой рукапіс. Вялікі дзякуй табе, дружа. Заўтра буду ў горадзе Клецку і пастараюся дазваніцца да Барадуліна. Яшчэ раз дзякую за ліст і за турботы. Пішы. Твой вечны сябра Лёня, в. Вароніна". І такіх жывых і светлых лістоў у мяне ад маладога Леаніда Галубовіча больш за паўсотні. Я іх з любоўю захоўваю і, часам, калі захочацца пабыць у нашай маладосці, перачытваю. І вельмі шкадую, што Лёня даўно не піша вершаў. Хаця кожны з нас сам вырашаў і вырашае: што пісаць ці не пісаць зусім, дзе і што друкаваць ці зусім не друкавацца. Леанід Галубовіч даўно зрабіў свой выбар. І сёння ён паважаны і знаны пісьменнік, слова якога цэніцца і не губляецца на прасторах беларускай літаратуры, дзе ўжо свой рэй вядуць новыя маладыя творцы, якім, віншуючы Леаніда Галубовіча з юбілеем, кажу з намёкам: "І мы былі нядаўна маладымі..."



Леанід Галубовіч атрымлівае дыплом аб заканчэнні Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве (1989).

Віктар ШНІП

# ЦЯЖКА ЎЯВІЦЬ СЁННЯШНЮЮ ЛІТАРАТУРНУЮ СІТУАЦЫЮ БЕЗ ЯГО...



На Днях славянскага пісьменства (г. Смаленск) — Леанід Галубовіч бярэ інтэрв'ю ў Валянціна Распуціна (1991).

Я шчэ з тае пары, калі слова "Легалізацыя" ў "ЛіМе" прыцягвала сваёй таямнічасцю нейкага асаблівага дзейства, узбуджала нежартоўнай сур'ёзнасцю новастворанага літаратурнага абраду, Леанід Галубовіч уяўляўся мне вялікім, строгім, бездакорна апранутым, не менш за прафесара ў званні. "Легалізацыю" чакаў, з яе пачынаў чытаць "ЛіМ" — і востра адчуваў, што ў гэтую рубрыку марыць патрапіць ці не кожны паэт і празаік. Бо гэта было як стаўленне таўра "наш", як знак літаратурнай якасці. Так я разумеў тады — і недзе кволеньким чарвячком асцярожна варушылася наіўная мара: "От бы некалі патрапіць..." (Хоць ты вершы пачынай пісаць...)

І куды пазней, калі не стала "Легалізацыі", калі былі проста крытычныя ці агледзіны творчасці нейкай асобы, ці падрабязны разгляд асобнай кнігі — гэтыя артыкулы Галубовіча чыталіся мной з большай цікавасцю, чым усё іншае ў тыднёвіку.

Бо там быў бадай што акадэмічны розум, які спалучаўся з чалавечым тактам і добразычлівасцю мудрага чалавека. Гэтыя артыкулы ў многім былі для мяне лекцыямі па тэорыі літаратуры, дзе для маёй неадукаванай душы знаходзіліся найкаштоўнейшыя нормы, правілы, спосабы, патрабаванні і проста парады...

Такім было маё завочнае знаёмства з Леанідам Галубовічам. А потым мы пазнаёміліся бліжэй...

Рэальна я пабачыў гэтага чалавека у сваіх Івацэвічах. Не скажу, што выгляд яго расчараваў мяне — да гэтага часу я ўжо не чакаў супадзення сваіх прадстаўленняў пра чалавека з рэальнасцю. Тады ў нашай райцэнтраўскай бібліятэцы ладзілася імпрэза ў гонар дня нараджэння Міколы Купрэева. Прыехалі госці са сталіцы, і з імі быў Леанід Галубовіч. Пасля па маім ужо запрашэнні мы наведалі Марачоўшчыну: сядзібу Тадэвуша Касцюшкі, Косаўскі палац...

Узваліўшы на сябе ролю гіда, ні на хвіліну не мог я пачуваць сябе разняволена. Скаваным я не быў, але напружанасць не адпускала. І віной таму ў большасці быў Леанід Галубовіч. Пасля імпрэзы ў бібліятэцы, якую ён вёў, я бачыў перад сабой не проста маўклівага мужчыну. Амаль раўнадушнага. Мне здавалася, што яму нецікава, і што ён толькі і чакае, калі я змоўкну, каб потым сказаць нешта накшталт выкладчыцкага: "Давай залікоўку...Здаў..."

Цяжар адказнасці зваліўся з маіх плячэй толькі тады, калі мы, паабедаўшы ў прахалодным сутарэнні кафэ ў Марачоўшчыне, ішлі да аўтамабіля, і Алесь Наварыч звярнуўся да Галубовіча:

— Ну вось, а ты не хацеў сюды заязджаць.

— Я не хацеў? Гэта ж я з Валерам во колькі цябе ўгаворвалі!

Хоць угаворваў усіх трох я — І Леаніда, і Алеся, і Юрыя Сапажкова.

Там жа, у Марачоўшчыне Леанід Галубовіч папрасіў-параіў:

— Напішы пра Марачоўшчыну... Пра гэта месца трэба пісаць бясконца...

Што я пазней і зрабіў — мае "Лісты з Марачоўшчыны" пабачылі свет у "Маладосці".

Госці паехалі, а я заспяшаўся дадому з падарункам — у маіх руках была падараваная кніга "Зацемкі з левай кішэні".

У першы дзень я чытаў яе не ад пачатку, а ў любым месцы, якое выпадкова адкрываў, па дыяганалі. І перада мной слова за словам, сказ за сказам раскрывалася душа паэта і душа чалавека, тая душа, у якой "няма пустога месца". І стала зразумелым, чаму на людзях і з людзьмі Леанід Галубовіч такі: "Не маю звычкі да маналога, і ў дыялогу я да магчымага лаканічны... Люблю слухаць, а калі сказаць больш дакладна — хачу зразумець".



Леанід Галубовіч і дачка Міколы Купрэева Святлана з кніжкай бацькі, што выйшла ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" (2007).

Сказаць, што кніга ўразіла мяне — не сказаць нічога. Гэта было тым адкрыццём, якія здараюцца раз за жыццё. Ніколі раней не сустракаў я такія дзённікавыя запісы, дзе б шчырасць была ці не хірургічная: упоперак і ўздоўж разрэзанае жыццё выкладалася, аналізавалася, і ніводная чорная плямка на пэўнай частцы-падзеі не скрывалася. Наадварот — ёй давалася нейкая ацэнка. Нават простым успамінам пра яе...

Потым ужо я выкажу Леаніду сваю ўзрушанасць такой адкрытасцю, а ён проста адкажа: "А чаго хаваць? Што было, тое было..."

І тут мне адкрыецца тое правіла, той закон, якім кіруецца па жыцці гэты чалавек: няважна тое, ШТО ты быў. Важна тое, ШТО ты ёсць цяпер, важна тое, на што ты здатны зараз...

Ужо нашмат пазней я пазнаёміўся з другім вопытам "хірургічнай адкрытасці" — калі скальпель пісьменніка будзе прэпарыраваць душы і целы другіх людзей, радасна ўскрыкваючы пры кожнай знаходцы якой язвы, смакаваць пухліны ды аблізваць чорныя плямы на здаровым. Мажліва, такое капанне (часцей — у трупах) і патрэбна ў літаратуры (хто скажа, чаго ёй сёння дакладна не трэба?), але ж ванітуе...

Чаму раптам паэт стаў крытыкам? Прамога адказу я не знайшоў у "Зацемках". Але ўскосна ўсё ж можна зрабіць вывад — з-за недзе на ўзроўні падсвядомасці асэнсаванага свайго крыжа — дапамагаць талентам.

Руплівасць Леаніда Галубовіча пра таленавітых людзей надзвычай яскрава праявілася ў апекаванні ім Міколы Купрэева. У "Зацемках" пра гэта вельмі мала. Аднак Леанід прызнаецца там, што цалкам таго самага Купрэева любіць не мог. І значыць, турботы пра такіх таленавітых бадзяг і п'яніц, як Мікола Купрэеў — то шчыры клопат чалавека пра талент у такім бадзяжніку. Менавіта гэты клопат і стаў, на маю думку, кіруючым у жыцці Леаніда Галубовіча. Таму і добразычлівасць у яго артыкулах з самым грунтоўным разглядам — каб не пакрыўдзіць, а натхніць, каб не даць па руках, а падказаць. Таму для кожнага аўтара знойдзецца ў яго нешта вельмі добрае, асаблівае, вызначальнае — піша ён аб прызнаных талентах, ці пра мясцовых, малавядомых аўтараў.

Леанід Галубовіч — не крытык у прамым сэнсе гэтага слова. Ён руплівец. І яго развітанне са сваёй паэтычнай музай мне вельмі нагадвае сёння развітанне са спакойным жыццём якога паспяховага інжынера, які прыхапіўшы бляшанку тушонкі ды бохан хлеба скіраваўся ў гушчар і стаў старацелем. Шчыруе: капае і мые тоны пяску, вышуквае, не дае згубіцца самым драбнюткім кавалачкам сапраўднага золата ў шэрай безгустоўнасці, радуецца, як дзіця і запрашае нас парадавацца адшуканым самародкам...

Мне сёння цяжка ўявіць самога сябе без Леаніда Галубовіча — гэты чалавек аднойчы і мне адчыніў дзверы ў "ЛіМ". Цяжка ўявіць сённяшнюю літаратурную сітуацыю без яго. Безумоўна, згодзен: няма людзей, якіх немагчыма замяніць. Можа, не будзь Галубовіча, быў бы Гарановіч...

Але б тады, упэўнены, многае і многае ў нашай літаратуры было б не так...

Валерый ГАПЕЕЎ

# БАЦЬКОЎ РУПЛІВЫХ СЫН

Анатоль Верабей, вядомы наш літаратуразнавец і крытык, нарадзіўся ў жніўную пару, калі на колкім іржышчы сонечным бляскам зіхціць «золата саломы». Сёлетні жнівень для майго сябра і калегі асаблівы — на яго прыпадае юбілей, а таму прыспеў час агледзінаў жыццёвых набыткаў і творчага плёну. Можна сказаць словамі паэта: у яго «жыцці пачаўся жнівень — самая багатая пара». І аглядаць ёсць што, і перад людзьмі не сорамна за пражытае і зробленае, і сонца для яго яшчэ не надта нізка, і хада Анатоля імклівая, упэўненая, але…



Гэтае «але» напярэдадні азмрочыла свята народзінаў: 20 ліпеня не стала мамы… Школьная настаўніца. Роднае слова, сваё крэўнае з'ядналі іх зацікаўленні, думкі, пачуцці, і ўсё гэта самым непасрэдным чынам паглыбіла духоўную роднасць маці і сына.

Мудрыя ўрокі бацькі Леаніда Мікалаевіча сын таксама засвоіў глыбока, трывала і на ўсё жыццё. Бацька быў прыкладам і як настаўнік, тактоўны педагог у школе, і як дбайны працаўнік на сваёй гаспадарцы.

Ад бацькоў Анатолю перадаліся лепшыя чалавечыя якасці і рысы, а сярод іх такія, як добрасумленнасць, працавітасць, прыстойнасць, сціпласць, чуласць, спагадлівасць… Усё гэта ўласціва яму і як сапраўднаму беларускаму інтэлігенту, і як выкладчыку літаратуры, таленавітаму педагогу, які два дзесяцігоддзі працуе са студэнцкай моладдзю на філфаку БДУ.

На філалагічны факультэт А. Верабей прыйшоў працаваць з акадэмічнага Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Там ён абараніў кандыдацкую дысертацыю, склаўся як удумлівы, глыбокі даследчык літаратуры, раскрыўся яго творчы патэнцыял як вучонага-філолага, пра што засведчылі манаграфіі «Максім Танк і польская літаратура» (1984), «Жывая повязь часоў: нарыс творчасці Уладзіміра Караткевіча» (1985), «Беларуска-рускі паэтычны ўзаемапераклад 20—30-х гадоў» (1990).

Ужо з назваў кніг бачна, што А. Верабей засяродзіўся на праблемах літаратурных сувязей, мастацкага перакладу, разглядаючы іх як сродак узбагачэння нацыянальнага мастацтва слова і міжкультурнай камунікацыі (дыялога). У час працы ў Акадэміі навук А. Верабей браў удзел у падрыхтоўцы і выданні літаратурнай спадчыны П. Пестрака і У. Караткевіча, стварэнні унікальнага біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», склаў і пракаментаваў зборнік паэзіі У. Хадыкі «На ўзвеях дзён». Ён пачаў выступаць на старонках літаратурна-мастацкіх выданняў з рэцэнзіямі.

«Універсітэцкі» перыяд у плане творчасці стаў для літаратуразнаўца плённым, выніковым. Спраўдзіліся пажаданні Караткевіча: ён паспеў шмат зрабіць, працуючы мэтанакіравана, актыўна і надзвычай апантана. Навукова-творчы набытак А. Вераб'я складае звыш дзвюх соцень публікацый, большасць з якіх прысвечана праблеме гістарызму ў беларускай літаратуры. Галоўнай тэмай і крыніцай натхнення для яго зрабілася творчасць Уладзіміра Караткевіча, якую ён даследуе з 1978 года. А. Верабей выдаў кнігі пра пісьменніка «Абуджаная памяць» (1997), «Уладзімір Караткевіч: жыццё і творчасць» (2005). У зборніку «Галасы маіх сяброў» (1993) пад адной вокладкай сабраў Караткевічавы пераклады з розных моў.

Ён падрыхтаваў летапіс жыцця і творчасці Караткевіча, грунтоўна вывучыў яго радавод, адшукаў творы пісьменніка, якія раней не друкаваліся, асобныя з іх увайшлі ў кнігі пісьменніка «Творы» (1996), «Выбраныя творы» (2005), а невядомая аповесць на рускай мове «Предыстория» змешчана сёлета на пачатку года ў часопісе «Нёман» (№ 1—3). А. Верабей з'яўляецца аўтарам сцэнарыя дакументальнага фільма пра У. Караткевіча «Рыцар і слуга Беларусі». А колькі разоў мы чулі яго слова пра свайго любімага пісьменніка па Беларускім радыё!

Рыхтуецца чарговы тэлефільм пра Уладзіміра Сямёнавіча, выстава або вечарына ў музеі, прысвечаная яго памяці, плануецца адкрыццё помніка Караткевічу ў Кіеве — і заўсёды да А. Вераб'я звяртаюцца як да самага аўтарытэтнага і глыбокага знаўцы жыцця і спадчыны нашага славутага пісьменніка. А. Верабей спрычыніўся да выдання кнігі малюнкаў, карыкатур і шаржаў «Свет вачыма Караткевіча» (Орша, 2006), дбае пра тое, каб у Рагачове з'явіўся дом-музей пісьменніка (у хаце дзядзькі Уладзімір, бярэ ўдзел у падрыхтоўцы надзвычай цікавага і разнастайнага матэрыялу для зборніка «Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы», дзе плануецца змясціць раман-эсэ А. Лойкі пра Караткевіча, ліставанне пісьменніка з Нінай Молевай, творы, прысвечаныя ёй, аўтапераклады на рускую мову, паэтычныя прысвячэнні Караткевічу.

Самы галоўны клопат яго — выданне творчай спадчыны У. Караткевіча ў 25 тамах, і ля рэалізацыі гэтага грандыёзнага нацыянальна-культурніцкага праекта ён прыкладае вялікія намаганні, не шкадуючы ні часу, ні высілкаў. За даследаванне творчасці Караткевіча ён адзначаны ў 1998 годзе Літаратурнай прэміяй імя У. Калесніка.

Цяпер ён збірае матэрыялы для кнігі пра нашага настаўніка і вядомага паэта Алега Лойку. Студэнты паважаюць і цэняць Анатоля Леанідавіча як прафесіянала, па-сапраўднаму апантанага літаратурай, прыгажосцю і Беларуссю, яны любяць свайго выкладчыка і педагога за шчырую адданасць сваёй справе, дэмакратызм, чуласць, тактоўнасць.

Анатоль Верабей — натура паэтычная, летуценная, рамантычная. Ён можа развеяць многія міфы пра нас, беларусаў. І не толькі з дапамогай гістарычных фактаў і прыкладаў з мастацкай літаратуры. Уласным прыкладам таксама. Ведаю і не сумняваюся: Анатоль заўсёды, калі трэба, не падвядзе, падтрымае, прыйдзе на дапамогу. Як мой старэйшы калега і сябар ён абавязковы, надзейны, слова сваё на вецер не кідае. Гэта руплівы працаўнік і цудоўны чалавек з нашай беларускай супольнасці.

Алесь БЕЛЬСКІ

# Па старых звычаях на новы лад



Браслаўскі музей традыцыйнай культуры — гэта аднаўлены і адрэстаўраваны будынак млына, які з'яўляецца помнікам архітэктуры XX стагоддзя. У 1990-м да яго быў прыбудаваны экспазіцыйна-гасцінічны комплекс "Заезджы двор". Музей займае тры паверхі. На першым ладзяцца выставы з музейных фондаў. Найбольш вядомыя — "Повязь часоў", "Музычныя інструменты", "Браслаўскі ручнік", "Магічнае кола", "Жывая археалогія". Другі і трэці паверхі адведзены пад пастаянную экспазіцыю, прысвечаную гісторыі традыцыйных рамёстваў Браслаўшчыны.



## Музей прадстаўляе…

Тэматычная структура экспазіцыі складаецца з такіх раздзелаў як пляценне, разьбярства, ткацтва, рукадзелле, ганчарства. Гісторыя рамяства разглядаецца ад часоў ранняга сярэднявечча да сучаснасці. Побач з экспазіцыямі па гісторыі традыцыйных рамёстваў знаходзяцца класы-майстэрні, якія прадстаўляюць вырабы сучасных майстроў і іх вучняў. Залы, прысвечаныя гісторыі пляцення і разьбярству знаёмяць наведвальнікаў з прыладамі працы, этнаграфічнымі вырабамі, фотаздымкамі майстроў.

У ткацкай майстэрні можна пабачыць рэканструкцыі строяў XI—XII стагоддзяў і ўзоры традыцыйнага ткацтва. Дырэктар музея Элеанора Зінкевіч — вопытная майстрыха, якая працуе ў некалькіх тэхніках — прадэманстравала тэхналогію ткацтва за кроснамі, паказала, як з дапамогай этнаграфічных прылад атрымаць валакно, а пасля на верацяне зрабіць нітку. Па жаданні наведвальнікаў можна паспрабаваць зрабіць тое самае ўласнымі рукамі.

Ганчарная майстэрня музея прадстаўляе экспазіцыю археалагічных экспанатаў з гліны з часоў жалезнага веку і да XVII стагоддзя, этнаграфічны ганчарны посуд, а таксама матэрыялы па творчасці майстра-ганчара Ніны Кузьміновай.

## Цікавасць да рамёстваў

Людзі актыўна цікавяцца традыцыйнымі рамёствамі. Пры музеі працуе пяць класаў-майстэрань, дзе навучаюць тэхніцы салома- і лозапляцення, рукадзеллю, ткацтву і ганчарству. Працуе клуб народных майстроў і самадзейных мастакоў "Ля возера", які аб'ядноўвае пяцьдзесят умельцаў. У музеі праходзяць клубныя пасяджэнні, сустрэчы з адметнымі майстрамі, персанальныя выставы мастакоў клуба. Штогод тут ладзіцца восем выстаў, "Свята рамёстваў", а таксама конкурсы па рамёствах.

Сёлета ў ліпені ўпраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама і Віцебскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці праводзілі III абласное свята-конкурс саломапляцення "Папараць-кветка", які прысвячаўся 65-годдзю Вялікай Перамогі. У конкурсе ўдзельнічалі і браслаўскія майстры. Першае месца ў намінацыі "Традыцыйны утылітарна-дэкаратыўны выраб" атрымала Элеанора Зінкевіч, другое месца ў намінацыі "Калекцыя хатніх твораў" журы аддало Міхаілу Чэркасу.



## Сучаснае вяселле па старых звычаях

Адметнасцю музея з'яўляецца правядзенне абрадавых святаў. Даволі часта тут праходзяць вяселлі. Раней іх ладзілі ў карчме ці заезджым двары, што зазвычай будаваліся пры млынах, таму і сёння моладзь з ахвотаю робіць экскурс у мінуўшчыну. Сцэнарый, распрацаваны супрацоўнікамі музея, аднаўляе старажытныя звычаі браслаўскага вяселля. І сапраўды, сама атмасфера старажытнай карчмы, гаспадары ў нацыянальных строях, традыцыйная беларуская музыка, рэчы і прылады мінулых стагоддзяў ствараюць асаблівы настрой. Сустракаюць маладых хлебам і мёдам. Па звычаі яны частуюць адно аднаго кавалачкам хлеба, а гаспадыня дае ім па лыжачцы мёду і расказвае пра тое, што першы месяц сумеснага жыцця таму і называецца "мядовым", што маладых кожны дзень частавалі гэтым ласункам.

Назва "вяселле" паходзіць ад слова "весела", таму далей гаспадары забаўляюць маладых жартаўлівымі віншаваннямі кшталту: "Дарым жаніху пшонку, каб любіў толькі жонку!", "Дарым нявесце буракоў, каб не глядзела на чужых мужыкоў!", "Дарым вам капусту, каб ў доме не было пуста!"

Гаспадыня нагадвае маладым, што каханне — гэта не толькі мілаванне, але і наладжванне сумеснага побыту. Далей іх чакаюць заданні-выпрабаванні. Так, жаніха вучаць правільна вязаць венік. Пакуль ён спрабуе яго зрабіць, супрацоўніцы музея расказваюць аб тым, што сімвалізуе венік. Раней лічылася, што венік — гэта прытулак дамавіка, таму пры пераездзе ў новы дом стары венік абавязкова забіралі з сабой. Існавала таксама шмат народных прыкмет, звязаных з гэтым прадметам. Нявесце прапаноўваецца паспрабаваць прасці на калаўроце ці верацяне.

Гаспадыня запрашае зазірнуць у куфар з пасагам маладой. Там знаходзяцца даматканыя скруткі, пасцельная бялізна, вопратка, паясы, вышываныя наміткі, ручнікі, кашулі, якія дзяўчына рыхтавала не толькі для сябе, але і для будучага мужа. З гісторыі вядома, што прасці, ткаць і вышываць абавязкова ўмелі і княжацкія дочкі.

Больш падрабязна гаспадыня расказвае пра этапы вясельных традыцый. Распачынаецца вясельная частка Зборнай суботай. Гэта перадвясельны вечар, у час якога маладыя паасобку рыхтуюцца да свята. У маладой збіраліся дзяўчаты, спявалі сумныя песні, шылі вэлюм альбо рабілі вянок. Сёння ў музеі нявеста мае магчымасць прымераць вэлюм, які надзявалі ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя.

Увогуле, кожная дзяўчына загадзя рыхтавала свой пасаг і захоўвала яго ў куфры. Дзяўчаты сядалі за кросны з чатырнаццацігадовага ўзросту, як толькі ногі пачыналі даставаць да панажэй. А да гэтага вучыліся прасці на верацяне ці калаўроце, дапамагалі накручваць ніткі на цэўкі. Цэўка — прылада, на якую накручваюць ніткі, а потым устаўляюць яе ў чаўнок.

Асобная частка вясельнага сцэнарыя прысвячаецца размовам пра каштоўнасці кахання, вернасці і павагі. Гаспадыня прапаноўвае жаніху адзін замок і некалькі ключоў, з якіх ён павінен падабраць адпаведны. Потым маладыя разам замыкаюць гэты замок Вернасці на ключ і перадаюць каму-небудзь са старэйшых на захаванне. Лічыцца, што гэты замок ніколі нельга адмыкаюць. Яшчэ адзін сімвал кахання і моцнай сям'і — лялькі-неразлучнікі. Сакрэт вырабу такой лялькі захаваўся з даўніх часоў. Яны не сшываюцца іголкамі, а скручваюцца з кавалкаў тканіны і звязваюцца льнянымі ніткамі. Гэта абярэг маладой сям'і, яго захоўваюць усё жыццё.

Каб павесяліць гасцей, гаспадыня загадвае жартаўлівыя загадкі. Заканчваецца вяселле ў карчме беларускай полькай. Застаецца дадаць, што звычаі ладзіць вяселлі па старажытных традыцыях сярод браслаўскай моладзі — запатрабаваныя. А гэта сведчыць аб тым, што нацыянальныя традыцыі, звычаі і абрады захоўваюцца і перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

На здымках: дырэктар музея Элеанора Зінкевіч прадстаўляе свае вырабы з саломкі; адзін з экспанатаў; фрагмент вяселля.

Фота аўтара

## У наступным нумары

"…Колькі слоў адносна напісання прозвішча. У дакументах яно значыцца ў мяне "Каленковіч" (пашпарт). У літаратурных дакументах — Калінковіч. Спрабаваў разабрацца ў Мінскім дзяржаўным гістарычным архіве. Падняў кнігі Кажан-Гарадоцкай царквы XIX ст. Устанавіў, што прозвішча маіх продкаў пісалася "Калиникович"... Ішоў час, змяняліся пісарчукі, пісалі па-рознаму. Хіба зараз установіш — як правільна. Мне падабаецца — Калінковіч, вось так і пішу. Хай будзе — "калісьці на Ніколу".

Так піша ў сваёй аўтабіяграфіі, надрукаванай у кнізе "З розных сцяжын", пісьменнік Мікола Калінковіч. Сёлета яму споўнілася б 60 год. Значная частка жыцця яго прайшла ў Туркменістане. Але, здаецца, ні на хвіліну ён не забываўся пра родную Беларусь.

Нататкі пра Ашхабадскі перыяд жыцця Міколы Калінковіча прапануе пісьменнік Васіль Ткачоў.

З глыбінкі

## Карабельмары

У Салігорскім краязнаўчым музеі праходзіць першая персанальная выстава юнай мастачкі Кацярыны Міхайлавай.

Дзяўчынка малявала з ранняга дзяцінства. Спачатку бацькі лічылі яе захапленне забавай. Але аднойчы Каця намалявала караблік. Ён плыў па хвалях насустрач марам... Хвалі мора выглядалі так натуральна, а сам караблік заварожваў, ён быццам запрашаў у нязведаныя далі....

Убачыўшы работу дачкі, яе мама, Таццяна Георгіеўна, вырашыла, што дзяўчынка павінна паступіць у Салігорскую дзіцячую мастацкую школу. З першых дзён навучання яна праявіла сябе як вельмі працаздольная і прылежная вучаніца.

— Каця заўсёды шмат працавала, — расказвае выкладчык гэтай установы Алена Бандарчык. Адна за другой у яе з'яўляліся работы, якія нават здзіўлялі педагогаў школы. Юная мастачка прымала актыўны ўдзел у розных выставах, пленэрах. Два гады запар яна займала першае месца ў рэгіянальных пленэрах, а таксама выйшла пераможцай абласнога тура рэспубліканскага конкурсу "Зорка ўзышла над Беларуссю".

На працягу апошняга навучальнага года Кацярына не толькі паспяхова займалася у абедзвюх школах — мастацкай і агульнаадукацыйнай, але натхнёна працавала і над дыпломнымі работамі, сярод якіх асабліва выдзялялася "Месяцовая саната". Работа незвычайная, як па тэхніцы выканання, так і па сюжэце. У ёй, як у люстэрку, адбіліся мары і фантазіі юнай мастачкі, вялікае жаданне служыць высокім ідэалам.

Нядаўна Кацярына паспяхова здала ўступныя экзамены ў Беларускай акадэміі мастацтваў і стала студэнткай графічнага факультэта. Вучыцца будзе на дзённым аддзяленні на бюджэтнай аснове.

Таццяна ГАЎРУСЁВА

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009.
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2900
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 12.08.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 3844
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686